# МЕРА ЧАЛАВЕЧНАСЦІ

Лічыцца амаль аксіёмай, што паэты і фізікі выяўляюць сябе або рана, або ніколі. Але пастулаты, здавалася б, дастаткова выверанныя жыццём, ім жа і абвяргаюцца.

Паэт Анатоль Вярцінскі з тых, хто трывала ўвайшоў у літаратуру досыць позна. Увайшоў, добра павастрыўшы пяро па старонках раённых газет допісамі пра сяўбу, пра касавіцу, пра хлебанарыхтоўкі, пра ўсё, што было і будзе клопатам раённых будняў. І, мабыць, нездарма першая яго кніга называлася «Песня пра хлеб», а ва ўсіх астатніх — ад «Трох цішынь» да «Ветрана» — адчуваецца гранічная публіцыстычная завостранасць, імкненне падумаць над фактам, адгукнуцца на падзею дня. Баявая, штодзённая журналісцкая загартоўка шмат у чым абумовіла актыўнасць творчага і грамадзянскага тэмпераменту паэта. Але, мабыць, у нечым і адтэрмінавала знаёмства шырокага чытача з паэтам Анатолем Вярцінскім.

Затое, калі такі момант наспеў, мы пазналі паэта цікавага, яркага, актыўнага, мэтанакіраванага ў выяўленні сваіх мастакоўскіх прынцыпаў. Вярцінскі ўпарта выяўляў сваё творчае «я». Таму не выпадковы, мусіць, той юнацкі максімалізм, якога прытрымліваецца дагэтуль паэт. І не выпадковае гэтае, як дэвіз: «Жыць — значыць дзярзаць!» Анатоль Вярцінскі адваяваў у жыцця права быць паэтам.

І не выпадкова ён дзеліць людзей на герояў і не герояў, на праметэяў і непраметэяў. Дзярзаць! Хіба можна сябе прыкаваць «да скалы ўласнага страху»? Сярэдзіны не бывае, кампрамісы і так званая жыцейская мудрасць: «Хочаш жыць у святле і цяпле — сам здабывай агонь для сябе» — вядуць да змізарнення, знішчэння чалавечай асобы.

«Жыць — значыць дзярзаць!» Не выпадкова гэтыя словы-праграма з'явіліся менавіта ў вершы, прысвечаным Міхасю Лынькову. Яны гучаць абяцаннем, клятвай. І гэты свой галоўны прынцып жыцця і творчасці Вярцінскі сцвярджае настойліва, з кнігі ў кнігу, даводзячы ўсім і самому сабе, што жыццё як інертнае існаванне — не жыццё, толькі прывід яго.

Бескампраміснае асуджэнне маральнай уступчывасці, трошкі нават дэкларацыйная грамадзянская актыўнасць, падкрэсленая дыскусійнасць, ало разам з тым імкненне ўвесці ў зваротак абагульненыя катэгорыі, якія не так часта «эксплуатуюць» у сваёй творчасці беларускія паэты, напружаная эмацыянальнасць— усё гэта садзейнічала поспеху Анатоля Вярцінскага. Ён востра адчуў рытм часу, змог быць асабліва паслядоўным у яраснай адкрытасці,

разлічанай на імгненнае ўспрыняцце — і неяк адразу; пасля зацягнутага старту, з сярэдзіны 60-х гадоў стаў адным з вядомых паэтаў Беларусі.

Імкнучыся да высокага ідэала, паэт заўсёды адчувае адказнасць за свае ўчынкі, за ўчынкі іншых, за ўсё, што адбываецца ў свеце. А сапраўднасць ідэалаў, сцвярджае ў адным са сваіх вершаў паэт, выяўляецца часам:

...тут — толькі попел,
　　　　там — алмаз,
тут — зерне,
　　　　там — палова,
тут — пустазвонства гучных фраз,
　　　　там — ісціннае слова.
　　　　　　　　　　　　(«Навагодні тост»)

Паэт спрабуе галоўныя прынцыпы свайго паэтычнага вопыту — «жыць — значыць дзярзаць» — праецыраваць на агульначалавечы вопыт. Імкнецца пабачыць — як гэтыя прынцыпы выглядаюць у дастасаванні да гістарычнага і літаратурна-міфалагічнага вопыту. Да сусвету і вечнасці. Зыходзячы з таго самага прынцыпу падзялення людзей на герояў і негерояў, на праметэяў і непраметэяў. Ён бярэ непасрэдна сам неўміручы міф аб Праметэі і робіць героя міфа сваім канкрэтным персанажам. І, ствараючы яго, ператварае прагу дзеяння ўвогуле, дзярзання ўвогуле ў канкрэтныя ўчынкі героя («Варыяцыі на тэму «Гефест — друг Праметэя»). Паэт імкнецца дайсці да перадгісторыі міфа, да той прычыны, што зрабіла Праметэя такім, якім яго ведае чалавецтва: «І ў тым сакрэт маёй метамарфозы, што з нейкае пары я стаў любіць».

Любоў — як сіла дзейсная і усемагутная, усеперамагаючая — зрабіла Праметэя такім. Гэта вельмі важна для Вярцінскага. Тут ён бачыць першавысновы жыцця. Любоў — аснова ўсяго сутнага, усяго існуючага на зямлі. Усвядомленае пачуццё любві для паэта — мера чалавечнасці: «Што значыць сапраўдным другам быць? Любіць», («Што значыць сапраўдным другам быць?»)

Любоў паэт разумее як аснову грамадзянскай цэласнасці, як неабходную аснову справядлівасці. Любоў для Анатоля Вярцінскага — неад'емная катэгорыя чалавечага існавання: «Што значыць зямное шчасце здабыць? Любіць».

І як чалавек, грамадзянін, гуманіст ён катэгарычна не ўспрымае ўсё, што супярэчыць гэтым высновам, нармальнай

чалавечай існасці. Зразумела, прымаючы пад увагу пэўныя сацыяльныя абставіны, канкрэтную і класавую пазіцыю.

Вярцінскі ўмее адчуць тую своеасаблівасць, што дае вершу вобразную актыўнасць, замацоўвае эмацыянальнае ўздзеянне. Ёсць такая жудасная статыстычная даведка — у вайну загінуў кожны чацвёрты беларус. І ёсць жартаўлівыя радкі ў народнай песні — «Ой, хацела мяне маці за чацвёртага аддаці». Дык няма гэтага самага чацвёртага, не было за святочным сталом кожнага чацвёртага, адышоў у немату небыццця кожны чацвёрты, не пабачыў неспазнанага блакіту неба — кожны чацвёрты. А жыццё ідзе — і няма ў ім кожнага чацвёртага. Нечага сына, брата, мужа.

А тое сярэднестатыстычнае «кожны чацвёрты» абарочвалася і страшнай прыватнасцю — у сям'і загінулі ўсе. Засталася адна — маці, жонка. Загінулі ўсе, дзеля каго яна жыла. І вось гэтая жанчына, якая, можа, ніколі не задумвалася над тым, што такое гуманізм, ведае яго сэрцам, душою («Дынамік»). І ўмее ў болі сваёй вялікай страты жыць для жывых, радавацца іх радасцям. Як і тая цётка з другога. верша Анатоля Вярцінскага, што

...свету ўсяму спагадала,
яго раны лячыла аддана.
Які б вылечыў іх урач,
Каб не цётчын спагадлівы плач?

(«Цётка плакала па ўсім свеце...»)

Драма адзіноты... Яна страшная ў безвыходнасці сваёй як жудасны вынік вайны. Але яна цяжкая несправядлівасць і калі гэта проста раз'яднанасць чалавечых душ, адчужанасць людская. «Падае за бар'ерам бар'ер — гукавы, светлавы, зямных гравітацый...» Калі ж «дойдзе чарга да бар'ера глухой адчужанасці людской, неразумення і недаверу?» — задае пытанне Вярцінскі («Бар'еры»), Ён прагне разбурэння гэтых бар'ераў — «вышэйшую гармонію» сучасных чалавечых адносін бачыць у святле самых новых пашыраных уяўленняў. Калі існуе ісціна Лабачэўскага — «сустрэліся... дзве паралельныя прамыя», дык і новую форму чалавечых адносін павінен прапанаваць наш час, і лёсы людскія павінны перасякацца, як тыя паралельныя прамыя («Дзве паралельныя прамыя»). Павінны запаўняцца прастора адчужанасці і няведання цеплынёй чалавечых адносін, узаемаразуменнем. Раскаванасць чалавечай душы,

шчырасць чалавека вітае паэт. Паміж людзьмі кожная сустрэча не можа не быць «узаемапамнажэннем нашых дум і душ».

Так, узаемасутыкальнасць, любоў для паэта — аснова быцця, неадымная катэгорыя чалавечага існавання, і адно з праяўленняў яе — каханне да жанчыны. Гэтае вечнае жыццёвае ўзаемадачыненне — мужчына — жанчына — успрымаецца паэтам як частка жыццёвага круга:

І я, як звяно, уключаўся ў ланцуг
любові, яе ўсепланетнай сістэмы...

(«Гудзела, гуло ў маіх вушах...»)

Каханне, па Вярцінскаму, вечнае і абавязковае звяно ў непарарыўнай сувязі часоў і з'яў. Каханне — святочнае светаўспрыманне, калі звініць шчасцем паветра, калі свет добры і шчыры. Каханне — карагод радасці, у якім кружыцца ўсё, што навокал,— дрэвы, неба, сонца, вясельны тлум прыроды («Той год незвычайны»), калі «прагнуць душы святла спатканняў і баяцца імглы адзінот...» («Што казалася, што адбывалася...»).

Жанчына для лірычнага героя паэта — стыхія. Багіня. Як дуд, у адчужэнні ад нудотнай мітусні, прыходзіць да героя адкрыццё: жанчына, якая побач з ім, увасабляе гармонію сонца і мора, вялікае хараство зямнога быцця: «Жанчына і мора? Дзве вольных стыхіі», «Жанчына і сонца! Хіба вас падзеліш?» Па-рыцарску малітоўнае пакланенне чуецца ў словах паэта: «Жанчына і сонца!.. Хай свеціцца дзень ваш!»

Лірычнага героя «Паэмы мора» вечная стыхія прымушае выявіць для сябе многія ісціны. І убачыць як упершыню прыгажосць жанчыны, 1 адчуць сваю супрыналежнасць да стыхіі мора, да яго вечнай мудрасці. І паспрабаваць спасцігнуць самога Сябе, Жыццё, Час, вечныя і вялікія катэгорыі маралі і чалавечага хараства.

Хаця настроі гэтыя ў паэме прыходзяць не знянацку. Гэта, мне здаецца, сталая настроенасць Вярцінскага — прыслухацца да высокай цішыні вечнасці, адчуць існаванне часу ў прасторы чалавечых страсцей і думак, спасцігнуць сэнс сапраўднага, аслабаніць сябе ад марнай мітусні, каб

Застацца з той цішынёю,
з ёю, сівою савой,—
стаць сутнасцю сваёю,

стаць самім сабой.
Застацца з ёю — гэта
у той увайсці сезам,
дзе сам-насам з сусветам,
з вечнасцю сам-насам.

(«Тры цішыні»)

Але, як ужо згадвалася, Вярцінскі не з тых паэтаў, што лунаюць толькі ў стратасферы духу і думкі. Ён ставіцца з увагай да канкрэтнага дзеяння, учынку, факта. Умее часам за прыватным фактам вылучыць вялікі мастацкі сэнс, за звычайнай падзеяй пабачыць важнасць з'явы. Есць у яго, скажам, «Балада пра спаленую вёску і жывога пеўня». Канкрэтная відавочнасць факта, парадаксальная супярэчлівасць падзей насычаюць выбуховай экспрэсіяй «Баладу...» Такі неадменны атрыбут вясковага рання — певень, жывы сігнал дня: трэба даіць кароў, паліць печы, ісці ў поле. Адзін певень азавецца, другі, трэці — і пайшоў рабочы перазоў на вёсцы. А тут галосіць певень, а ніхто з ім не перагукваецца, ніхто не ўстае на золку. Спаленая, мёртвая вёска — і жывы певень. Несуадноснасць, несувымернасць.

Або — ёсць у Анатоля Вярцінскага верш «Статак вяртаецца з поля». Пра звычайную падзею, што кожны дзень улетку адбываецца ў вёсцы. Але так гэта рэчыўна, зрокава адчувальна пададзена, так усім ладам верша сцвярджаецца будзённая важнасць, непарушная трываласць падзеі, што мы адчуваем у будзённым факце з'яву — урачыстую, як меса працы, і простую, як луста хлеба.

Ён актыўны ў пошуках жанраў. У яго з'явіліся і казкіп'есы. Ён актыўны як крытык — артыкулы, эсэ, дыялогі, інтэрв'ю. Асэнсаваць уласную творчасць і творчасць іншых — бясспрэчнае правіла для Вярцінскага.

Так і апошняя па часе напісання «Паэма надвор'я» — у фарватэры пастаянных пошукаў паэта. Пра клімат быцця, надвор'е душы, пра надвор'е маральнае — на планеце, у гісторыі, у нейкіх. фрагментах жыцця грамадскага і асабістага. Пра тую запаветную струну ў душы і жыцці кожнага, якая не дае паддацца маральнай спячцы. Паэт, нагадваючы нам пра вернасць сваім ідэалам, як і у «Паэме мора», даслоўна паўтарае:

Яшчэ што ад нас залежыць,
дык гэта — быць сабой,

дык гэта — захоўваць свежасць
надзеі сваёй людской.

Свежыя ветры эпохі — сёння і тры чвэрці стагоддзя назад — і пра гэта паэма Анатоля Вярцінскага. Прычым асаблівай выразнасці ў гэтай паэме, як і у папярэдніх сваіх творах, Вярцінскі дасягае, калі не баіцца што-небудзь прамінуць у фактах, калі ён адступаецца ў нечым ад сваёй дасведчанасці і дае магчымасць думцы і эмоцыі сплавіцца і выслабаніцца ад путаў шматлікіх дэталей, становіцца раскаваным, смелым, лёгкім. Скажам, у «Эцюдзе сёмым. Тры дні збіраўся дождж...» як быццам і цяжка вызначыць, у чым тут сакрэт, але вызваленая думка, вызваленая рытміка верша перадаюць і вызваленне прыроды, і вызваленасць чалавечага духу, азанiраваны клімат душы. Радок вядзе за сабой, прымушае ўжыцца ў гэтым клімаце — ці хочаш ты акліматызавацца ў ім ці не.

І ва ўсім — тая ж адкрытая эмацыянальнасць, нават падкрэсленая адкрытасць эмоцый, што і у ранейшага Вярцінскага. Дарэчы, чамусьці існуе даволі ўстойлівае меркаванне, што Вярцінскі — паэт рацыяналістычны.

Але, мне здаецца, эмоцыя і думка ў яго выступаюць у спалучэнні. У тым і сіла паэта.

Ён не схільны да пункцірнасці вобраза, аддае перавагу размашыстасці чоткай лініі, шырыні мазка, не вельмі спакушаецца паўтонамі. У сваёй спіралі пошуку ён даражыць рухам верша, каб «тэмпература» яго твораў была адэкватная тэмпературы быцця, тэмпературы актыўнага, дзейснага светаўспрымання.

АЛА СЯМЁНАВА

## АДЫХОД ЛЕТА

Над галавою сінява плыве.
І воблачка па-летняму бялее
у гэтай невыказнай сіняве,
бялее, як на возеры лілея.

Ды набліжэнне іншае пары
заўважыць можна ў гэтую часіну.
Не-не і убачыш раптам: угары
пранесла лёгкім ветрам павуціну.

На фоне светлым, сонечным яна
мільгнула сумнаватаю прыкметай.
Табе здалося: гэта сівізна
гарачай працай стомленага лета.

Ды ціхае і светлае яно,
хоць дні ягоныя ўжо на схіле,—
бо да гадзіны гэтай усё адно
зрабіць паспела, што было па сіле.

Ты чуеш, як звіняць дзесь галасы.
То палявой бясконцаю сцяжынкай,
па-над якой звісалі кал асы,
ідуць у вёску з песнямі дажынкі.

Сад не шуміць, бо не ўзняць галін:
яны сагнуты цяжкімі пладамі.
Даспелі гронкі маладых рабін,
палаюць чырванню паміж лістамі.

І прад нязмерным выспеўшым дабром,
прад гэтым збожжам, садам ды рабінай
не такіі сумны летніх дзён надлом,
адзначаны асенняй павуцінай.

## НОЧ НЕПАКОІЦЦА

*Вздохи дня есть в дыханье ночном.*
А. Фет

Глядзець уніз стаміўся месяц
і прытаіўся між аблок.
Спыніўся ветрык каля весніц
ды зноў пабег кудысь у змрок.

І, лёгка выбегшы за вёску,
на лузе сена ўзварушыў.
То вось пачуўся хвалі плёскат
у насцярожанай цішы.

То птушка закрычыць спрасоння
і затрапечацца ў траве.
То каласы ўраз загамоняць,
затрызняць ціха аб жніве.

То нечаканая зарніца
рассее раптам ночы цень...
Ноч непакоіцца: ёй сніцца
гарачы працавіты дзень.

## ДЗЯВОЧАЯ ПЕСНЯ

Раніцою ў сад я выйшла,
і кіўнула галінкаю мне
за зіму настыўшая вішня,
ціха тужачы аб вясне.

Нібы ведае, што сама я
разам з ёю чакаю вясны...
Вішня-вішанька дарагая,
скора збудуцца твае сны.

Дачакаешся белых кветак
і шумлівай зялёнай ліствы...
Каб я знала, што прыйдзе гэтак
мая радасць у дзень веснавы,

каб я знала, што ясным ранкам
да майго ён падыдзе акна,
што парой вечаровай з гулянкі
больш не буду прыходзіць ад на,

не тужыла б я, вішанька-вішня,
толькі б клікала сэрцам той час.
Не сумуй, не трывожся залішне
скора прыйдзе вясна да нас.

## ДОЖДЖЫК

Без ветраў
і раскатаў грамавых
пайшоў ён раптам,
цёплы і спакойны.
І ўжо глядзяць
пучкі лісткоў жывых
з усіх галінак
на таполі стройнай.
І нібы чуеш, як трава расце,
і зелянеюць неўзабаве ўсходы...
Аб сціплай чалавечай дабраце
напомніць дожджык гэткі мне заўсёды.
Жыве дзесь побач чалавек, і ён
не любіць гучных слоў,
хваліцца
заслугамі не будзе, як закон,
не сыпле гром і бліскавіцы.
І непрыкметны часам ён таму.
Ды вось у цяжкія гадзіны
суцешыць, гору памагчы твайму,
напэўна, зможа толькі ён адзіны.
Не будзе ён ні ахаць, ні ўздыхаць,
а моўчкі рукі накладзе на плечы
і скажа ціха:
«Хопіць гараваць».
І ўсё так будзе проста і дарэчы.
Ад дабраты яго адчуеш ты
прыліў у сэрцы сілы новай...
...Ліецца дожджык, цёплы і густы,—
як дар жаданы для зямлі вясновай.

## АГРАНОМ

Вецер вясновы ў полі гудзе.
Вецер хвалюе сонца ў вадзе.
Між снегам і сонцам,
полем бясконцым
насустрач ветру дзяўчына ідзе.
У поле сягоння яна прыйшла
самая першая з сяла.
Хоча ўбачыць яна сама,
ці многа тут весняга святла,
ці многа тут весняга цяпла.
Мо ўсходы згубіла зіма?
Усё абуджаецца кругом.
Полем вясновым ідзе аграном
Першай вясну сустракае яна,
хаця турботы нясе ёй вясна,
хаця надыходзіць той час,
калі раніцовую зару,
калі вечаровую пару
у полі застане не раз.
У полі сустрэнецца аграном
і з першым вясновым дажджом
У полі пачуе аграном
і першы вясновы гром.
І першая ўбачыць яна,
як зелені жытняй сцяна —
ад працы яе маладой,
ад промняў жывых веснавых,
ад кропляў жывых дажджавых
становіцца залатой.
І першая ўбачыць яна,
што выспела збажына,
што вырашчан ураджай,
хутчэй яго толькі ўбірай.
Ёй скажуць усім сялом:
«Дзякуй табе, аграном!
Вялікае дзякуй табе!..»
Вецер вясновы ў полі гудзе,
вецер хвалюе сонца ў вадзе.
Насустрач ветру дзяўчына ідзе
і думае аб сяўбе.

## ВЕСНАВОЕ

Прачынаешся раніцою,—
табе ў вочы ўдарыць святло.
Не пазнаеш свайго пакою,
у ім змроку нібы не было.

У ім водсвет вясны бясхмарнай,
поўны ён маладога святла.
Зайка — промень жывы, янтарны
на сцяне, на абрусе стала.

Яго ўбачыш — дзяцінствам павее
і яшчэ нечым светлым такім,
што, як радасная надзея,
авалодае сэрцам тваім.

Нібы дзеўчыне закахана
ў вочы ясныя глянуў ты,
ці пачуў голас маці рана,
поўны ласкі і дабраты.

Ты падыдзеш, усхваляваны,
да акна, скажаш: «Добры дзень!»
Добры дзень, веснавыя туманы!
Добры дзень, веснавы прамень!

## СТРАКОЧА САРОКА, СТРАКОЧА..

Стракоча сарока, стракоча.
Аб чым расказаць яна хоча,
другім, можа быць, і няўцям.
А маці? О, ведае маці,
аб чым гэта птушка на хаце
шчабеча — быць скора гасцям.
Другі дзень стракоча сарока.
Пабегла дарога далёка,
далёка за небакрай...
І маці падоўгу з парогу
маўкліва глядзіць на дарогу:
«Хутчэй жа, сынок, прыязджай».
А недзе на тую ж дарогу
з глыбокай сардэчнай трывогай
дзявочыя вочы глядзяць.
І ў іх то надзеі іскрынка,
то горкага суму слязінка —
не можа яна не чакаць.
Дзень трэці стракоча сарока.
Пабегла дарога далёка,
хтосьці едзе дарогаю той.
Прыкмеціла маці сына,
угледзела хлопца дзяўчына.
Куды ж раней пойдзеш, хлапчына,—
да маці ці любай сваёй?

* * *

Імчыць машына «хуткай дапамогі».
Ратунак, пэўна, некаму нясе.
Яе сірэна — як сігнал трывогі,
і адкрываюць ёй дарогу ўсе.

І паставыя ў будках, кожны стрэчны,
не зводзячы з яе вачэй,
удачы будуць ёй жадаць сардэчна,
у думках падганяць: «Хутчэй, хутчэй!»

Скароцяць пажаданнямі дарогу.
Машыне, знаю, не спазніцца той...
...Вось так бы нам заўсёды біць трывогу,
як толькі стрэўся чалавек з бядой.

* * *

Пад стукі вагонных калёс
аб тых, незнаёмы чый лёс,
аб новых дарогах-шляхах,
нязведаных далях-краях
узрушана думаецца.

Пад ціхае плёсканне хваль
зарэчная мроіцца даль,—
аб чымсь запаветным, сваім,
аднойчы забытым зусім
спакойна думаецца.

Пад посвіст зімовых завей
аб дружбе, з якою цяплей,
аб тых, хто ў дарозе брыдзе,
аб новай вясне, што ідзе,
хораша думаецца.

Пад весні зялёны шум
праходзяць турботы і сум,—
аб светлых з'явах зямных,
аб добрых справах людскіх
радасна думаецца.

І толькі калі кругом
грукоча далёкі гром,
аб лютай, жахлівай вайне,
З дзяцінства што помніцца мне,
трывожна думаецца

* * *

Многа ёсць на зямлі калек,
на зямлі і ў маёй старане.
Дажываць яны будуць свой век
напамінкам жывым аб вайне.

У адных з іх няма вачэй,
у другіх жа — рука адна.
Ну, а трэцім яшчэ цяжэй:
ім скалечыла душы вайна.

Яны з крыўдай глядзяць на свет.
Ім кашмары сняцца ўначы.
Рукі доўга лячыў лазарэт,
а душу паспрабуй палячы.

І ад тых успамінаў і сноў
паратунак — у веры адной,
што вайна не паўторыцца зноў,
не зальё мірны дзень крывёй.

## ШЧАСЛІВАЕ РЭХА

Мы моўчкі стаім
на сонцам залітай паляне.
Павевам сваім
чаруе нас светлае ранне.
Бялюткіх аблокаў сям'я
павольна плыве па небе.
Чакаю: сяброўка мая
скажа мне зараз што-небудзь.
Гарэза яна — як дзіця,
на выдумкі, ой, майстрыха!
Ды тут ад свайго пачуцця
змянілася, стала ціхай.
Уся яна — увага і слых,
уся яна — захапленне.
А вочы смяюцца — у іх
іскрынкі якогась рашэння.
На дыбачкі стала аж,
рот акружыла далонькай.
«Ты чуеш голас наш?!» —
крыкнула звонка-звонка.
І коціцца мігам адказ
нядрэмнага рэха.
Насустрач пабеглі ад нас
раскаты вясёлага смеху.
Смяецца каханка мая —
рада находцы без меры.
«Паслухай! Кахаю я,
кахаю і ў шчасце веру!»
«І я-я»,— ёй уторыць гай.
«І веру-у», — шчыра гукае.
І нават птушыны грай
на нейкі момант змаўкае.
Прыціхлі ўсе: салавей,
сініцы і берасцянкі —
не чулі яны раней
гаворкі маёй каханкі.
Яна ж паглядзіць на мяне:

маўляў, падзялі ўцеху.
Ды зноўку задорна гукне
свайму субяседніку-рэху.
Смяюся я разам з ёй.
І верым мы шчыра, як дзеці,
што там, за зялёнай ліствой,
знаходзіцца нехта трэці.
І любай кажу я ўсур'ёз:
«Не рэха табе адказала,
а нечы шчаслівы лёс —
шчаслівых наўкола нямала.
Нехта, як мы, малады,
радасны і прыветны
прыйшоў раніцой сюды
з марай сваёй запаветнай...»
Смяецца сяброўка ў адказ
сваім непаўторным смехам.
Звяртаецца смех да нас
шчаслівым раскацістым рэхам.

## ВЯСНУШКІ

Маленькія бяскрыўдныя вяснушкі..
А колькі клопатаў было дзяўчыне
парой вясноваю, калі вяснушкі,
як зоры вечарам на небе чыстым,
на твары высыпалі дружна.
Здавалася тады дзяўчыне,
што ўсю красу яе яны загубяць,
што зробяць яе вельмі непрывабнай
маленькія бяскрыўдныя вяснушкі.
І горка праклінала іх яна
і ненавіснымі іх называла.
І доўга так было, пакуль
з любоўю не спаткалася сваёй
вясноваю парой дзяўчына.
Яны сядзелі побач да зары.
Калі ж зара яе твар асвятліла,
глядзеў хлапчына, як зачараваны,
на твар яе, а потым і сказаў:
— Якая ты прыгожая ў вяснушках
І ў першы раз яна не крыўдавала,
што пра вяснушкі гаварылі ёй.
І ў першы раз падумала яна,
што не такая страшная загана —
маленькія бяскрыўдныя вяснушкі.

## СПАТКАННЕ

— Як хораша! А колькі, скажы, часу?
Яшчэ, напэўна, рана? Пяць гадзін!
Не можа быць! Жартуеш ты, канешне.
Зусім нядаўна ты ка мне прыйшоў.
Пагаварыць як трэба не паспелі,
і пяць гадзін ужо.
                                        Не, не,
гадзіны дзве, не болей.
                                        Праўда?
— Не, дарагая, не жартую я.
Ды што нам да гадзінніка, скажы?
— Як разам мы — бягуць-бягуць гадзіны.
Нічым іх не спыніць і не суняць.
Калі цябе я днём чакаю,
калі чакаю вечарам цябе,
на стрэлкі часта-часта паглядаю,
здаецца мне:
                          яны стаяць на месцы.
Тады мінуты ад гадзін даўжэй,
і вечнасцю здаюцца мне гадзіны.
А ў час прызначаны прыходзіш ты —
навыперадкі стрэлкі наімчалі.
Пагаварыць з табою не паспелі,
і ўжо глядзіш — світанне ў акне,
і зноў «бывай» ты кажаш мне.

## ЗАРНІЦЫ

Расчыняю шырока весніцы...
Сёння мне не да сну,
                                        не да сноў.
Я зарніцы —
                дажджоў прадвесніцы
хачу сёння ўбачыць зноў.
Знаць хачу, колькі будзе зелені,
будзе свежасці для людзей,
і ці вырасце ўсё,
                                        што сеялі,
з чым звязалі столькі надзей.
Вось і радуюся зарніцам.
Знаю, следам за імі дождж
пачне шчодра паіць зямліцу,
паліваць яе ўшыр і ўдоўж...
Яна ж толькі аб гэтым і марыць...
Дзесьці зноў, за далёкім сялом,
за далёкаю-дальняю хмарай
узмахнула жар-птушка крылом.
Я загрукаю ў аканіцы,
я людзей разбуджу,
                                        абвяшчу:
«Людзі, бачыў я зноў зарніцы! —
Быць дажджу,
залатому дажджу!»

## ВЯЛІКІ СТАРТ

*Адрачомся ад старога свету,*
*абтрасём яго прах з нашых ног...*
*З рэвалюцыйнай песні*

Касмічнай эры пачаліся дні.
Адкрыты шлях да зор.
Збылося!
Давайце ж прыгадаем у цішыні,
як гэта ўсё калісьці пачалося...
Раней, чым адарвацца ад зямлі,
чым павядзе Гагарын наш ракету,
на бітву пралетарыі ішлі,
каб адрачыся ад старога свету,
Той свет трымаў людзей у ланцугах,
драпежнай хваткаю,
няпраўдай воўчай
вязаў іх па руках і па нагах
і сёмым потам заліваў ім вочы.
Яны ж хацелі волі і святла,
хацелі ўсё і разумець, і бачыць,—
і знішчыць ненавісны свет датла
кляліся перад бітваю гарачай.
І вось настаў вялікі дзень, калі
па клічу Леніна,
што прагучаў набатам,
на штурм, на бой рашаючы пайшлі
рабочыя, сяляне і салдаты.
І свет такіх не бачыў перамог,
якую людзі ў дзень той атрымалі,—•
абтрэслі прах старога свету з ног
і прыцягненне сіл яго парвалі.
Вялікі старт быў дадзен,
і пайшлі,
свабоды ўдыхнуўшы на ўсе грудзі,
да сонечных вышыняў на зямлі
краіны маладой савецкай людзі.
І іх з дарогі праўды і святла

ніхто не збіў, не адхіліў ад мэты,
бо партыя народ вяла
па ленінскіх бяссмертных запаветах.

Ісці — уперад і ляцець — вышэй
яна вучыла мудра і ўпарта...
І сёння на вачах усіх людзей
мы дасягаем казачнага старту.
Ляціць ракета наша аж да зор!
І мы, хто першым на зямной планеце
адкрыў людзям і сонца, і прастор,—
яшчэ здабудзем Сонца, што ў Сусвеце.

## СТРОНЦЫЙ

*Стронцый-90 — радыёактыўны ізатоп.*
*Солі ж звычайнага стронцыя ўжываюцца*
*ў піратэхніцы.*

Слова гэта сугучнае
са словам «сонца».
Ды іх рыфмаваць ці будзеш цяпер наўрад.
Разумееце, гэта слова «стронцый»?
(Паспрабуй пастаў яго
з сонцам у рад.)
Так, так, гэта той самы стронцый,
прад якім цьмянеюць
і порах, і свінец,
аб якім на кожнай газетнай старонцы
папярэджваюць:
«Стронцый — гэта канец».
Скажам, выбухне бомба на планеце дзесьці.
І з месца таго,
адразу ва ўсе бакі,
пачнецца стронцыя
смертаноснае шэсце,
якое не спыняць ні людзі,
ні іх багі.
Дзеці слабей за нас,
ім хопіць меншай дозы.
Ручкі працягваць
будуць да нас дарма,—
не ведаючы,
што тут не памогуць слёзы,
не верачы,
што тут паратунку няма.
Будзе няўцям малым,
што мы ім не абаронцы,
хаця засланялі да гэтага
ад самых розных бед;
што нас саміх

вось-вось даканае стронцый
і ўслед за дзецьмі
адправіць на той свет.
Калі ж нас там
пацягнуць у пекла якія дурні,
спрачацца не будзем,
з усмешкаю скажам:
«Пайшлі».
І здасца нам пекла
мірнаю смалакурняй
перад тым, што мы чулі і бачылі на зямлі...
Ды хопіць, бадай, каркаць.
Я чую словы папроку.
Я чую голас магутны і звонкі,
як майскі гром:
— Даволі з нас паніхід!
Вайна — назад, і ні кроку!
Далоў вайну —
гэты ўзаемны пагром!
А голас з будучага
гучыць шчаслівa і урачыста:
— Бомбы скінуты ў мора,
гарматы пайшлі на злом.
Знішчана самае страшнае
на зямлі злачынства,
пакончана з самым вялікім
на свеце злом!
— А што са стронцыем,
гразою быцця чалавечага?
— А вы галаву ўзніміце,
вы паглядзіце ўверх!
Вы бачыце, цэлае неба
агнямі расквечана!
Вы бачыце гэты,
нябачаны шчэ, феерверк?!
Ён асвятляе,
напэўна, не менш як з паўсвета...
Гэта майстры піратэхнікі
розных краін
радуюцца разам,
што на вайну накладзена вета,

што на небе не будзе хмар,
а на зямлі — руін.
Вы толькі гляньце!
Не піратэхнікі — магі!
Заўважце, расшчодрыліся асабліва майстры
на чырвань і пурпур, —
як вялізныя ружы і макі,
палыхаюць-квітнеюць
паветраныя кастры.
Яны — бы асколкі
самога барвовага сонца.
І колер гэты
надае святочным агням
не што іншае,
як пераўтвораны стронцый,
радня таго стронцыя,
гразіў што гібеллю нам..
Ірвуцца, пырскаюць
агнямі ракеты ў паветры.
І, гледзячы радасна
на гэты дзівосны парад,
«сонца» і «стронцый»
рыфмуюць смела паэты
«стронцый» і «сонца»
ставяць у адзін рад.

## САСНА

Вы бачылі, можа, якая яна?
Здалёку яна не відна...
Стаіць, як непрыкаяная,
у полі на ўзгорку адна.
Аб знешнім яе выглядзе
ужо не кажу. Хаця
і сонечных промняў, і вільгаці
хапае ёй для жыцця:
ні гонкасці той зайздроснай,
ні вогненна-меднай кары,—
чым вызначаюцца сосны
побач зусім, у бары.
Не вельмі ім там раскошна.
Заўсёды, вясной ці зімой,
дзяліцца даводзіцца кожнай
апошнім з суседкай сваёй.
Цяжкія бываюць годы.
Ды сосны і ў чорны дзень
пароўні ўсе дзеляць выгоды:
і сокі, і сонца, і цень.
І дружна, корань да кораня,
дружна, ствол да ствала,
стромкія, меднакорыя,
цягнуцца да святла.
Імкнуцца яны ў паднябессе...
Ну як параўнаеш іх
з сасной, што расце не ў лесе,
не ў ліку сясцёр сваіх!
...Вы бачылі, можа, якая яна?
У полі на ўзгорку адна
стаіць, як непрыкаяная,
гібее на пні сасна.

## ПЕСНЯ ПРА ХЛЕБ

### Паэма

### I

Кружыцца ў скверы кляновае лісце.
Як быццам шукае яно сабе выйсце,
як быццам не можа ніяк змірыцца,
што будзе мець справу яно з зямліцай,—
на сонцы не будзе больш красавацца,
на ветры не будзе больш хвалявацца.
Кружыцца першае лісце кляновае.
Стаіць у скверы ціш вераснёвая.
А ўверсе — воблачка, над скверам сінь...
Вітаю цябе, мой слаўны верасень!
Ты той жа ясны, ледзь-ледзь засмужаны,
ты той жа вясёлы, ледзь-ледзь засмучаны.
Цябе з тваёй кожнаю прыкметаю
я добра помню, добра ведаю.
Дзяцінства ніхто не забудзе ніколі.
А ты быў мне лепшым сябрам па школе.
Хіба не ты, прыветны і сонечны,
ранкам якраз такім, як сённяшні,
для нас адчыняў усе дзверы школьныя,
будзіў званкамі ціш навакольную.
І нечым яшчэ ты запомніўся, верасень.
Ці то цішынёй на азёрным беразе,
ці спелай антонаўкай ды аскомінай,
ці, можа, водарам хлебным з коміна?
Такую прыкмету не забудзеш,
як школьны званок, яе помніць будзеш.
Ціш вераснёвая як нельга лепей
напомніць аб тым, аб бацькоўскім, хлебе.
Напомніць лісце вось гэта кляновае,
Што кружыць, шукае месца новае.
Яно не можа не напомніць,
сэрца ўспамінам не напоўніць.

## 2

Кружыцца ў скверы кляновае лісце,
якое збіраў я пад хлеб калісьці
(парой замянялі яго і аерам).
І толькі прайду я асеннім скверам,
зноў буду думаць аб колішнім хлебе.
Аб хлебе, што рос не ў алтайскім стэпе,
не ў слаўных краях тых, на землях цалінных,
а вырашчан што на суглінках ды глінах,
на ніве, дзе ведаю кожны камень,
маімі бацькамі ды землякамі.
Аб хлебе я думаю самым звычайным,
які нават жалі сярпом, не камбайнам,
які з поля везлі калёсным ходам,
які малацілі з конным прыводам,
які потым чысцілі арфай ля клеці,
якога цярпліва чакалі мы, дзеці.
Здаваўся тады ён лепшай ядою,
калі яго есці з соллю й вадою.
Нас дзед падахвочваў:
«Хлеб, соль і вада —
вось маладзецкая яда».

## 3

Хіба забудзеш калі гэты момант!..
Ураз заціхае дзіцячы наш гоман.
Стаіць цішыня незвычайная ў хаце.
Збіраемся дружна мы ўсе каля маці.
Мы бачым адны толькі матчыны рукі,
адны яе рукі, адны іх рухі.
А маці з сваёй урачыстай усмешкай
нізка схіляецца над дзежкай
(над той, на якое сядзела нявестай).
Яна расчыняе хлебнае цеста.
Цеста мясіла яна кулакамі,
сценкі дзяжы абірала рукамі,
вады падлівала, мукі падсыпала.
І нам было клопатаў тут нямала.
Былі мы ў мінуту гэтую рады
выканаць матчыны ўсе загады.

Мы ёй памагалі рукаў закасваць,
муку падсыпаць па яе заказу,
хусцінку мы ёй папраўлялі ахвотна
ці лоб выціралі матчын потны.
Было ўрачыста і ціха ў хаце —
хлеб з новага жыта ўчыняла маці.

**4**

Усё захавалі памяці нетры.
Я водар рашчыны чую ў паветры.
Я столькі ўдыхаў калісь гэтага водару!..
Хадзіла ў дзяжы рашчына ходарам.
Хадзіла-брадзіла хлебнае цеста.
Было ў дзяжы яму, цесту, цесна.
Яно шапацела, прасіла ходу,
хацела вырвацца на свабоду.
Ды коўдра яго закрывала шчыльна,
сачыла яна за рашчынаю пільна.
І вось, нашаптаўшыся аб нечым ціха,
яно знаходзіла ўсё-ткі выхад.
Яно запаўняла тады ўсю хату
водарам хмельна-кіславатым.
І ён пабіваў да самага рання
пах адцвітаўшых гваздзік і герані,
якія раслі каля самага дома.
П'яніў ён дзіцячую свядомасць,
спаць не даваў нам да паўночы.
Калі ж мы нарэшце заплюшчвалі вочы,
нам сніліся казачныя каравай,
сніўся хлеб новага ўраджаю.

**5**

Назаўтра мы ў лес сабіраліся рана,
выконвалі матчын наказ старанна.
Яна напярэдадні нам казала:
«Каб заўтра, дзеці, хлеб пёкся ўдала,
па лісце кляновае раніцай збегайце».
Мы іншы раз прачыналіся б нехаця.
А тут была справа іншага роду,—
яна абяцала ўзнагароду.
І беглі мы з братам сцяжынкай роснай

туды, дзе шумелі клёны і сосны.
Мы зналі да клёнаў шлях самы кароткі —
хадзілі да іх мы па сок салодкі.
На самы ўзлесак выходзілі клёны.
Любілі прастор яны сонечны, дзённы.
Калі ж адчувалі дыханне слоты,
яны пакрываліся пазалотай.
І падаў уніз над яе цяжарам,
па ранішнім сонцы ўспыхнуўшы жарам,
ліст за лістом. Аблятаў паўкружжа...
Мы іх на ляту лавілі дружна.
Збіралі, нанізвалі іх у вязку,
пакуль не рабілася вязка важкай.
За гэткі гасцінец шчодрым клёнам
мы ледзь не казалі «дзякуй» з паклонам.
Лісце ўручалі мы маці ўрачыста.
«Дык гэта ж не лісце,
а золата чыстае!
На цэлую восень хопіць яго мне.
Вы малайцы ў мяне сягоння.
За справу такую даць вам трэба
першую лусту новага хлеба»,—
казала маці, узняўшы звязак.
А мы, свой выканаўшы абавязак,
сабой ганарыліся не на жарты,
на меншых сясцёр глядзелі з пагардай.

**6**

Даўно не было ў нас з табой сустрэч,
старая, добрая, родная печ!
А трэба сустрэцца, пакуль не позна.
Здарыцца, ведаеш, можа рознае.
Ходзяць упарта пагалоскі,
што ты ўстарэла для новай вёскі,
што ты аджыла і формай і зместам,
што вельмі ўжо многа займаеш месца.
Што скажам на гэта мы, руская печ?
Факты, як кажуць, упартая рэч.
Помніцца, хата была цеснаватай,
бо ты сапраўды займала паўхаты.
Каптур узвышаўся аж пад столлю,

шчыт занімаў ільвіную долю,
топка твая зіяла тунелем,
падпечак быў цэлым падзямеллем.
Адным словам, печка, недарэмна
просяць цябе сысці з арэны.

**7**

І ўсё-ткі, калі гаварыць па шчырасці,
я рад, што было мне суджана вырасці
у той жа хаціне,
                    дзе ты ўладарыла,
дзе спраўна так грэла,
                              пякла
                                        і скварыла.
Дзякуй за ўсе твае добрыя справы,
за ўсе твае печывы, твае стравы!
Бог з імі, тваімі габарытамі,
толькі ніколі не будуць забытымі
дні, калі ў коміне выў дзіка вецер,
а ты так умела гасцінна прывеціць.
Ты нас акружала цяплом і ласкаю,
ціха расказвала казку за казкаю.
Змаўкала, зноў чулася ветра гудзенне.
На сталі хісталіся прыцемкаў цені.
Гасла святло замёрзлых вокан.
Усё перайначвалася навокал —
цені рабіліся парусамі,
героям! казачнымі — мы ,самі,
і плыў аж за трыдзевяць зямель
дзівосны наш печка-карабель.

**8**

І хлеб, які сёння я шчыра слаўлю,
табе, печ, нямала ў заслугу стаўлю.
Была да яго ты прыналежная,
ад печы тут многае залежала,
ад яе духу, ад яе жару,
якія палілі, не знаючы жалю,
не знаючы жалю, ды знаючы меру,—
служыла печ руская праўдай і верай...
Я жыва ўяўляю малюнак гэты.

Хлебніца чынна стаіць ля загнета.
Наведзен парадак належны ў печы.
Кмену — найлепшай з вясковых спецый
маці ўжо ў цеста замяшала,
спрабуе, солі ў ім ці не мала.
З'яўляецца хлебная лапата,
з ручкаю доўгаю прылада.
І вось рассцілае таропка маці
лісце кляновае на лапаце,
на лісце сонечнае, узорнае
кідае цеста жменяю спорнаю.
Яно нахадзілася ўволю,
яно са сваёй змірылася доляй,
і над рукою ўмелай пакорна
яно набывае любую форму.
Становіцца цеста боханам круглым,
і матчыны рукі спрытным рухам
садзяць яго на цэглу гарачую,
жадаюць, каб быў ён, першы, удачаю...
Час настае,
і на загнеце
дымяцца боханы —
лепшыя ў свеце...

## БАР'ЕРЫ

Фізік квантуе
прастору і час.
Глядзяць касманаўты
у бок Венеры.
На змену тым,
што пайшлі ў запас,—
новыя меры,
сферы і эры.
Падае за бар'ерам бар'ер —
гукавы, светлавы,
зямных гравітацый.
Вучоны муж!
Я рады, павер,
я ганаруся тваёй працай.
Толькі ёсць у мяне непакой:
ці хутка дойдзе чарга да бар'еру
глухой адчужанасці людской,
неразумення і недаверу?
Калі ён падзе —
ракавы, векавы —
на нашых шляхах у новыя эры,
як некалі паў бар'ер гукавы,
як падаюць іншыя бар'еры?

## ТРЫ ЦІШЫНІ

Аднекуль з касмічнай вышыні
зыходзяць да нас тры цішыні.
Першая — вечаровая.
Тая, што, як маг,
ахутвае, зачароўвае —
лёгкі ў мага ўзмах.
Тая, што на вейкі
і вусны кладзе пячаць:
«Хопіць з вас,
                    чалавекі,
хопіць дбаць!
                    Спаць спаць!
Спяць куты і нішы,
спяць каты і мышы,
дзеці і птушкі спяць.
Людзі, цішай, цішай!
Люлі, хопіць дбаць!
                    Спаць, спаць!
Чые там крокі скрыпяць!
                              Спаць, спаць
Ёсць цішыня-паўночніца,
начная цішыня.
Дум бяссонных памочніца,
вярхоўны іх старшыня.
Застацца з той цішынёю,
з ёю, сівой савой,—
стаць сутнасцю сваёю,
стаць самім сабой.
Застацца з ёю — гэта
у той увайсці сезам,
дзе сам-насам з сусветам,
з вечнасцю сам-насам.
І ёсць цішыня світальная,
ёсць яшчэ цішыня,
першага вітання,
першага агня.
Яна заводзіць гадзіннікі,

і разам з імі яна
пазвоньвае-падзіньквае,
і — трубіць цішыня.
Трубіць ціша світальная
у свой сярэбраны рог,
заве ў далі дальнія,
да новых спраў і дарог.
Трубіць ціша світальная,
крыштальная, развітальная,
і патанае яна
у вадаспадзе дня.

## ЛЕНІНСКІ СМЕХ

Ішла рэвалюцыя —
левай, левай!
Змагаліся не на жыццё,
на смерць.
Змагаўся Ленін.
І — усміхаўся Ленін.
Служыў рэвалюцыі
ленінскі смех,
Была рэвалюцыя.
Яе змяніла
пара завірух,
разрух,
галадух.
Розная контра
гразіла магілай.
Ды не здаваўся
ленінскі дух.
Ленін заставаўся Леніным —
і грозным, караючым мячом,
і рэвалюцыі добрым геніем,
яе душой,
яе Ільічом.
Ленінскі розум
ведаў даўно:
рэвалюцыю робіць не зло, а дабро.
Дабро рэвалюцыю параджае.
Рэвалюцыя дабро сцвярджае.
Дабру ж не да твару змрочныя шоры.
Яму падавай —
марш мажорны,
ды сонечны май,
ды светлую мару.
Усмешка дабру
больш да твару!
Усмешкаю той
і быў надзелены
Ільіч —

носьбіт людской надзеі,
тым гумарком,
што з народных глыбінь...
Старшыня Саўнаркома
жартаваць любіў.
Ведаў цану добрага жарта —
смяяўся шчыра і азартна.
Ведаў сілу сярпа і молата —
смяяўся радасна і молада.
Смех той слухала Расія,
і ў ёй абуджалася
новая сіла.
Смех той слухала гісторыя
і сама ўсміхалася:
«Здорава!..»
Я ленінскага смеху не чуў.
Ды, верны жывому Ільічу,
спасціг я альфу і амегу
яго выбуховага смеху.
То мудрасць смяялася над тупасцю,
над уяўнай глыбакадумнасцю,
прастата —
над фанабэрыяй,
дабрата —
над злым недаверам,
смяялася праўда —
над маною чорнай,
светлае заўтра —
над цёмным учора...
Адольваем шлях мы, за крокам крок,
Ленін дае нам за ўрокам урок.
Вучымся ў Леніна мы змагацца.
Будзем вучыцца ў яго — смяяцца!

## БУРБОНЫ ВЯРТАЮЦЦА Ў ПАРЫЖ

### Гістарычны эцюд

Што, рэвалюцыя,— гарыш!
Дагарае твой сцяг чырвоны!..
Бурбоны вяртаюцца ў Парыж,
на трон вяртаюцца бурбоны.
Ззяй, раяліст, тваё ўзяло!
Радуйся, люд забабонны!
Бурбоны жывучыя, як зло,
на дзіва жывучыя бурбоны.
Радуйся, дзікая Вандэя,—
перамагла контрідэя.
А ты чаго невясёлы, плебс?
Ці табе хмурыцца лепш?
У цябе такое ўражанне,
што не было дня ўчарашняга?
Не было штормаў, толькі штылі,
не было штурму Бастыліі,
не было Марата і Рабесп'ера,
не было якабінца П'ера?
Было ўсё гэта ці не было?
Ці ва сне наплыло і сплыло?
Ці толькі сон прысніўся, Францыя,
а прабуджэнне — рэстаўрацыя?
Чаго ты, Францыя, маўчыш?..
...Бурбоны вяртаюцца ў Парыж.

## ДА ПЫТАННЯ АБ СКЛЕРОЗЕ

### Расказ урача

Знаёмы ўрач з санаторыя
расказваў нядаўна мне:
«Склерозам некаторыя
хварэюць па ўласнай віне.
Ёсць адна асаблівасць
сасудаў мазгавых:
не любяць яны санлівасць,
бяздумнасць не па іх.
Ім дай працаваць з нагрузкаю.
Ім свежай думкі прыток
патрэбен, як рухі — мускулу,
як лёгкім —
азону глыток,
А іншы не хоча думаць,
не думае ўсур'ёз,—
і пачынаецца тупасць,
па-нашаму — склероз.
Вось адно нагляданне.
Лячэбнай гімнастыкі ўрач
праводзіць гульню-заданне
на ўменне парыраваць мяч
і тут жа прымаць рашэнне,
тут жа даваць адказ,
на ўменне не лезці ў кішэню
за словам усякі раз.
Спачатку гульня ідзе туга.
Прывыклі ж да папер,
і вось вылятаюць з круга
адзін за адным цяпер.
Лёгкае вельмі пытанне,
такое, як двойчы два,
простае вельмі заданне,
ды — хворая галава.
Прыхопленая склерозам,
не хоча кеміць яна.

Насілу збаўляецца розум
ад склератычнага сна.
Адна гульня, другая,
адзін сеанс, другі,
глядзіш — іпамагае,
і мозг не такі тугі.
Ён рэагуе іначай,
ён пачынае жыць...
— Бачыце, што значыць
мазгамі варушыць,—
кажу, калі прымаю
я пацыентаў сваіх.
Тут залежнасць прамая
ад рухаў і думак жывых.
Яны патрэбны для нас так!
Яны для артэрый і вен —
першая з гімнастык,
лепшая з гігіен.
Тупайце, хлопцы,
тупайце,
каб жывоцік не рос.
Думайце, хлопцы, думайце,
іначай — бяда,
склероз...»

## ФАСАДЫ

Яны такія ўжо — фасады.
Заўсёды яркія, як фазаны.
Прыхарошацца, падфарбуюцца
і лезуць на вуліцу: «Салют!
Любуйся на нас, вуліца,
дзівіся на нас, люд!»
Вуліца гляне на фасады,
скажа насмешліва:
«Ого!
Ды вы, фасады,— як фазаны!..»
Вуліца знае, што да чаго.
Вуліца — яна баба бітая.
І ёй скрозь парадны ўбор
бачыцца звычайны быт яе,
яе будзённы задворак і двор.

## ЗДАРЭННЕ ЛЯ ШЛАГБАУМА

«Нармальнае
становішча
шлагбаума
адкрытае»
чорным па беламу. Бачыце — вось!
Усе чытаюць. Ніхто не блытае.
Толькі шлагбаумшчык наблытаў штось.
Ці ў яго нервы дурэюць патроху,
ці проста меў дрэнны настрой,—
толькі ўзяў і закрыў дарогу
раней, чым звычайна. Стой!
Стой, конны і пешы!
Спыніся, мота!
Стой і ні з месца, аўто!
Шафёр з кабіны: —
Што за мода?!
Ты п'яны, браток, ці што?
Ступіў на пробку ці выпіў стопку?
Не выйшаў цягнік у маршрут,
яшчэ качагар распальвае топку,
а ён ужо тут як тут.
Трымаў дырэктар.
Трымаў дыспетчар.
Потым механік новаспечаны
трымаў з паўгадзіны ў гаражы.
Потым: «Пуцёўку пакажы».
Потым гаі яшчэ трымала:
«Куды спяшаешся, не гані.
Знак нумарны ты чысціш мала...»
І вось яшчэ адно гаі.
Ды адкрывай жа! Груз тэрміновы.
Стане там справа ўся.
Не разумее роднай мовы.
З яго, што вада з гуся.
Ды адкрывай жа, чорт паласаты!
А то пайду на таран!
Ды адкрывай жа, чорт валасаты!..

Шафёр узняў тарарам.
Шафёр злуецца, плюецца і лаецца.
Лаецца — на чым свет.
Дзяжурны толькі ўхмыляецца:
«Бачыў я вас, непасед».
Ён ухмыляецца і чухаецца.
Нарэшце рашыў не маўчаць:
— А раптам поезд ужо рухаецца
хто будзе тады асвячаць?
Ні разумення, ні пашаны.
На тое ж і шлагбаум,
каб быў парадак, паважаны!
Шлагбаум — не для забаў.
Праўда, закрыў я ранавата.
Дык так ужо ў нас яно:
калі не хочаш быць вінаватым —
раней апускай бервяно...
Ні разумення, ні пашаны.
Спяшаюцца ўсе, крычаць.
А не гарыць, не на пажары.
Навошта так імчаць?
Усё хутчэй бягуць машыны,
усё хутчэй — паязды.
А куды ўсе заспяшылі?
Куды, скажыце, куды?..
Пакуль рэзанёрствуе
дзяжурны,
з'явіўся ўраз цягнік.
Мільгнулі твары, абажуры.
Прагрукатаў і знік.
І з неахвотаю, са скрыпам
стаў узнімацца шлаг-
баум. Шафёр прыспешыў крыкам
і крануўся ў шлях...

## ОДА КВІТАНЦЫІ

Хай чуе кожны,
                    хто не аглух:
«...поезд прыйшоў на станцыю..
Насільшчыкі да вашых паслуг..
...і патрабуйце квітанцыю».
Аб'ява завязла ў вушах.
Іду, лячу ці еду —
яна за мною — проста жах! —
За мною цягнецца следам.
Вар'іруецца на ўсе лады,
ніяк з ёй не расквітацца.
...Ты сябру дабро зрабі
                                        і тады
патрабуй ад яго квітанцыю.
...Калі да цябе з'явіцца госць,
ты пачастуй яго, чым ёсць,
і перш чым развітацца,
вазьмі з яго квітанцыю.
...Ты цалаваў, мілаваў яе,
гатоў быў у ногі кідацца.
А ці ўзяў за ласкі свае
ты ў яе квітанцыю?
...Словам, зрабі законам жыцця
у дурнях каб не застацца,—
патрабаваць ад усіх і уся:
«Квітанцыю! Квітанцыю!»
І потым, калі аднойчы вас
паклічуць са справаздачаю:
«Што зроблена за мінулы час,
заплачана і затрачана?» —
як адыграецеся вы тут!
Як зможаце вы расквітацца? —
Вы горда прад'явіце цэлы жмут
цэлую кіпу квітанцый.

**ПРА ВОЎКА ПАМОЎКА..**

Пра воўка памоўка, а ён і тут.
А ён і тут — ну, проста цуд!
З'явіўся ў тую ж мінуту якраз.
«Дзень добры!» — кажа...
і мы — у адказ.
Стаіць, усміхаецца. Нібы не шэры.
Не вые па-воўчы, зубы не шчэрыць.
Такія ж, як нашыя, вушы і вочы.
Вонкавы выгляд далёка не воўчы.
Ай ды воўча! Ай ды ён!
Ды ён жа двойчы хамелеон!
Там, дзе авечкі,— у шкуры авечай.
Там, дзе чалавекі,— у чалавечай.
Стаіць, усміхаецца. Ай ды ён!
Ды ён жа тройчы хамелеон!
Знае, што сябра нам не стае,
дык ён за сябра сябе выдае.
Нават хоча большага нечага —
строіць друга з сябе чалавечага.
Ай ды воўча! Ай ды чмут!..
Пра воўка памоўка, а ён і тут.
Стаіць, усміхаецца. Ён ці не ён?
Выгляд не воўчы — не выганіш вон.
Ды раптам што-небудзь такое —
ураз
завые і возьме за горла вас.

## АКІЯН І ЛУЖЫНА

Я сказаў:
«Акіян — вялікая лужына»
Як усхадзіўся акіян!
Маўляў, пакрыўдзілі незаслужана,
абразілі акіянскі сан.
Як загудзеў, зашумеў раз'юшана,
як пагнаў за валам вал?
«Я вам пакажу, якая я лужына!
Я болей прывык да од і пахвал!»
Я моўчкі глядзеў, як шалее стыхія,
і думаў са скрухай:
«Вялікі такі,
а крыўдзіцца гэтак жа, як і другія,
як дробныя лужыны і ручайкі».

*

Я глядзеў, як хвалюецца лужына.
Бачыў я воблакаў караван,
бачыў у лужыне неба засмужанае.
— Лужына — мікраакіян.
Словы мае пачула лужына.
Лоб наморшчыла напружана
і пачала падрабляць свой зыб
пад акіянскую шыр і глыб.
Думала, што разлілася бязмежна,
што выйшла за берагі свае.
Я глядзеў і мне было смешна
і мне было сумна за яе.

## АБЫЯКАВАСЦЬ

З чым параўнаю абыякавасць,
яе галоўную якасць?
З пустыняй, з пяскамі яе зыбучымі,
з барханамі мёртвымі яе.
З пустыняй, з пяскамі яе сыпучымі,
з паганымі мётламі яе.
Тут чалавеку вельмі дрэнна.
Тут сам шукай выхад з бяды.
Крычы сабе, глядзі нядрэмна —
ў адказ ні слова,
ні глытка вады.
Тут хоць крычы, хоць памірай —
будзе маўчаць пустынны край.
Будзе маўчаць край пясчаны...
Так за сцяной маўчаць мяшчане.

* * *

Хто вынайшаў веласіпед? —
над гэтым не вельмі думае свет.
Ён круціць сабе педалі,—
што яму паданні!
А першыя паязды, масты?
Ці важна, кім яны створаны?
Важна тое, што паязды
сёння бягуць ва ўсе стораны.
Лямпачка над маёй галавой —
крыніца энергіі светлавой.
Каму тут належыць прыярытэт? —
Не думаю ніколі,
хаця, здаецца, і бачыў партрэт,
хаця і вучыў у школе.
Проста ўдзячны я яму,
удзячны за ўсё за гэта.
І ў гэтым сэнсе продку майму
не пагражае Лета.
Справа не ў нашых імёнах, не ў тым,
хто, дзе і калі,— не ў славе.
Слава, як вядома, дым.
Справа — у добрай справе.

## ПРА ВЕЛІЧ

Нярэдка яшчэ, ілюзіям верачы,
прымаем за веліч мы манію велічы.
Хоць гэта зусім розныя рэчы:
друг і вораг чалавечы.
Хоць ад гэтай чортавай маніі
так і тхне чорнай магіяй.
Калі ж свежы ранак павее,
развеецца магія маніі той,
мы губляемся:
                    «Дзе ж веліч?»
Мы выглядаем святой прастатой.
«Дзе ж веліч?
                    У што верыць?! —
А яна побач зусім — скромная,
па чалавечаму падабенству скроеная.
Зусім не іконная, зусім не грозная,
даходлівая,
          даступная,
                              простая.
І веліч гэтая, не манія,
не прыніжае, не гняце,
розум страхам не затуманьвае.
Яна — у мудрасці і дабраце.
Толькі мудрых, час, узвяліч!
Людзі! Цану велічы ведаючы,
смейцеся смела над маніяй велічы!
Так, як смяяўся над ёй Ільіч.

* * *

«Гора — не бяда, бяда — не гора:
пабыла — сплыла, нібы вада.
Няма праўды — гэта ўжо горай,
гэта ўжо цэлая бяда.
Гора — не бяда, бяда — не гора...» —
гаварыў так часта дзед Рыгор,
хоць да майго дзеда да Рыгора
гора і заходзіла на двор.
Спіць мой продак, соснамі адпеты.
Я жыву — яго і плоць і косць.
На маім рахунку ёсць і беды,
на маім рахунку гора ёсць.
Знаю добра іхні горкі прысмак,
іхні смак. І знаю я яшчэ —
як несправядлівасць, нібы прысак,
тваё сэрца раптам апячэ.
Я спасціг, што беды — непазбежнасць,
немінучы спадарожнік мой.
Я прызнаў жалезную залежнасць
ад прыроды — мёртвай і жывой.
Я сцярплю ўсе яе няміласці,
і капрызы, і сюрпрызы ўсе.
Толькі аднаго —
несправядлівасці
чалавечы дух мой не знясе.
«Гора — не бяда, бяда — не гора,—
я кажу, як гаварыў мой дзед.—
Вось несправядлівасць — гэта горай,
гэта горай ад усякіх бед».

## МАРШАЛЬСКІ ЖЭЗЛ

Я знаю: жыццё — нялёгкі паход.
Ды якім ні быў ён цяжкім і даўжэзным,
не кладу я ў ранец генеральскі нагон,
не запасаюся
маршальскім жэзлам.
Мне б толькі добрым салдатам быць.
Салдатам, што ведае смак пораха,
які ўмее верна любіць
і да канца ненавідзець ворага.
Мне б толькі добрым салдатам быць,
Салдатам, як! на пасту не спіць,
не здрадзіць, не стане дэзерцірам,—
салдатам добрым, таварышам шчырым.
Пра якога, замест фальшывых од,
гавораць потым сябры-салдаты:
«Ён маршальскі жэзл не браў у паход,
але салдат ён быў выдатны».

## БЯССРЭБРАНІКІ

*М. Аўрамчыку*

Навошта бяссрэбранікам серабро —
пасрэдных людзей пасрэднік!
(Гэта ўжо так: серабро — або
чыстасумленны бяссрэбранік).

Не трызняць бяссрэбранікі серабром.
Што серабро ці золата?
Грымеў бы вясновы гром за бугром
Радасна і молада!

Біла б весела кроў у скронь!
Яшчэ ім, няхцівым, патрэбны
шум серабрысталістых крон
ды спеў жаўрука срэбны.

Навошта бяссрэбранікам серабро?
Яны серабро не трызняць.
Не прадаюць тым болей
сяброў
за срэбранікаў трыццаць.

Яны і не думаюць аб серабры.
Ім толькі мець бы трохі
радасці той, што маюць сябры,
ды трохі сяброўскай трывогі.

Навошта бяссрэбранікам серабро,
скарбік сярэбразвонны?
Былі б толькі праўда,
ды дабро,
ды хлеб аржаны надзённы!

## КОМПЛЕКС НЁПАЎНАЦЭННАСЦІ

*— У вас комплекс непаўнацэннасці.*
*— А што гэта такое?*
*— Як вам сказаць... Ну, вы недаацэньваеце сябе, прымяншаеце значэнне сваёй асобы.*
*— А што лепш — недаацэньваць ці пераацэньваць сябе?*

З прыватнай размовы

Комплекс непаўнацэннасці,
комплекс непаўнацэннасці!..
Адкуль такая немач? Хто яе дае?
Хапае ж іншым суцэльнасці,
хапае іншым нацэленасці
і пачуцця паўнацэннасці, а тут іх не стае.
Вось ён крочыць цвёрда, нясе галаву горда,
выпнутыя грудзі, плечы на ўсю шыр.
А ты галаву ў плечы,
падпёр сцяну недарэчы,
а ты сябе адчуваеш, як госць, як пасажыр.
Вось ён сябе ўзвялічвае,
цану на сябе ўзвінчвае,
заслугі свае выстаўляе,
любіць пра іх трубіць.
А ты ўсё сябе дакараеш,
а ты ўсё сябе караеш:
«Як мала мною зроблена,
як многа трэба зрабіць!»
Не можаш дазволіць раскошу надбавіць сабе
кошту,
надбавіць сабе кошту, павысіць сабе цану.
І вось ён крочыць цвёрда,
нясе галаву горда,
а ты ўбаку стаіўся, падпёр плячамі сцяну.
Стаіш, на месцы тупаеш,
стаіш і горка думаеш:
«Навошта сцяне падпоры,
навошта ёй плечы твае?
Сцяне хапае суцэльнасці...»
Комплекс непаўнацэннасці,
комплекс непаўнацэннасці —
вечныя мукі мае!

## ГНЁЗДЫ

Людзі трымаюць ордэр,
так, як трымаюць ордэн.
Ключы ад кватэр бяруць,
як бяруць ад шчасця ключы.
Наваселле — радасць,
наваселле — гордасць,
віншуй навасёла,
шчаслівым яго лічы.
Атакуюць дом
сеннікі,
цюфякі,
пярыны,
з падушак пух вылятае курыны.
Такое ўражанне —
людзі ўюць тут гнёзды.
Малюнак такі
можа навесці на роздум.
І я гавару людзям:
— Жывіце і віце!
Віце гнёзды!
І сокалы ўюць, і арлы.
Помніце толькі:
лунаюць арлы ў блакіце,
з гнязда вылятае сокал,—
а мы?

## БАЛАДА ПРА СПАЛЕНУЮ ВЁСКУ І ЖЫВОГА ПЕЎНЯ

Гэта была не проста вайна.
Гэта было нешта больш страшнае, больш дзікае.
Помню, міма маёй роднай вёскі ішлі карнікі — маю вёску яны абышлі. А праз нейкі час мы пачулі страляніну, убачылі дым — чорныя клубы дыму.
Назаўтра мы даведаліся, што спалена вёска Кісялёва (вы знойдзеце гэтую назву на могілках вёсак у Хатыні), а жыхары яе забіты, ад старога да малога.
І яшчэ мы пачулі жахлівы расказ пра тое, як некалькі дзён «дыхала» магіла, куды карнікі скідалі кісялёўцаў, як крычаў на вогнішчах здзічэлы певень.

...І толькі апоўначы,
прарэзліва, з усіх сваіх сіл,
свой векавы абавязак помнячы,
певень запеў, загаласіў.
Запеў і здзівіўся ён, напэўна:
«Чаму не спяваюць іншыя пеўні?»
А потым крычаў і двойчы, і тройчы,
на золаку вёску будзіць пачаў.
Крычаў, на абпаленым плоце стоячы,
крыламі лопаў і крычаў.
Ён вёску будзіў,
крычаў да хрыпу.
Будзіў у каторы ўжо раз.
А вёска маўчала — ні рыпу, ні скрыпу,
ні груку, ні гуку ў адказ.
Ён вёску будзіў, галасіў адчайна,
пакуль не здзічэў, пакуль не знямеў.
А вёска маўчала, вёска маўчала.
Яна ўжо не чула той ранішні спеў...
Быў дзень вызвалення,
дзень Перамогі вячыстай.
Вярталіся людзі да мірных спраў і сноў.
І пеўні — нястомныя фанфарысты —
мірныя дні абвяшчалі зноў.
Будзяць яны на досвітку сёлы,

і ў сёлах пачынаецца рух.
Яны, жывыя сёлы — не соні,
спяшаюцца рана на ніву і луг.
З пеўнямі сёлы прачынаюцца...
Толькі нічым не разбудзіш яе —
вёску,
          дзе ранак інакш пачынаецца,
вёску,
          дзе певень больш не пяе.

## РЭКВІЕМ ПА КОЖНЫМ ЧАЦВЁРТЫМ

*У часе мінулай вайны загінуў кол*
*чацвёрты беларус.*
З дакумента

*Ой, хацела мяне маці*
*за чацвёртага аддаці...*
З народнай песні

У с т у п

Вы бачылі лес,
дзе прагал скразны?
Скажыце, вы бачылі бор той,
дзе кожнай другой няма сасны
ці сама меней — чацвёртай?
Тое ж было з народам маім.
Сякера ваеннай навалы
прайшлася бязлітасна па ім,
і — прагалы, прагалы.
Яны і сёння не заraслі,
свіцяцца прасторай мёртвай...
Вы бачылі лес,
дзе прагал скразны?
Скажыце,
вы бачылі бор той?

Ч а с т к а п е р ш а я

Зямля мая бой прымала
ад стара і да мала,
ад стогадовага Талаша
да Казея — малыша.
І падаў, распасцёрты,
кожны чацвёрты.

Часта згаралі znічкі тады.
Быў небасхіл чорны.
А на зямлі стылі сляды —
кожны чацвёрты.

Мір асвятліў нас сваім святлом.
Грымелі ўрачыста акорды.
Толькі не быў за святочным сталом
кожны чацвёрты.

Доўга не трацілі ўдовы надзей,
доўга чакалі маці дзяцей.
Не верылі ўсё, што мёртвы
кожны чацвёрты.

Помнім болі і страты свае.
Памяць шуміць, як чароты.
О, як нам вас не стае —
кожны чацвёрты!

Ч а с т к а  д р у г а я

Кожны чацвёрты быў мёртвы —
мір і спакой ім вечны!
Кожны трэці быў зморaны,
скалечаны і знявечаны.

Кожны другі на целе
меў раны, апёкі ці шрамы.
І усе мы, усе мы мелі
на душы сваёй раны.

Зеўрылі ямы, траншэі,
зеўрылі печы ў друзе —
ранай адной страшэннай
на целе маёй Беларусь

Ч а с т к а  т р э ц я я

Лічым: чацвёрты кожны.
А можа, кожны трэці?
Голадам падкошаныя,
паміралі дзеці.
Яшчэ мы не ўлічылі
тых, што лячылі раны,
раны не залячылі,

рана паміралі.
Колькі прапала без вестак,
без пахаванняў, памінак!
А колькі потым дзетак
ўзарвалася на мінах!
Лічым: кожны чацвёрты,
А той рахунак прыблізны,
а той рахунак няцвёрды,
а ўрон яшчэ больш вялізны.

Э п і л о г

У р о к  с п р а ж э н н я

Не забываецца той урон,
не зарастаюць прагалы...
«Дзеці, вы вывучылі ўрок?
Дзеці, вы праспрагалі?
Я іду,
ты ідзеш,
а ён не ідзе,
ён мёртвы.
Я пяю,
ты пяеш,
маўчыць кожны чацвёрты.
Мы ідзём,
ідзеце вы.
Грунт пад нагамі цвёрды.
Яны не ходзяць — не жывы
кожны чацвёрты.
Любім мы,
любіце вы.
Колькі травы,
лістувы,
сінявы! —
Хоць сэрца насцеж разгортвай.
А каб яшчэ ды быў жывы
кожны чацвёрты!

* * *

*Дзецям, якія ваявалі і загінулі*
*ў дні Вялікай Айчыннай вайны*

Яны да вайны гулялі «ў вайну».
Не ведалі яны
простую ісціну адну:
далёка гульні да вайны.
Калі ж пачалася вайна сапраўды,
калі баі загулі,
думалі яны і тады,
што гэта — працяг іх гульні.
Вайна грымела ўсур'ёз,
а ім было няўцям.
Хацелася ім ваяваць да слёз,
як хочацца бегаць дзецям.
Радасці колькі было малым,
калі, ідучы на бой,
давалі воіны зброю ім
і бралі іх з сабой!
І толькі ў самы апошні міг,
калі агнём вайны,
смяротным агнём апаліла іх,
штось зразумелі яны...

## **РАТУНАК**

*Па матывах аповесці*
*Антуана дэ Сент-Экзюперы*
*«Ваенны лётчык»*

1

Можа, выжывем і на гэты раз?
Выжывем? Ты павінен выжыць!
Ты толькі бяры вышай, ас!
Бяры вышай, бяры вышай!
Ты мяне разумееш, камрад?
Не возьме ні куля, ні снарад —
толькі стань тым казачным асам,
толькі бяры, як тады, над Арасам!
Бяры ў той край, той свет,
бяры вышай, бяры вышай! —
дзе струменіцца месячны след
і ціха цвітуць вішні.
Бяры ў той край, той свет —
дзе не страшны вораг ніякі,
дзе засланяюць нас ад бед
нашы мамы і нашы нянькі.
Дармо, што полымя трашчыць
і смерць зларадна насвіствае.
Вось яно — сховішча, вось ён — шчыт,
вось яно — нашае дзяцінства.

**2**

Дзень добры, няня!
Дзень добры, Паула!
Гэта ты? Гэта твой цень!
Ты мяне, Паула, пачула?
У мяне, Паула,
трудны дзень.
Справа, няня,
вельмі сур'ёзная.
Ты мяне чуеш, няня, ці не?
На вайне бывае рознае.
На вайне як на вайне.
Тут усё ў парадку рэчаў.

А зямля так пахне зямлёй!
Я ж абяцаў сабе сустрэчу
з вёскай начной,
з яе цішынёй.
Думаў: спасцігну тую старую,
тую ад вечную цішыню —
і многае сабе дарую
і ўсё зразумею ўпершыню...
Ты прыйшла,
ты пачула, Паула!
Дай руку, Паула.
Выводзь
з гэтага полымя,
з гэтага гула,
што спапяліць мяне вось-вось.
Зрабі яшчэ такую ласку.
Калі мы зойдзем у стары наш парк,
раскажы пра рыцара казку,
раскажы пра Жанну д'Арк...
Вось і мінула небяспека...
Дзякуй, Паула!
Твой светлы цень
вывеў мяне
з самога пекла,
вырваў з рук
усіх смярцей.

## ДЫНАМІК

Ён пасіпеў, пахрыпеў і змоўк.
Болей нічога сказаць не змог.
Падышла старая, паслухала.
«Што гэта сёння з ім?»
Падышла бліжэй, пастукала.
«Маўчыць, не гаворыць зусім».
Хуценька ў печы дапаліла,
трохі прыбрала, падмяла.
Пайшла вуліцай тапалінай
у другі канец сяла.
Кажа ўсім: «Іду да радзіста.
Нешта радзіва маўчыць».
А ў радыста сын нарадзіўся,
сын нарадзіўся і крычыць.
«У вас весела,— кажа старая.—
Гэта добра, што сынок.
Бач, крычыць як, як стараецца...
Галасісты крыкунок.
Так крычаў і мой малодшанькі,
што забілі на вайне...
Бач, выпроствае аж ножанькі.
Імя выбралі, ці не?
Так крычаў і мой сярэдненькі,
не вярнуўся што з партызан...
Бач, які галасок сярэбранькі!
Слаўны, слаўненькі пацан!
А старэйшы быў ціхоня.
Як радзіўся — спаў і спаў...
Можа, дзе жыве і сягоння,
раз без весткі ён прапаў?
Ні сынкоў няма,
нікога.
Толькі радзіва адно.
Толькі радзіва —
мне падмога.
Што б рабіла, каб не яно?
І пагаворыць, і паспявае,

добрай ночы жадае мне.
І паплачам з ім, бывае,
як успомнім аб вайне.
Ды здарылася з ім штосьці,
не гаворыць яно зусім.
Падбяжы як-небудзь, Косця,
паглядзі, што гэта з ім.
Дык падыдзеш?
                    Пастарайся...
Добра ў вас, ды я пайшла».
І пайшла дамоў старая,
у другі канец сяла.

## ПЕРАД БРАТНЯЙ МАГІЛАЙ

Мы так яе і называем — братняй.
Гаворыць звычай, даўні і святы,
што паўшыя на полі ратным
і разам пахаваныя — браты.
Што ж, ёсць у гэтым праўды доля.
Яны зляглі ад куль адных.
І ў доле, як у дружным доме,
нішто не падзяляе іх.
Там — цішыня.
                    Там — мір і згода.
Ляжаць, плячо ў плячо, рады.
Не знае мёртвая прырода
варожасці! Яны — браты.
Яны — браты...
                    Стаю перад пагоркам,
які магілай братняю завём,
нібы стаю перад пытаннем горкім:
«А ці па-брацку мы ў жыцці жывём?»

## БОЙ

*Прысвячаецца памяці салдата-артылерыста, які 17 ліпеня 1941 года даў на шашы пад Крычавам, недалёка ад вёскі Сакольнічы, бой цэлай калоне нямецкіх танкаў і разграміў яе. Устаноўлена, што герой-артылерыст родам з Арла і імя яго — Мікалай Сірацінін.*

Жыць трэба, сябры мае,
помнячы,
што дзесьці пад Крычавам ёсць
маленькая вёска Сакольнічы,
такая ж рачулка — Добросць.
Што бітва там грукатала,
якой не было яшчэ
з тых дзён, як стаіць вёска тая
і тая рачулка цячэ.
Як будзеце вы пад Крычавам,
зімою ці ў час веснавы,
наведайце толькі — зычу вам —
вёсачку тую вы.
І там, не страсаючы пылу,
не трацячы марна час,
спытайцеся вы пра магілу,
скажыце, праводзяць хай вас.
Куды? Да якой — не будзе
пра гэта ніхто пытаць.
Магілу адну тут людзі
ведаюць, як свае пяць.
Кожны, малы ці дарослы,
вас правядзе ў гаёк —
туды, дзе ўзвышаецца просты,
парослы травой курганок.
Звычайная быццам магіла,
бачылі ж многа мы іх...
Вы слухаеце старажыла,—
што гэта: праўда ці міф?
Яшчэ адна, мабыць, легенда?
Ці словы сведкі жывой?

«Не, не легенда гэта,—
трасе старажыл галавой.—
Вам гэта тут кожны пацвердзіць.
Было ўсё на нашых вачах.
Нам будзе да самай смерці
сніцца той бой па начах.
Будзе гармата сніцца,
залітая ўся крывёй...
Там вунь, дзе лозы ніцыя,
стаяў ён з гарматай сваёй.
Яго абышлі, акружылі,
ззаду стралялі ў яго.
Насілу яго скрышылі:
войскам — аднаго...»
Замоўкне расказчык.
Слухаць
будзеце вы нейкі час,
як шэпчуцца дрэвы глуха —
нібы паўтараюць расказ.
Вам здасца: у шэпце лісця
памяць сама ажыла
аб мужным артылерысце,
хлопцу геройскім з Арла.
Вяртацца вы будзеце,
строга
гледзячы перад сабой,
будзеце думаць дарогай
пра той легендарны бой.
Яшчэ вы будзеце думаць:
«Мець бы нам у жыцці
такую мужнасць і дужасць,
каб з свайго не сысці.
Так бы ў цяжкую гадзіну
за праўду стаяць гарой,
як стаяў за Радзіму
артылерыст-герой.
Так бы пераконана
змагацца з сіламі зла,
як з стальнымі драконамі
змагаўся хлопец з Арла.
Паўзуць яны, сілы гэтыя,

у шэрую броню адзетыя,—
колькі іх там? Ого!
А мы: — Агонь! Агонь!
На міг ахопіць трывога,
сумненне стукне ў скронь:
ці будзе яна — перамога?
— Агонь! Агонь! Агонь!
«Вы ж будзьце асцярожныя!»
хтось крычыць наўздагон.
А мы, як заварожаныя:
— Агонь! Агонь! Агонь!
Нехта побач баіцца,
глядзіць у кусты з тугой.
А мы не здаём пазіцый:
— Агонь! Агонь! Агонь!
Бачым: нас абыходзяць.
Здавайцеся, ды і годзе.
А мы ўсё: — Агонь! Агонь!
І зло ляціць пад адхон.
Ляціць усё подлае,
пошлае,
коснае... Хто каго?!
Наша слова апошняе:
— Агонь! Агонь! Агонь!»

## ЧАЛАВЕЦТВА

Добрае слова «чалавецтва» —
усеагульнае наша імя!
Светлае слова «чалавецтва»,
як лiства, дзятва, сям'я.
Слова гэта свецiць сонцам.
Слова гэта — як дакор
усiм войнам i мiжусобiцам,
як надзеi вялiкай акорд.
Мудрае слова «чалавецтва»!
«Ча-ла-вец-тва!» — крыкну я.
I, здаецца, адзавецца
дальняя будучыня мая.
«Чалавецтва! Чалавецтва!..»
Зазвiняць лiства i дзятва.
Хто прарочыць табе канец твой,
чалавецтва? То ж лухта!
Чалавецтва будзе жыць!
Чалавецтва будзе дружыць!
Ча-
ла-
вец-
тва!..

* * *

Мне ўяўляецца гэта так:
марудна, але няўхільна,
крок за крокам,
ступенька за ступенькай,
чалавек узнімаецца ўгору —
да жаданай вяршыні,
да запаветнага піку.
Нарэшце ўзняўся.
А на вяршыні,
на запаветным піку,
стаіць другі чалавек,
працягвае руку
і гаворыць:
«Вітаю цябе!
Я твой брат і друг,
сапраўдны, верны друг.
Скончылася твая адзінота».

* * *

Мы напачатку зазналі страху,
перад прыродай падалі ніц.
Потым лятаць вучыліся ў птахаў,
агонь здабываць — у навальніц.
Плаваць — у рыб,
                    у пароды кацінай
мы вучыліся паляваць,
шумець — у ветра,
                              у кракадзіла —
фальшывыя слёзы праліваць.
Быць задуменнымі — у воблак,
быць спакойнымі — у дрэў.
Да зор узнімаў чалавек свой воблік
і, гледзячы на іх, мудрэў.
Па прыкладу скал
                              ён незгінальны.
І тут, і там, як бачым, ён
і не такі ўжо арыгінальны,
і не такі геніяльны ён.
Проста вучыўся ён заўсёды.
і тут, і там — вучобы плён,
уплыў настаўніцы-прыроды,
яе палон, яе шаблон.
Іншая справа —
                    стаць чалавечным.
Тут узорам не можа быць
прырода з законам яе адвечным:
«З ваўкамі жыць —
                    па-воўчы выць».
Гэты закон не патурае
чалавечнасці.
                    Згодна з ім,
добрым быць — не натуральна,
больш натуральна —
                              жорсткім і злым.
І ўрок, і ўзор, і прыклад добры
тут у самім сабе знайдзі
і ў тых, хто да цябе падобны,—

знайдзі і у новы свет ідзі!
Ідзі! Будзь мужным і неспакойным,
і на шляху сваім крутым
ірві з законам тым спаконным,
з законам тым,
                    шаблонам тым!
Ідзі! Адольвай самавукам —
няма ж узору навакол! —
сваю нялёгкую навуку,
сваю цяжэйшую са школ!
Ідзі! Хоць век,
                    хоць цэлую вечнасць!
Як ходзяць ветры супраць рэк.
Ідзі і помні:
                    чалавечнасць,
яна — ад слова «чалавек».

**ВЕРУ!**

Веру!
У дзіўную сілу палімераў
веру.
Веру,
што паляцім на Венеру,
у касмічную эру
веру.
Штоператворыць атам
зямлю ў Рыеўру —
веру.
А больш за ўсё хочацца верыць,
што адзін аднаму будзем верыць,
што сам чалавек начыста
зменіцца, перайначыцца.

* * *

Косім траву — яна не крычыць.
Яна маўчыць адчайна.
Мы пачынаем камень крышыць —
зацятае тое ж маўчанне.
Тое ж маўчанне, калі тапаром
мы дрэва зялёнае нішчым,
калі мы за жабры рыбу бяром
і б'ём галавой аб днішча.
Рыба набрала ў рот вады...
Затое, калі са?лім нам
бывае балюча і тады
крычым мы крыкам нястрымным,
крычым мы не толькі ад болю свайго
яго было б нямнога,—
крычым мы ад болю ўсяго
свету зямнога.

## СПАЧУВАННЕ

Спачуваю чалавеку,
калі ў яго праразаюцца зубы
У мяне самога праразаліся зубы,
і хоць я гэта не помню,
але ведаю: балюча было тады.

Спачуваю чалавеку,
калі ён б'ецца над пытаннямі,
калі да яго прыходзяць сумненні,
калі яго спасцігаюць расчараванні.
Я зведаў на ўласным вопыце
і тое, і другое, і трэцяе.

Спачуваю чалавеку,
калі яму крыўдна,
калі гняце яго несправядлівасць.
Несправядлівасць! Я знаю, што гэта такое.
Самая большая рана на маім сэрцы —
гэта тая, якую пакінула несправядлівасць.

Спачуваю чалавеку,
калі ў яго памірае маці,
калі ў яго гора.
У мяне самога памірала маці,
я сам глядзеў у чорную бездань гора.

Спачуваю чалавеку,
калі ён баіцца смерці,
калі ён паміраць не хоча,
Я ж сам смяротны і ведаю:
не так гэта лёгка памерці,
калі над табой такое сіняе-сіняе неба,
калі вакол такая зялёная-зялёная трава.

Спачуваю чалавеку,
і гэта, відаць, натуральна.
Бо хто ж яму паспачувае,
калі не я — такі ж, як ён, чалавек!

## МЕДСЯСТРЫ

Ідзі! Не марудзь, ідзі!
Іначай нельга ў жыцці.
Ідзі, белахалатая,
ідзі да іх, да людзей,
ідзі з палаты ў палату —
суцеш, супакой, абнадзей.
Ідзі і цяплом абдорвай.
Ідзі, бо патрэбна ты...
Не ўсе хочуць быць добрымі,
ды хочуць усе дабраты.

* * *

Гэтым паспагадаем
і зразумеем тых,
спагадліва апраўдаем
далёка не святых.
А тут, відаць, недарэчы
наш чалавечы боль.
Тут — распраўляй плечы
ды давай бой.

* * *

Вы зразумейце правільна.
Я не за тое, не,
каб падстаўлялася правая,
калі хто па левай б'е.
Я не супроць гнева.
Ды я за тое, каб нас
не білі ні справа, ні злева,
ні ў профіль, ні ў анфас.
Каб гордасці нашай і годнасці
ніхто не наносіў абраз,
каб не было неабходнасці
рашаць: ці біць у адказ?

## СТАТАК ВЯРТАЕЦЦА З ПОЛЯ

Статак вяртаецца з поля.
У цішыні вечаровай
бягуць авечкі і козы,
спаважна ідуць каровы.
Статак вяртаецца з поля.
Што трэба вёсцы болей?
Вёска святкуе падзею.
Выйшла ўся насустрач —
ад гаспадынь руплівых
да дзетвары шустрай.
Бляюць авечкі і козы,
ціха мычаць каровы.
Людзі ўздоўж пасталі —
як каравул ганаровы.
Людзі рады жывёле.
Ціха каровы рыкаюць.
Знаюць, што іх чакаюць,
рады, што іх сустракаюць.
Статак вяртаецца з поля
доўгаю чарадою.
Над вёскаю пах духмяны,
пах густы сырадою.
Статак вяртаецца з поля...
За полем тым, за лесам,
недзе горад вялікі
ляскае жалезам.
Недзе спяшаць на дыспут.
Недзе спяшаць на прэм'еру.
Недзе прэм'ер-міністр
дае абед ці вячэру.
Нехта робіць адкрыццё,
нехта рыхтуе прамову,
нехта гаворыць тайна
па проваду прамову.
А ў вёскі свая надзея.
А ў вёсцы шуміць таполя.
А ў вёскі свая падзея —
статак вяртаецца з поля.

## ПРАДМЕСЦЕ

Прадмесце. Горада прадвесце.
Прадмесце. Горада прадвесне,
яго пачатковая вясна.
Тут яшчэ шмат ад вясковага сна.
Тут яшчэ шмат ад звычайнай вёскі.
Дрэмлюць ластаўкі на правадах.
Аднекуль нясуцца адгалоскі
курынага «куд-ку-дах».
На вуліцу лезе плот косы —
косць ад вясковай косці.
Збан гліняны павіс на плоце —
плоць ад вясковай плоці.
Ціха жанчына ідзе па ваду,
хустку завязвае на хаду,
А ўслед хлопчык коціць рэхву.
Звон яе аддаецца рэхам.
Коціцца рэха пад пагорак,
звініць як памяць дзіцячых дзён...
З вёскі пачынаецца горад.
Ці помніць пра гэта ён?

* * *

Людзі простыя гадаюць,
знаць жадаюць і пытаюць,
што людзі вялікія ядуць.
А людзі вялікія тое ядуць,
што людзі простыя ім дадуць.
Яшчэ гадаюць людзі простыя,
на чым вялікія людзі спяць,
хаця ткуць самі коўдры і просціны,
хаця самім даводзіцца слаць.
Яшчэ загадка для простых людзей...
Загадак у іх, як у дзяцей!
Ах, простыя людзі, простыя людзі,
калі вам усё зразумела будзе?

## ПАХАВАЛЬНАЕ ШЭСЦЕ

Дзеці нараджаюцца
                        параўнаўча рэдка,
а нас так многа,
нас поўны горад,
нас поўная планета.
Адкуль нас столькі бралася?
Калі мы толькі паспелі
                                    нарадзіцца?
Людзі як быццам бы смяротныя,
а паміраюць параўнаўча рэдка —
асабліва ў мірны час.
І пахавальнае шэсце на вуліцы горада
здаецца нам ледзь не вулічным здарэннем,
ледзь не сумным непаразуменнем.
«Хіба паміраюць людзі?»
Так і на гэты раз.
Павольна рухаецца пахавальнае шэсце.
Ледзьве перастаўляюць ногі людзі,
ледзьве круцяцца колы машыны,
ледзьве плыве жалобная мелодыя:
пахавальны марш
у адрозненне ад іншых маршаў
напісаны ў тэмпе адажыо.
Павольна рухаецца пахавальнае шэсце.
І вуліца па-свойму прымае яго.
Вуліца прымае яго
                        краем вока,
                        краем вуха,
                        краем сэрца,
прымае рассеяна і няўцямна:
«Хіба паміраюць людзі?»
Вуліца не можа прыняць усур'ёз
пахавальнае шэсце —
з гэтай дзівачкай-машынай,
што паўзе чарапахаю,
з гэтымі аголенымі,
нізка схіленымі галовамі,
з гэтай жалобнай,

напісанай у тэмпе адажыю мелодыяй.
Вуліца жывая, і яна жыве,
і яна хоча жыць.
Яна хоча імчацца на поўнай скорасці,
яна хоча несці высока і весела галаву,
яна хоча слухаць мажорную,
напісаную ў тэмпе алегра мелодыю.
Вуліца — вечна жывая,
і яна здзіўлена пытае:
«Хіба паміраюць людзі?»

*

Над вуліцай горада плыве
жалобная, сумная мелодыя.
А вуліца, вечна жывая, жыве —
паспешліва, прагна, з асалодаю.
Ёй жыць і жыць — такі яе лес.
Ёй прама і весела голаву несці.
Таму не прымае яна ўсур'ёз
пахавальнае гэтае шэсце.

## НОЧЧУ ЗАПЛАКАЛА ДЗІЦЯ..

Ноччу заплакала дзіця.
Заплакала, загаласіла нема.
Святло запалілі, сталі яго суцішаць.
Крычыць, і ўсё.
Дрыжыць, усіх баіцца.
Паказвае некуды ў цёмны куток.
«Што з ім?» — гадаем,
гледзячы на яго.
Плача дзіця, нічога сказаць не можа.
І мы глядзім на яго з трывогай.
З жалем мы глядзім на яго:
«Якое бязмоўнае ты!
Якое бездапаможнае і дурненькае!
Крычыш, а не можаш сказаць —
чаго».
Як быццам мы самі можам усё выказаць,
як быццам можам мы растлумачыць усё.

## РЭЧЫ

Нас акружаюць нашы рэчы.
З імі ў нас дружба і лад.
І гэта дружба не знае спрэчак,
не знае маны і здрад.

Маўкліва і верна рэчы дружаць.
Аддана служаць яны.
Мы іх пакідаем —
і рэчы тужаць,
прыходзяць у нашы сны.

А дачакаюцца дня сустрэчы —
на мове ціхай сваёй
многа-многа скажуць нам рэчы.
Болей, чым людзі парой.

Калі ж мы скончым
свой шлях чалавечы,
праб'е наш апошні час,—
будуць настойліва нашы рэчы
напамінаць пра нас.
Настойліва і доўга...

## ДЗЯКУЙ, ТЭРМАС!

Дзякуй, тэрмас, за цяпло,
дзякуй, тэрмас мой, за вернасць.
Шмат цяпла вакол уцякло,
а ты застаўся верным, тэрмас.
Тае цяпло нечай рукі,
нечага поціску і пагляду...
Дзякуй, тэрмас!
                    Дай пагладжу
я твае цёплыя бакі.
Так заўсёды ў свеце было.
Адбываюцца ўсе здрады
па закону цепластраты...
Дзякуй, тэрмас, за цяпло.
Зямля астыла праз вякі,
астыне сонца ў свой тэрмін...
За твае цёплыя бакі,
за нязменнасць дзякуй, тэрмас!
Дзякуй, тэрмас, за цяпло!
Добрае тое ўсё,
                    што цёплае,—
хваля,
          святло,
                    цялё,—
а няцёплае ўсё — нядобрае.
Дзякуй, тэрмас, за цяпло!
Зло, як Арктыка, абледзянелае.
Цёплае, як сэрца, дабро.
Дабро, як тэрмасы цеплацелыя.
Дзякуй, тэрмас, за цяпло!

## НЕРВЫ

Позна! Выйшлі з-пад кантролю.
У стыхію сваю ўвайшлі,
увайшлі ў сваю ролю,
сябе, сілу сваю знайшлі.
Позна! Разышліся нервы.
Пачынаюць свае манеўры.
Пачынаюць зноў яны
рыхтавацца да вайны.
Агнявую моц патройваюць,
ваяўніча сябе настройваюць.
Позна! Нервы — на ўзводзе!
Не паможа болей бром.
Такі бром яшчэ не знойдзен,
каб спыніць іх...
Выбух! Гром!
І ляцяць аж пад аблокі
ва ўстрывожанай цішы
супакою твайго абломкі
ды асколкі тваёй душы.

## ЗГУБЛЕНАЕ СЛОВА,
## ЦІ ЗДАРЭННЕ Ў АЎТОБУСЕ

Я павінен звярнуцца
                    да жанчыны.
І не магу, не ведаю — як.
«Дзяўчынай» яе не назавеш —
яна ж не афіцыянтка
і яна ўжо немаладая.
Звярнуцца: «Таварыш!» —
Але ж мы не на сходзе,
                              а ў аўтобусе,
і такі зварот гучаў бы занадта афіцыйна,
калі не казённа.
Я пачынаю злавацца.
Злавацца на сябе,
злавацца на мову.
Злавацца на слоўнік,
які паважна стаіць на паліцы,
а такога патрэбнага слова не мае.
Я пачынаю ў думках
сыпаць гром і маланкі
у адрас знаёмага мовазнаўцы,
які лічыць сябе вялікім вучоным,
а згубленае слова не можа адшукаць
ці знайсці новае —
калі такога слова не было...
Сказаць: «Грамадзянка?» —
хапаюся я за апошнюю, здаецца, магчымасць.
Але ж мы зноў-такі
не ў судзе і не ў міліцыі.
Я — не суддзя, яна — не падсудная.
Мы — у аўтобусе, мы — пасажыры.
Мы — проста людзі.
Мы — проста мужчына і жанчына,
і адзін з нас проста
хоча звярнуцца да другога...
— Прабачце, я да вас... як вас зваць!
— Мяне? Аляксандра Пятроўна...

## ДРЭВА ЖЫЦЦЯ

Шуміць перад намі жыцця дрэва.
Як гэта дрэва паказваць трэба?
У чым, паэт, задача твая?
Абмаляваць стройнасць ствала?
Альбо захапіцца пышнаю кронаю,
да лістка перабраць яе?
Яшчэ прыгадаць: на галінку крохкую
салавей садзіцца, салавей пяе?
Можа, усё гэта і нядрэнна.
Але лісточкі — яшчэ не дрэва.
І раз бярэшся дрэва паказваць,
трэба, брат, рукавы закасваць.
Ты дзейнічаць, як хірург, павінен —
лезь да стрыжаня, да сэрцавіны.
З той жа настырнасцю агалі
карэнні, што недзе ў зямлі,
што спавілі ўлонне глiністае.
Не будзеш наіўным тады, як дзіця.
Спасцігнеш карэністае, галіністае,
вечназялёнае дрэва жыцця.

## ТРОМБЫ

*А. А. Куляшоў*

Пад сэрцам планеты —
тромб з атамных бомб.
Пад сэрцам паэта —
з трывог яго тромб.
Як ком снежны,
тромб першы расце.
Ад яго залежны —
другі расце пакрысе.
Змагацца б нядрэмна
з першым тромбам тым.
Ды вельмі дрэнна,
калі ненадзейны тыл.
Калі так зацята
стаіўся ўласны тромб
і пачынае заўзята:
«Ты што — супраць бомб?
Ты супраць цемры,
ты супраць зла, паэт?
Табе скрозь церні
бачыцца новы свет?
Ды ты не вельмі,
не вельмі старайся ты!
Я ў тваёй вене,
я — твой ненадзейны тыл...»
Аднойчы пад раніцу,
калі паэт шукае троп,
паэта па-здрадніцку
ашукае тромб.
Як звер драпежны,
згорнецца ў камячок
і зробіць свой непазбежны,
свой дзікі скачок...
І здасца паэту,
калі пацямнее ў вачах,
што нешта з планетай,
што здарыўся атамны жах.

* * *

Куды вядзе месячны след,
што свеціцца на вадзе?
Вядзе ён у дзіцячы свет,
у казачны свет вядзе.
Ну, а куды яшчэ вядзе
сцяжынка, што свеціцца на вадзе
усё ярчэй і ярчэй?
Да першай тваёй любві вядзе,
да светлых яе начэй.

## АЗ, БУКІ І ВЕДЗІ

Сумна не ведаць нічога на свеце.
Жыць жыццём цёмных лясоў.
Жыць добры, аз, букі і ведзі!
Усе пачынаецца з вас, з азоў.
Бывайце, мішкі, каты ды мышкі.
Бывай, першабытны дзіцячы свет.
Дзень добры, першыя мае кніжкі!
Дзень добры, першы веласіпед!
Дзень добры, кніжкі мае другія
Дзень добры, трэція кніжкі мае!
Дзень добры, настаўнікі дарагія!
Вучыце! Мне ведаў не стае.
Вітаю цябе, настаўнік галоўны —
мае і ўсіхняе жыццё!
Я мала знаю, мой розум галодны,
галоднае мае пачуццё.
Галоднай прагай блішчаць мае вочы,
як вочы воўчыя ўначы.
Жыццё, наталі бляск іх воўчы!
Жыццё, наталі, напаі, навучы!..
Многа чаго я зведаў на свеце.
Стамілася цікаўнасць мая.
Дзе вы, аз, букі і ведзі?
Дзень добры, дзеці,—
гэта я!

* * *

Я любіў у дзяцінстве
слухаць размовы дарослых.
Бывала, мае равеснікі
бегаюць па вуліцы,
а я заб'юся ў куток
і слухаю, прагна слухаю,
баючыся прапусціць
                    хоць адно слова,
сказанае дарослымі —
суседам, цёткай, госцем.
А зараз убачу дзяцей,
якія гавораць пра нешта сваё,
і мне так хочацца паслухаць:
пра што яны гавораць?
                    Пра што?

* * *

Ідуць, за рукі ўзяўшыся, дзеці.
Здорава, дзеці, жыць вам на свеце!
Ідуць закаханыя — рука ў руцэ.
Не йдуць, а плывуць па чароўнай рацэ.
Хораша рукі дзіцячыя дружаць!
Хораша плыць па чароўнай рацэ!..
Я іду, а рука мая тужыць,
душа мая тужыць па нечай руцэ.

* * *

Ты ў такім шчаслівым узросце,
калі яшчэ сэрца не знае злосці.
Калі ўсё яшчэ наперадзе —
і дарогі, і масты.
Калі ўсё — на тым беразе,
а на гэтым — толькі ты.
Ты ў такім шчаслівым узросце,
калі яшчэ сэрца не знае злосці,
калі яму лёгка-лёгка біцца,
калі салодка-салодка спіцца.

## СУСТРЭЧЫ

**1**

Я так не магу, каб стрэцца
і холадна абмінуць,
каб сэрцам другое сэрца
горача не крануць.
Я знаю: тоё, другое,
сэрца нясе зарад,
жывога чакала з тугою
сэрца маё не раз.
Сустрэчы — не здарэнне:
імкнуць да зарада зарад.
Іх узаемагарэнне —
як навальнічны разрад.
Сустрэчы — не толькі збліжэнне.
Ідзе, скрозь шум і тлум,
ўзаемапамнажэнне
нашых душ і дум.

**2**

Я так не магу, каб стрэцца
і холадна абмінуць,
каб сэрцам другое сэрца
горача не крануць.
Сустрэчы дык сустрэчы!
Між мной і табой былі
няведання пустэчы,
адчужанасці палі.
Я зваў цябе на помач —
маўчаў прастор нямы.
І вось нарэшце мы побач,
нарэшце стрэліся мы.
Кладзі мне рукі на плечы...
...Няўжо між намі былі
няведання пустэчы,
адчужанасці палі?

### 3

Я так не магу, каб стрэцца
і холадна абмінуць,
каб сэрцам другое сэрца
горача не крануць.
Сустрэчы дык сустрэчы!
Тут боязь недарэчы.
Будзь шчодрым сам і скупасці
другому не даруй,
збаўляй яго ад скутасці
і самаахвяруй!
Сустрэчы дык сустрэчы! —
каб след на цэлы век...
Глядзіць з тугой чалавечай
услед мне чалавек.

## РАЗВІТАННЕ

Бывайце, бывайце!
Да новай сустрэчы!
Дзеля сустрэч і жывём на зямлі.
Мы ад'язджаем, сабралі рэчы.
А можа, што-небудзь не ўзялі?
Можа, што-небудзь застаецца?
Мы аглядаемся навакол.
Не, сабрана ўсё, здаецца.
Не, дарэмны наш непакой.
Усё сабрана, усё ўзята.
Бывайце, бывайце!
Бывай, наша свята
светлае свята стрэчы з людзьмі,
свята даверу і любві!
Бывайце, бывайце! —
Душы занылі.
Што мы забылі ў апошні міг?
Кавалачак сэрца мы забылі,
пакінулі ў сяброў сваіх.
Бывайце, бывайце!..

* * *

Калісьці, днямі асеннімі,
хаваючыся ад сцюж,
прыйшлі сюды і аселі мы:
ты і я — твой муж.
Думалі: скончацца сцюжы,
змоўкнуць вятры ў палях,
і зноў мы — у шлях засмужаны,
і зноў мы — у далёкі шлях.
Стала навокала светла,
ні восені, ні зімы...
А мы ўсё жывём аседла,
і ў шлях не збіраемся мы.

## ПІСЬМО, КАХАННЕ
## І ДАЖДЖАВАЯ КРОПЛЯ

З паўдня яно ляжала ў скрынцы,
звычайнай металічнай скрынцы,
старэнькай, заржавелай дзе-нідзе.
І калі дождж пайшоў, касы і спорны,
то кропель яго некалькі тады
дасяглі і пісьма. Адна
разбавіла чарнільны завіток,
якім заканчвалася на канверце
прыгожае імя дзяўчыны,
Пад вечар за пісьмом прыйшлі,
дасталі яго рухам звычным.
На пошце тым жа рухам сувязіст,
гаворачы з суседкай аб надвор'і,
паставіў спрытна штэмпель на пісьме.
Калі пісьмо прыйшло ў гарадок,
яшчэ раз штэмпелем яго сустрэлі,
глядзелі, як на сотню іншых пісем.
А паштальён (яна была жанчына,
любіла пapляткарыць іншы раз)
наконт пісьма сяброўцы штось шапнула,
загадкай падзялілася сваёй.
Калі ж дайшла да дома адрасата,
не трэба ёй было ісці ў дом —
сама дзяўчына выбегла насустрач.
Убачыўшы пісьмо, заззяла.
Чыё пісьмо — па почырку пазнала,
прыціснула да сэрца, да грудзей.
А пачала чытаць — сляза ўпала.
На тое месца, дзе застаўся след,
ледзь бачны след ад кропелькі-дажджынкі,
што абляцела цэлы свет
і даляцела да паштовай скрынкі,
старэнькай, заржавелай дзе-нідзе.

* * *

Мною забыта нямала
сваіх і пачутых слоў,
а словы, што ты сказала,
чуюцца зноў і зноў:
«Як бы цябе я любіла,
як бы цябе берагла!
Што б для цябе не зрабіла,
што б для цябе не змагла!
Як бы пяшчотна гучала
мая да цябе любоў!
І як бы я маўчала,
калі б не хацеў ты слоў!
Як бы цябе я чакала!
Як бы шукала ва сне!
Як бы цябе сустракала,
калі б ты ішоў да мяне!
Голас твой, твае крокі
чула б я за вярсту...
Дзяліла б з табой да кроплі
і восень сваю, і вясну.
Як бы цябе я любіла!
Без меры і мяжы.
Што б для цябе не зрабіла!..
Чаму ты маўчыш, скажы?»

* * *

Сведчылі месяц, ноч і я:
сцелюць пасцель рукі жаночыя.
Рукі белыя, рукі ўмелыя,
як ялы знаюць справу сваю!
Узлятаюць з падушкамі белымі,
белымі птушкамі снуюць.
«Я пасцель сцялю,
я пасцель сцялю,
падзялю яе
з тым, каго люблю.
Падзялю яе
з тым, каго люблю.
Я пасцель сцялю, я каханнем,
я пяшчотай сваёй падушку наб'ю
і сагрэю сваім дыханнем».
Прасціна лісцём зашапоча:
сцелюць пасцель рукі жаночыя.
Рукі ўмелыя, светлацелыя!
Няма, здаецца, нічога прасцей,
чым узбіць падушкі белыя,
чым узяць і паслаць пасцель.
Так, асаблівай не трэба навукі.
Справа звычайная, не цуд.
Але патрэбны жаночыя рукі,
толькі яны патрэбны тут.

* * *

Пайшло яно —
незваротнае,
як час, як само жыццё.
Глядзім услед, гаротныя:
«Бывай, бывай, пачуццё!»
Думалі, што ты вечнае,
што нам любіць і любіць.
А выйшла так недарэчна,
як горай не можа быць.
Не ўспамінай нас ліхам!
А ў нашай памяці ты
самым светлым міфам
застанешся назаўжды.
Было ты кроўнае,
роднае.
І вось пакідаеш нас —
такое ж незваротнае,
як жыццё і час.

* * *

Гэта не так ужо і сумна
пакідаць жанчыну, калі
ведаеш, што вернецца судна
да яе берага, яе зямлі.
Калі ты знаеш шляхі твае
зноў прывядуць цябе да яе.
Гэта не так ужо і сумна
пакідаць жанчыну, калі
кліча цябе баявая сурма,
таропяць таварышы: «Пайшлі!» —
калі абавязан пакінуць жанчыну.
Будзеш жывы —
сустрэнешся з ёй.
Загінеш — перад ёй і Айчынай
ты выканаў абавязак свой.
Самае сумнае — не гэта.
Самае сумнае — тады,
калі жанчыну, табой сагрэтую,
ты пакідаеш назаўжды,
і пакідаеш яе не дзеля
нейкіх вышэйшых спраў і надзей.
Проста мінула любві нядзеля,
а панядзелак — ростані дзень.
Пакідаеш —
з яе дакорам,
з яе ўяўнаю вiной,
з тым паглядам яе пакорным,
які адчуеш ты спіной,
калі, пакінуўшы адну,
ідзеш у цішыню,
не на вайну.

## ЭДЗІТ ПІЯФ ХОЧА ЛЮБВІ

Эдзіт Піяф хоча любві.
Голас гучыць страсна.
Голас яе —
                    голас крыві,
якой без любві страшна.
«Я — зорка першай велічыні?
Не знаю — можа, і зорка.
Знаю толькі, што без любві
зорцы золка і горка.
Шчасце — гэта, мсье, любіць,
гэта знаць пяшчоту,
што ўмее з дзвюх істот рабіць
адзіную істоту».
Эдзіт Піяф хоча любві,
такой, што не знікае.
Толькі ці ёсць паміж людзьмі
яна — любоў такая?
Быў карантыш,
                    быў легіянер,
высокі і статны,
быў бядняк і міліянер
і быў спявак эстрадны.
Быў паэт.
                    Быў. Былі.
Любілі ці не любілі,
а — як у моры караблі,
на сушы аўтамабілі.
Эдзіт Піяф хоча любві.
Эдзіт, цябе любілі?
Быў. Былі.
          З першым святлом
знікала ўсё, як выпадак.
А на душы — яшчэ надлом,
яшчэ адзін асадак.
Эдзіт Піяф хоча любві.
Любоў, як здань, знікае.
Ці таму, што сэ ля ві,
ці, можа, любоў такая.
Адным Эдзіт казала адзью.
Другія самі казалі.
Знае Эдзіт песню адну —

не для канцэртнай залы:
«Любоў, як птушка, лятала ў палях.
Лятала вольна і смела.
Птушку гэту нехта піф-паф,
і птушка ўніз паляцела.
Птушка ляцела на зямлю,
склаўшы ў адчаі крылы.
На развітанне крычала:
                    «Люблю!»
Трывожна крычала:
                    «Мілы!»
Птушка, якую нехта піф-паф,
ніжай усё і ніжай...»
Падбітая птушка, Эдзіт Піяф,
песню пяе ў Парыжы.
Слава прыйшла.
            «Брава» і «біс»,—
крычаць.— «Біс» і «брава».
А да таго, як трудна любіць,
якая ім справа.
Ёсць ганарары,
            ёсць раяль.
Бывайце, няўдачы, нястачы!
Эдзіт Піяф спраўляе баль,
баль сваёй удачы.
Толькі на ім чагось не стае.
Любві не патрэбны вілы.
З мілым рай і ў будане,
толькі. дзе ён — мілы?
Хоча любві Эдзіт Піяф.
Не той, што толькі для цела.
«Любоў, як птушка, лятала ў палях.
Лятала вольна і смела».
Быў. Былі.
            Быў друг адзін.
Разбіўся ён. Бывае ж!
Ты плачаш, Эдзіт? Пяеш, Эдзіт?
Ці друга адпяваеш?
Узбройся воляй да зубоў.
Крутая ў любві строма.
І так заўсёды — дзе любоў,
там і катастрофа.

* * *

Няма любві — душа, не тужы!
Туга, не душы — няма ласкі!
Душа крычыць, крычаць душы
галасавыя звязкі.
«Любоў, як птушка, лятала ў палях..
Яснейшай няма маралі.
Пяе аб любві Эдзіт Піяф.
Хоча любві Эдзіт Піяф.
І — без любві памірае.

* * *

Самы светлы сон —
той, што нам навее
подых вясновых дзён,
вясновая надзея.

Самы салодкі сон
сніцца закаханым.
Ля іх узгалоўя ён
пяе салаўём несціханьм.

Самы радасны сон
сніцца ў роднай хаце...
Радасны перазвон,
радасны голас маці.

А самыя сумныя сны —
калі не чуваць вясны;
калі душою чужой
стала душа каханая;
а маці за той мяжой —
бязмоўная, бездыханная.

* * *

Мы жывём, каб вяртацца
час ад часу туды,
дзе мінула юнацтва,
дзе маленства сляды.
Мы жывём, каб вяртацца.
І лепшага шляху няма.
Мы жывём, каб вітацца:
«Мама! Дзень добры, ма!»
Ну, а рантам напасце,
бяда ў той хаціне старой!
Ну, а рантам няшчасце —
і маці ў зямлі сырой!
Мы жывём, каб вяртацца.
А куды тады вернешся ты?
З кім так будзеш вітацца,
як тады, да бяды?

* * *

«Дзень добры, мама!» —
кажу крыжу
і пацямнеламу ўзгорачку.
«Дзень добры, мама!» —
зноў кажу
і слухаю маўчанне з горыччу.
Маўчаць узгорачак і крыж.
Ды чую: сосны зашумелі,
парушылі глухую ціш —
мне адказалі, як умелі.
Я доўга слухаю той шум.
Ідзе ён проста ў душу мне.
І чую ў шуме я свой сум
і сваю думу чую ў шуме.
і ўжо, здаецца, сам шумлю,
і па сасне, нібы па мачце,
мой голас-шум ідзе ў зямлю,
і разумее яго маці.
І шле мне матчын свой адказ,
і пачынае мяне зваці...
...Я ўдзячны, сосны!
Як без вас
пагаварыць я мог бы з маці?!

## МАМА МЫЛА РАМУ…

### Паводле буквара

Была і ў мяне мама.
Мыла раму таксама.
Мыла раму яна
дабяла, даясна.

Ці то ішло свята,
ці то прыйшла вясна.
Мама была занята —
мыла раму яна.

Мама раму мыла,
мама мыла шкло,
каб сонца не йшло міма,
а ў нашу хату ішло.

Стала светлай хата,
рады былі мы.
Ці то было свята,
ці то канец зімы…

Было ў мяне дзяцінства,
маці ў мяне была.
Раму мыла дачыста,
даясна, дабяла.

Потым не стала мамы.
Астыла наша гняздо.
Ніхто не мыў там рамы,
вокан не мыў ніхто.

Колькі святла навокал!
А мама туды пайшла,
дзе ні рам, ні вокан,
дзе ні шкла, ні святла.

Не мыць ёй болей раму.
Свята абходзіць маму.

Святло абходзіць весняе.
І — мае акно
глядзіць на свет нявесела,
пацьмянела яно.

## ЗАМЕСТ ЭПІТАФІІ

Спі, родная.
Ты мала спала.
Ты неспакойна спала на зямлі,
дзе мала цішыні і ладу мала,
і сны твае трывожныя былі.
Спі, родная.
Ты мала спала.
Дзяцей прыспіш —
сама ўсё не спіш,
усё глядзіш у цемнату, бывала,
усё ўздыхаеш у начную ціш.
Тады была вайна,
гула навала,
трымцеў начамі водсвет на сцяне,
звінелі шыбы...
І ты мала спала,
сама не знала,
спала ты ці не.
Былі нястачы, крыўды, непарадкі.
І ўсё будзіў, як злы нядрэмны пёс,
цябе твой лес —
лёс маткі і салдаткі,
і працаўніцы ніцай лёс.
Спі, родная.
Ты мала спала.
Ты з дня ў дзень і з году ў год
рук не складала —
мала спала.
Нас гадавала —
мала спала.
Была навала —
мала спала,
навала мінавала —
мала спала.

Ты знала больш бяссонніц і турбот.
Тваім спакоем мала даражылі.
Ты старажыла
сон усёй зямлі,
а твой, а матчын сон не старажылі,
а твой, а матчын сон не сцераглі.
Спі, родная.
Ты мала спала.
Нас гадавала —
мала спала ты.
Нас выпраўляла —
яшчэ болей дбала,
зноў не да сну
табе было тады.
Ах, дзеці! Як вы там,
на свеце, дзеці!
Штось загулі трывожна правады.
Ну, хопіць, правады, гудзеці,
не нагудзелі б вы якой бяды...
Бяда прыйшла.
І ты зусім не спала.
Які там сон мог быць ужо тады!
Ты мала спала
і жыла ты мала —
заўчасна памірала ў муках ты.
Спі, родная.
Ты мала спала.
Ты болей знала неспакой начны.
Нас гадавала —
мала спала,
нас ратавала —
мала спала,
шмат працавала —
мала спала,
шмат бедавала —
мала спала...
Спі, родная.
Хоць там спачні.

* * *

Сціраюць з карты белыя плямы
і адкрываюць мацерыкі
не калумбы — калумбавы мамы,
іхнія добрыя мацяркі:
благаславенне матчына іх,
малітвы іх за сыноў сваіх.
І мір заключаюць не дыпламаты —
па іх бы голас гарматаў не сціх,—
а мутэр і мэр, маці і маты,
добрая матчына воля іх.
І рэвалюцыі — справа іх рук,
прасцёртых роспачна і нема.
З гронак матчынага гнева
праліваецца кроў на брук.

* * *

Не усе і не заўсёды
вяртаюцца пчолы ў соты
з ношаю сваёй —
гінуць разам з ёй.
Не ўсе дапаўзаюць мурашкі
груз у мурашкі цяжкі,
і птушкі па вясне
не ўсе далятаюць, не.
Упаў журавель на дасвецці,
выбіўся з сіл і надзей...
Тое ж і у нашым свеце,
тое ж і у нас, у людзей.

## ЖЫЛІ-БЫЛІ

Жылі-былі...
Так пачынаюцца казкі.
Задоўга да нас людзі жылі-былі.
Справы рабілі, хацелі любві і ласкі,
ірвалі краскі.
І адышлі, адплылі.
Жылі-былі...
Словы гучаць эпітафіяй.
Жылі-былі.
І адышлі, адплылі.
Толькі над намі лятаюць іх душы птахамі,
толькі сляды іх цямнеюць усё на зямлі.
Жылі-былі...
Скончацца нашы краскі,
справы і ласкі,
скончыцца наш час.
Жылі-былі...
Так пачынаць будуць казкі.
І гэтыя казкі будуць ужо і пра нас.

## ВЯРТАННЕ

Я вяртаюся ў вершы
пасля адсутнасці доўгай.
Супакойся,сэрца!
Сэрца, не тоўхай!
Думаў, што пражыву,
абыдуся без вас я, вершы.
Ды пачаў галаву я без верша ў вешаць.
Затужыла душа, затужыла, заныла.
Пацягнула яе, як птушку з далёкага Ніла…
Я вяртаюся ў вершы
зусім не па славу паэта.
Я вяртаюся ў вершы,
і ёсць запаветная мэта.
Я хачу расказаць ім,
паведаць ім многа-многа
з падарожжа манго,
майго шляху зямнога.
Гэта — нібы вяртанне
ў родныя сэрцу мясціны,
гэта — нібы вяртанне
ў світанне, у свет дзяціны.
З падарожжа майго,
майго шляху зямнога
я вяртаюся ў вершы —
вядзі і вядзі, дарога!

## ***<u>ВЫСОКАЕ НЕБА ІДЭАЛА</u>***

### ВЫСОКАЕ НЕБА ІДЭАЛА

Высокае неба ідэала!
Мая душа чалавечая спала,
вякамі спала да той пары,
пакуль не ўбачыў цябе ўгары,
пакуль на да мной ты не заззяла,—
высокае неба ідэала!

Калі адкрыў я цябе аднойчы,
убачыў сябе з тваёй вышыні,—
сталі іншымі мае ночы,
сталі іншымі мае дні.
Ты новым сэнсам іх асвятляла,
высокае неба ідэала!

Ты мне дало другое дыханне,
дало мне дарогу і сяброў.
І толькі так, як хвалюе каханне,
ты хвалявала маю кроў.
Ты мяне вабіла і звала,
высокае неба ідэала!

Хмурэў —
            ты ўсмешку мне вяртала.
Звярэў —
            ты мудрасць мне вяртала,
Хварэў —
            ты сілы мне вяртала.
Старэў —
            ты свежасць мне вяртала,—
высокае неба ідэала!

Ты мяне вабіла і звала.
Парой здавалася явай такой,
да якой падаць рукой,—
высокае неба ідэала.

Цягнуў руку я да цябе,
як цягнуць рукі ў мальбе,
але рукі той было мала,
высокае неба ідэала!

Відаць, кароткаю рукой
быў ад прыроды я надзелены,
і траціў часам я надзеі,
і траціў часам я спакой.
Ды ты мяне зноў уздымала,
высокае неба ідэала!

Зноў уздымала і вяло,
зноў хвалявала, бунтавала,
давала сілы і святло,
усяму нізкаму назло,—
высокае неба ідэала!

Ты шмат ахвяр патрабавала.
Калі я падаў у барацьбе,
я ў зрэнках адбіваў цябе.
І ты ў халодных зрэнках ззяла,
высокае неба ідэала!

## НАВАГОДНІ ТОСТ

Я прапаную тост за Час!
Давайце ўзнімем чашы
за Час, працуе што на нас,
на спадзяванні нашы.
Я прапаную тост за Час! —
за Час, працуе што на нас
настойліва, сумленна,
нястомна і нязменна!
Парою здацца нам магло,
што Час — ён безудзельны:
не за дабро і не за зло,
што Час — ён ненадзейны.
Мы памыляліся тады.
Бываюць дні без шчасця,
бясчэсця сумныя гады,—
то паласа бясчасся.
А Час прыходзіць — як зара,
як свеяны подых ветра,
і адступае хваля зла,
і робіцца зноў светла.
Прыходзіць Час,
прыходзяць дні.
Час ставіць кропкі ўсе над «і».
Усё на месца ставіць ён.
І называе рэчы —
не любіць Час ілжэімён —
іх назваю адвечнай,
Хлуснёю назаве хлусню,
а мітуснёю — мітусню,
нядоўгае — нядоўгім,
нядобрае — нядобрым,
нячыстае — нячыстым,
злачыннае — злачынствам.
Тырана так і назаве
тыранам і — вянок сарве.
Нам памагае ўбачыць Час:
тут — толькі попел,
там — алмаз,

тут — зерне,
                    там — палова,
тут — пустазвонства гучных фраз,
там — ісціннае слова.
Я веру ў добры, мудры Час,
як веру ў добры, мудры сказ.
Я ў трудны дзень кажу сабе:
«Нічога, скора Час праб'е,
нічога, прыйдзе скора Час
і ён тады рассудзіць нас!»
Я. прапаную тост за Час —
саратніка, сааўтара!
За Час, што працаваў на нас,
за Час, працуе што на нас,
што будзе працаваць на нас,
служыць нам верна заўтра!

* * *

Домік маленькі,
бачу я, знеслі.
А ў доміку гэтым
спявалі песні.
А ў доміку гэтым
дзяцей нараджалі.
А ў доміку гэтым
гасцей страчалі.
А ў доміку гэтым,
у доміку гэтым
утульна было
зімою і летам.
Шкада мне да болю,
шкада да слёз
доміка, што пайшоў
на знос.
Не тое лепшае,
што навейшае,
а тое лепшае,
што раднейшае.
Не тое лепшае,
што вышэйшае,
а тое лепшае,
што бліжэйшае,
не тое лепшае,
што прыгажэйшае,
а тое лепшае,
што даражэйшае...
Той домік
блізкі некаму быў.
Той домік нізкі
нехта любіў.
З тым домікам
звязаны нечы лёс...
Той домік пайшоў
сягоння на знос.

## ДЗВЕ ПАРАЛЕЛЬНЫЯ ПРАМЫЯ

За школьным! вокнамі
вецер вые...
Пра дзве паралельныя прамыя
гаворыць настаўнік,
ад холаду сіні.
На чорнай дошцы —
дзве белыя лініі,
якія ніколі не перасякаюцца,
якія нідзе не сустракаюцца...
«Няўжо гэта праўда?
Чаму — ніколі?» —
думаю я, ідучы са школы.
«Няўжо гэта праўда?
Чаму — нідзе?» —
думка з маёй галавы не ідзе...
Даўно адшумелі
школьныя ветры,
ды помню чамусьці
урок геаметрыі.
Перада мною
зноў, як жывыя,—
дзве паралельныя прамыя.
Бачу: ідуць у прасторы лініі,
нічога агульнага паміж імі.
Ідуць і маўчаць яны, нямыя,
дзве паралельныя прамыя.
Ідуць яны побач,
ідуць яны поплеч —
адна другую
не клічуць на помач.
Нібы пракляцце вісіць над імі,
над паралельнымі прамымі.
Будуць заўсёды яны чужыя,
яны — паралельныя прамыя.
Не суджаны ім сустрэчы праменныя,—
яны — прамыя,
яны — паралельныя.

Ад крыўды за вас
                    маё сэрца ные,
дзве паралельныя прамыя.

*

Бачу ў мінуту азарэння:
падаюць вашы тры вымярэнні.
Падаюць вашы сцены і сталі,
і — адкрываюцца прасторы.
Падаюць брамы вашы і дзверы.
Выходжу прама ў сінія сферы.
Выходжу ў сінія сферы бязмернасці,
вернасці вечнай і бяссмертнасці.
З быту выходжу, як з нябыту,
на сваю новую арбіту.
Тры вымярэнні, мы з вамі — квіты.
Вы — дрэнныя пракрокі, эўкліды.
Падаюць крыўды і няпраўды.
Вы — дрэнныя пракрокі, плаўты[1].
Пакінем няввер'е і іронію.
Бачу вышэйшую гармонію.
Бачу: сустрэліся, як жывыя,
дзве паралельныя прамыя.
Бачу: заззялі, як праменныя,
тыя прамыя паралельныя...

[1] Плаўту належыць выраз: чалавек чалавеку воўк.

## БУНТ АНЁЛА

Аднойчы анёлаў
сабраў херувім.
Агледзеў вачамі вясёлымі
і стаў гаварыць узрушана ім,
як ён задаволен анёламі.
«Хай надалей вас грэх міне? —
казаў херувім урачыста.—
І надалей, браты мае,
жывіце нявінна і чыста!
Помніце божы запавет!
Інакш прапалі людзі,
інакш загіне цэлы свет
у распусце і брудзе...»
Расчулена слухалі браты,
раскрыўшы ружовыя раты.
Нявінна вачамі лыпалі
ды адказвалі ўсхліпамі.
Стараліся яшчэ святлей
свяціць сваімі німбамі,
давалі знаць, што і далей
будуць такімі ж нявіннымі.
І толькі маўчаў адзін анёл.
І толькі адзін з анёлаў
сядзеў, унурыўшы вочы ў дол,
нізка схіліўшы голаў.
Спытаўся тады ў яго херувім:
«Што гэта з табой, анёле?
Браты анёлы, што гэта з ім?
Не быў ён такім ніколі.
Яшчэ ні ва сне, ні наяву
не бачыў такім я анёла».
Той дзіўны анёл узняў галаву,
агледзеў усіх наўкола.
«Ты хочаш ведаць, херувім?
Я адкажу, васпане!..
Я ганарыўся німбам сваім,
я шанаваў сваё званне.
А потым падумаў я, браты:

«Няўжо я такі нявінны,
такі бязгрэшны сапраўды? —
нібы не з плоці, а з гліны.
Вакол мяне — страсці,
вакол мяне — грэх,
брыдота, тупыя рыльцы,
і толькі я адзін, як на смех,
нашу вось гэтыя крыльцы.
Малюся я на свой арэол,
а д'ябал рагоча, заядлы...
Анёл — ужо таму не анёл,
што ёсць сатана, ёсць д'яблы».
І тут падскочыў херувім:
«Браты анёлы! Вы чулі?!
Браты анёлы, што гэта з ім?!
Ды ён жа нейкі чумны!
Ерасі гэткай, такіх славец
не чула анёльскае вушка.
І гэта — божы пасланец!
І гэта — божы служка!
Анёлы, кідайце ў яго камяні!
Анёлы, біце трывогу!..»
Імчаўся архангел на кані,
вёз данясенне богу.
На небе быў страшны перапалох.
Анёлы рыкалі, як зверы...
...Не ведаю я, як вырашыў бог,
якія прыняў ён меры.

* * *

Што значым мы
самі па сабе?..
Семя знаходзіць сябе
ў сяўбе.
У гэтым полі,
гэтым жыцці
мы павінны
прарасці.
У гэтым  полі,
гэтым жыцці.
мы павінны
узысці.
У гэтым полі,
гэтым жыцці.
мы павінны
сябе знайсці.
А па вясне,
а па сяўбе
мы ўжо
не самі па сабе.

* * *

Я фільм глядзеў.
Там — Спартака распялі.
Распялі ноччу,
калі ў Рыме спалі.
Вісіць Спартак,
канае на крыжы.
А ўнізе, каля ног яго, жанчына
ўзіраецца ўтрапёнымі вачыма:
«Спартак, Спартак…
хоць слова мне скажы!..»
У роспачы хапаецца за ногі.
«Спартак, Спартак…»
У зале плачуць многія.
Ды і ў мяне самога ў горле ком,
і сам слязіну я змахнуў тайком…
Спартак, Спартак!
Героі ўсіх эпох!
Ці не такі ваш лёс быў у фінале?
Як нехта модна спаў,
вас распіналі,
вы ціха на крыжы сваім каналі,
і білася жанчына каля ног.

## ДЗІВАК ЧАЛАВЕК

Дзівак чалавек...
Глядзіць на расінку макавую,
і цэлае сонца бачыць перад сабой.
Дзівак чалавек...
Бярэ звычайную ракавіну
і чуе ў ёй акіянскі прыбой.
Дзівак чалавек...
Бачыць сцяжынку гладкую,
а марыць аб трудных, цярністых шляхах
з іх круцізною, з іх небяспечнай загадкаю
і будзе ісці, пакуль мае сілу ў нагах.
Дзівак чалавек...
Са стратаю непапраўнаю
не мірыцца ён нізашто ў душы.
З няпраўдай не мірыцца,
і з крыўднаю праўдаю
не хоча мірыцца —
хоць кол ты на ім чашы.
Дзівак чалавек...
Яму ў многім адмовілі.
А ён не здаецца,
а ён не спіць па начах.
Ён верыць усё ў свой перпетуум-мобіле,
у панацэю, у цудадзейны рычаг.
Дзівак чалавек...
Яму — Хірасіму, Асвенцім,
яму, замест імя,—
асвенцімскае таўро.
А ён паўтарае,
што ёсць дабро на свеце,
што будзе дабро
і што пераможа дабро.
Дзівак чалавек...
Не можа не спадзявацца,
не можа не верыць,
не можа ніяк!
Дзівак чалавек...
І гэта яго дзівацтва —
ратунак яго,
яго чалавечы знак.

## ХУНВЭЙБІНЫ

Мне снілася, што мяне білі
на нейкай плошчы хунвэйбіны.
Па твары білі, па спіне,
Іх хунвэйбінскія дубіны
лупілі-білі так па мне —
як б'юць па пыльным дыване.
Мой учарашні брат і друг
з мяне і выбіваў мой нізкі,
так званы рэвізіянісцкі,
так званы буржуазны дух.
«За што?! — я спрабаваў пытацца.—
Хіба я не люблю кітайца?
Хіба я вам — не друг і брат?»
Быў у адказ —
удараў град.
Што ты дакажаш хунвэйбінам,
дубінам іх і ім, дубінам.
Нічога не дакажаш, не,
Тым больш — не наяву, ва сне.
Яны ж, пад гіканне і тупат,
над дзікі рогат, дзікі свіст
затым мне ўчынілі допыт:
— Дык хто ты ўсё ж —
рэвізіяніст?!
Капітулянт? Капіталіст?
Ідэаліст? Матэр'яліст?
Дапытвалі пад шум і свіст:
«Чаму, скажы, не мааіст?!
Чаму маўчыш?
Дыханне спёрла?!»
І да майго ўжо кадыка,
і да майго ўжо, бачу, горла
чыясьці цягнецца рука.
І падступаюць хунвэйбіны,
і ад раз'юшанай крыві
гараць іх вочы, як рубіны.
«Дык хто ты ўсё-ткі? — назаві!»
«Я чалавек,— сказаў я ціха.—
Я чалавекам хачу быць».

І закрычалі яны дзіка,
і сталі крыць,
і сталі выць:
«Вы чулі, чулі, хунвэйбіны?!
Дык гэта ж здзек,
дык гэта ж кпіны!
Дык гэта ж небывалы здзек!
Вы бачылі?! Ён — чалавек!
Вы чулі? Хоча чалавечнасці!
Ён чалавекам хоча быць!
Ці бачылі вы горшай нечысці?!
Такога мала і прыбіць.
Вы чулі, чулі, хунвэйбіны?!
Ён хоча ласкі галубінай,
смяяцца хоча і любіць.
А ну-тка даць яму дубіны!
Такога мала і забіць!
Ён хоча думаць,
яму мала,
што думае вялікі Мао
за ўсіх за нас і за яго!
Яму дай думаць! Ого-го-го!
Ён хоча ведаць,
яму мала,
што ведае вялікі Мао
усё і уся, што, дзе і як!
Ён хоча ведаць!
Ён — маньяк!
Ён хоча мець імя,
бо мала
яму імя такога — Мао!
Не рад такому імю, гад!
Нягоднік! Здраднік! Рэнегат!
Ён хоча мець свой твар, свой воблік,
сваё святло!..
Ты ж — бледны водбліск
святла, што йдзе, нібы зара,
ад вобліка правадыра!
Ён хоча... Чулі, хунвэйбіны?
(Яны ўзяліся за дубіны.)
Ён хоча... Чулі, хунвэйбінкі?

(Яны ўзяліся за дубінкі.)
Ён ні даўбешкай і ні пешкай,
ён хоча чалавекам быць!
Дык вось ён —
                                        вораг нумар першы,
якога мала і забіць!
Чацвертаваць такога мала!
«Няхай жыве вялікі Мао!»
«Няхай жыве вялікі Мао!»
«Наш родны бацька,
                                        наша мама!..»
Далей мне снілася:
                                        прышылі
плакат мне на спіне — вось здзек!
І ўсцяж вялікай гэтай шыльды
вялікай літарай аршыннай
накрэслілі: «Ён — чалавек».
Адзін такі плакат прышылі,
другі павесілі на шыі
і павялі — на нейкі сход,
на нейкі суд ці эшафот.
Натоўп услед крычыць: «Злавілі!»
Натоўп услед крычыць: «Зламілі!
Вы бачылі? Ён — чалавек!
Не, ты не будзеш ім навек!»
Паглядамі, нібы штыкамі,
мяне пранізвалі наскрозь.
Мне пагражалі кулакамі.
Крычалі: «Вось ён! Вось ён! Вось..
Яшчэ ўскрыквалі пад свіст:
«Яго — у самы чорны спіс!
У самы чорны, самы чорны —
калі такі ён непакорны!
У самы чорны, самы чорны!
Яго ў такія трэба жорны,
каб на муку перамалоць
яго нагany дух і плоць!..»
І тут я ўбачыў раптам жорны.
Такія ў вёсцы бачыў я.
Я ўбачыў жорны той жа формы,
ды толькі большыя ўтрая.

А, можа быць, разоў у дзесяць.
Як толькі іх змаглі падвесіць,
узняць такія камяні?
Іх з месца паспрабуй скрані.
Яны паўзлі аднекуль зверху,
і па-драконаўску,
                    па-зверску
вурчэць адразу пачалі,
як нас убачылі здалі.
Раскрылі пашчу тыя жорны!
О, жах!
          Хвіліна — і яны,
азвераныя валуны,
нас перамелюць,
          нібы зёрны.
І тут я закрычаў у сне:
«Не, не, не трэба!
          Толькі — не!..»
Прачнуўся я ў халодным поце.
Рукой памацаў валасы.
Яны былі ў гарачым поце.
Так, пабылі мы ў пераплёце...
Яшчэ гучалі галасы:
«Вы чулі, чулі, хунвэйбіны?!
А ну-тка даць яму дубіны!..
У самы чорны, самы чорны!
Яго ў такія трэба жорны!..»
Я ўзняў з падушкі галаву.
У ранішнюю сіняву
сплывалі зданию хунвэйбіны
і дагасалі, як рубіны,
іх вочы... Быццам наяву
я бачыў гэта ўсё, не ў сне.
...Сінеўся новы дзень у акне.

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА ЛЕС

Ішлі мы ў лес па прахалоду,
па кветкі, ягады, смалу.
Ішлі мы ў лес па асалоду.
І вось — сякерай па ствалу.
Лес нас любіў,
а мы не любім.
А мы яго сячом і губім.
Не хочам мы любві ўзаемнай.
Ён нам — свае дары.
А што яму далі ўзамен мы?
Што робім мы ў бары?
Да нас ён —
з мірам і пакорай.
А мы да яго —
з мячом.
А мы яго — пад корань,
пад корань,
пад самы корань сячом...

## РАНА ЦІ ПОЗНА

Рана ці. позна,
позна ці рана
высахнуць слёзы,
загоіцца рана.
Рана ці позна...
Рана ці позна,
позна ці рана
суровая помета
спасцігне тырана.
Рапа ці позна...
Як светла,
            як росна!
Гляджу ўсхвалявана.
А рана ці позна,
позна ці рана.
Рана ці позна,..
Рана ці позна,
позна ці рана
хай будзе, што лесам
наканавана.
Рана ці позна!..

* * *

Вялікія, светлыя будынкі!..
Вы — нібы светлых людзей абдымкі.
Вітаю цябе,
                    канцэртная зала!
Ты многа сэрцу майму сказала.
Убачу вас,
                    тэатральныя люстры,
і шэпчуць штосьці
                              мае вусны.
Дзень добры, брат мой,
                              кінематограф!
Ты сам не ведаеш,
                    як ты мне дораг!..
Вялікія, светлыя памяшканні!
Прыміце мой боль, мае шуканні,
маленне, сумленне мае жывое.
Вы — храм мой,
                    вы — свята мае храмавое.

* * *

Зноў шлак халодны.
Толькі шлак.
Як быць з табой,
маё тварэнне?
Я б'юся, я шукаю шлях,
каб перадаць само гарэнне.
Гляджу — на шлак
наводзяць лак.
А вынік?..
Вынік зноў плачэўны.
Пад яркім лакам той жа шлак,
а не агонь —
жывы, свяшчэнны.
А Праметэй —
ён нёс агонь,
жывы агонь браў на далонь.
Як нам зрабіць, маё тварэнне,
каб ты было —
само гарэнне?
Не адыход
і не адгон,
а сам агонь.

## СКАЖЫ МНЕ, МАМА...

*Памяці І. Хадановіча*

Ён нарадзіўся вельмі рана.
Ён нарадзіўся на зары.
А на зары — яшчэ туманна
і яшчэ золка на двары.
Ён нарадзіўся вельмі рана,
калі яшчэ зашмат тумана —
тумана фальш і падмана,
зашмат імглы і слепаты,
зашмат усякай свалаты.
Ён нарадзіўся вельмі рана.
З душою — чуйнай, як мембрана,
з душой — адкрытаю, як рана,
ён успрымаў удары зла,
як рана — вастрыё ляза.
Так, ён з яго жывым сумленнем,
з яго высокім уяўленнем,
на многае глядзеў з здзіўленнем.
Ён, як дзіця, пытаўся ў нас:
— Навошта гэта —
асцярожнасць,
няшчырасць,
жорсткасць
і варожасць?
Навошта? Дайце мне адказ!
Навошта? Ну, скажыце прама.
Навошта? Ну, скажы мне, мама.
Мне, мама, многае няўцям.
Навошта? Ну, скажы мне, Рыта...
Скажыце шчыра і адкрыта,—
навошта гэта ўсё людзям?!
Навошта столькі ім туману —
туману фальшы і падману?
Халоднай чэрствасці імгла?
Ці, можа, я радзіўся рана
і ўжо зашмат хачу святла?..
...Яго ўдарылі з тумана,
з імглы ўдарылі, з імжы...
«Навошта, мама, адкажы?»

## МАЯК

Не ведаю я, калі і як
ва мне запаліўся гэты маяк,
але ён гарыць і гарыць ва мне
і свеціць мне ў маім тумане.
Не знаю, калі запаліўся ён.
Напэўна, у дні нягоды.
Ды кліча мяне ён да новых дзён
і абяцае пагоды.
І я на яго іду, як марак
ідзе ў непагоду на маяк.
І будзе гарэць ён ясна,
пакуль я і сам не згасну.

* * *

Паміраюць ад кулі шалёнай,
ад вады, ад жуды, ад бяды.
І яшчэ — ад зялёнай-зялёнай,
ад зялёнай, як раска, нуды.
Паміраюць марудна-марудна.
Паміраюць шмат дзён і начэй.
Паміраюць марудна і трудна,
паміраць нечакана лягчэй.
І я лёс свой прашу:
«Калі ласка,
дай пражыць мне мае гады
без зялёнай-зялёнай, як раска,
без зялёнай смяротэльнай нуды!»

* * *

Трэба вучыцца жыць у дзяцей.
І яшчэ —
у выдатных людзей.
А гэтыя людзі —
вялікія дзеці
у звычайным дарослым свеце...
Словам, вучыцца трэба ў дзяцей.

* * *

Люблю зямлю,
дзе ёсць дзіцячая казка,
дзе ёсць дзяцінства
і ёсць маладосць.
Люблю зямлю,
дзе ёсць жаночая ласка
і дружба ёсць,
і многае іншае ёсць.
Люблю зямлю.
Зямлю і праклінаю —
дзе казкі таюць, як ранішнія дымы,
дзе здрады знаю
і страты знаю,
дзе ўсё праходзіць
і дзе праходзім мы.
Люблю зямлю я
сэрцам сваім натхнёным.
І праклінаю,
і тым жа сэрцам тужу.
Так і жыву —
паміж любоўю й праклёнам,
так і дзялю між імі сваю душу.

## *ЗЯМНАЯ СПРАВА*

* * *

Бачу: мне свята падрыхтавалі.
Прыбралі ўсё,
падрамантавалі.
Шары. Гірлянды.
Медзь blішчыць.
Вясёлая музыка гучыць.
Снуюць распарадчыкі ў народзе:
«Весяліцеся, ды і годзе!»
А мне не хочацца святкаваць.
Мне болей хочацца смуткаваць.
Скрабуць на сэрцы маім кошкі.
Спагады шукаю ў людзей:
«Пачакалі б
са святам трошкі.
Я не магу прыняць удзел».
Але святочна настроены людзі.
Медзь блішчыць.
Карусель імчыць.
Арэлі ўзлятаюць.
Марш гучыць.
Усё патанае
ў святочным гудзе.
Усе святкуюць.
Адзін я змрочны.
І я ўцякаю —
хутчэй, хутчэй!
Ірвуся скрозь натоўп святочны.
Хутчэй, хутчэй — з людскіх вачэй!..
Назаўтра быў я ў гуморы.
Не скрэблі кошкі грудзі мае.

І я, вясёлы і бадзёры,
пайшоў туды,
дзе свята... Але
ужо не было ніякага свята.

Ніхто не йграе.
Ніхто не пяе.
Зняты шары.
Гірлянда знята.
Вісіць абрывак адзін ад яе.
Яшчэ кавалак паперкі змятай
свята ўчарашняе выдае...

* * *

Абрастаем.
Паперамі, рэчамі,
абавязкамі,
звычкамі,
стрэчамі.
Абрастаем болямі, охамі.
Як валун абрастае мохам,
абрастаем мохам абставін.
Абрастаем даўгамі, хвастамі.
Абрастаем, як бераг кустамі.
«Дзе чужое, дзе наша? —
пытаем.—
Дзе расцём, а дзе абрастаем?» —
Мы пытаем.
Гэта няпроста
абрастанне адрозніць ад роста.
На душы маёй —
шчэць густая.
Адчуваю:
ідзе абрастанне.
Адчуваю: ідзе абрастанне.
Ды спыніцъ яго я не ў стане.
А быць можа,
спыніць я ў стане?
Можа, узяць
ды ўзняць паустанне?
Можа, усёю першаасноваю
абудзіцца па-вясноваму?
Жыць пачаць са старонкі новай —
яшчэ чыстай,
яшчэ вясновай?
Толькі як жа мы паўстанем,
калі кожны міг абрастаем,
расстаёмся з самімі сабою —
нехта з боем,
а нехта без бою...

* * *

Прыходзіць вясна,
разліваюцца рэкі.
Выходзяць з берагоў сваіх.
Прыходзяць страсці,
і мы, чалавекі,
бурлім, як разлівы
рэк веснавых.
Мінае вясна,
і вяртаюцца рэкі
ў свае сталыя берагі.
Сціхаюць страсці,
і мы, чалавекі,
глядзім на іх, як на грахі.

* * *

Для меней разумных
разумна было б
быць проста болей цвярозым,
больш тых паважаць,
свой суняўшы апломб,
хто мае большы розум.
Для меней сумленных,
душою глухіх,
было б намнога сумленней
той факт, што сумленне ёсць у другіх,
не ставіць пад сумненне.
І ўсім было б лепей,
каб у свой час
збыліся такія змены:
дурань не вучыць розуму нас,
сумленню — несумленны.

## РАЗМОВА

— Як падарожжа?
Якія ўражанні?
— Я не заўважыў,
мяне не заўважылі.
— Такое ўражанне агульнае?
— Было халодна і няўтульна.
— А што запомнілася асабліва?
— Было няўтульна і сіратліва.
— Згушчаеце фарбы — скажыце шчыра
— Было сіратліва, было сыра.
— Не скажаш, што ўбачылі вы многа.
— Было халодна і адзінока.
— А можа, былі якія сустрэчы?
— Быў дождж асенні,
асенні вечар.
— Дзіўнае нешта вы гаворыце.
— Я быў адзін у чужым мне горадзе.
— І вас у гасцініцы не абагрэлі?
— Былі халодныя батарэі.
— Наконт батарэй вы навыдумлялі.
— Не пачынаўся сезон адяпляльны.
— А-а, тады зразумела...

* * *

З жалем гляджу на дзіця,
маленькае, бездапаможнае,
і хочацца памагчы яму.
Але як? Як яму памагчы,
калі толькі само па сабе
яно можа расці, набірацца сіл.

Са спагадай гляджу на чалавека,
наіўнага, няўмелага, неспрактыкаванага,
і хочацца яму памагчы.
Але як? Як яму памагчы,
калі толькі праз уласны вопыт
ён можа стаць іншым.

З болем гляджу на чалавека,
якога знявечыла, скалечыла жыццё,
і хочацца яму памагчы.
Але як? Як яму памагчы,
калі толькі само жыццё
можа вярнуць яму ранейшы воблік.
Як? Як памагчы чалавеку?
А памагчы яму я павінен.

* * *

Я прачынаўся з такім пачуццём,
з такою няяснай трывогаю,
як быццам не так штось з маім жыццём
ці нешта не так увогуле.
З дому выходзіў я наспех,
тою трывогаю гнаны.
І раптам пачуў я дзіцячы смех,
шчыры і беззаганны.
Мне стала лягчэй у той жа міг.
Потым я ўбачыў дзяцей саміх,
занятых сваёй гульнёю,
вясёлай сваёй гаманою.
Мае неспакойнае пачуццё
нібы зняло рукою.
Я ўсёю істотай адчуў:
                              жыццё
ідзе сваёй чаргою.

* * *

Маўчанне бывае featured рознае.
Адны маўчаць таму,
што вельмі асцярожныя,—
баяцца розных табу.
Маўчанне бывае рознае.
Маўчаць занадта цвярозыя.
Скептыкі маўчаць:
«Ну што карысці крычаць?»
Маўчаць і абыякавыя —
твары масляна-лакавыя.
Што ім да таго,
да болю майго і твайго!
Ёсць маўчуны — аматары
смеласці чужой.
Развесяць свае лакатары:
«Ой, як цікава, ой!»
Маўчанне бывае рознае.
Яшчэ ёсць маўчанне грознае.
Маўчыць чалавек, трывае,
маўчыць, як і побач маўчаць.
І раптам рашуча зрывае
з вуснаў сваіх пячаць.
І раптам сябе ўзрывае:
«Я больш не магу маўчаць!»
І скажа такое адчайнае...
Калі ўжо і маўчаць —
дык я за такое маўчанне.

* * *

«Чалавек маленькага роста,
чаму не рос, па чыёй віне?»
Чалавек адказвае проста:
«Гэта залежыць не ад мяне».
«Чалавек маленькага розума,
мог ты быць разумнейшым ці не
Чалавек гаворыць цвяроза:
«Гэта залежыць не ад мяне».
«Чалавек душы маленькай,
мог ты лепшым быць ці не?»
Чалавек маўклівы нейкі,
не адказвае ён мне.
Мабыць, цяжкае пытанне.
Чалавек маўчыць нездарма.
Хібам нашым ёсць апраўданне,
подласці апраўдання няма.

## ЗЯМНАЯ СПРАВА

Рабілі зямную справу —
звычайную, звычную, даўнюю.
Рабілі рупна і з веданнем,
як робяць з часоў спрадвечных
другія зямныя справы...
Спачатку мылі нябожчыка,
потым пераадзявалі
яго ва ўсё новае,
бо на той свет трэба
з'яўляцца ў новым і чыстым.
Грукалі сякерамі,
трупу рабілі мужчыны.
А ў гэты час жанчыны
варылі клёцкі і кашу —
варылі для памінак.
Адны былі каля печы,
другія ж каля нябожчыка
плакалі-галасілі:
«А на каго пакінуў,
а нашто памёр».
Пад вечар сказаў нехта,
больш за другіх разважлівы,
што пара на могілкі,
бо сонца можа зайсці.
Панеслі ў труне нябожчыка,
панеслі нагамі ўперад
(усе зямныя справы
робяцца ў пэўным парадку),
па везлі за вёску ў лясок.
Магіла была гатова.
Апёршыся на лапаты,
чакалі далакопы,
калі закопваць ім.
Труну апусцілі ў магілу,
па жменьцы зямлі кінулі.
А нехта, больш дасведчаны,
кінуў яшчэ і манет.
Мужчыны сталі закопваць.

Рабілі яны гэта
рупна і дзелавіта,
быццам яны рабілі
звычайную, звычную справу.
Вярталіся ў вёску з могілак
ужо на захадзе сонца.
Вярталіся з адчуваннем,
блізкім да палёгкі,—
яны ж зрабілі як трэба
сваю зямную справу.

* * *

Добра, што сінь
за акном згушчаецца.
Добра, што гасне
гэты прамень.
Добра, што гэты дзень канчаецца —
гэты цяжкі, невыносны дзень.
Ціха. Ніхто ні з кім
не спрачаецца.
Ціха. Ніхто ні з кім
не страчаецца.
Сцішыўся вецер.
Сцішыўся сын.
Добра, што прыцемак
згушчаецца.
Добра, што гэты дзень
канчаецца.
Бо не хапіла б іначай сіл.

* * *

Вось і ты, як другія,
просіш: « Не шумі».
Як быццам твая стыхія —
гэта свет цішыні.
Як быццам (вось недарэчнасць,
жывеш — дык жыві ды шумі!)
уперадзе ў нас не вечнасць
бязлюднай цішыні.

* * *

Ляцеў груган.
Сеў на курган.
Агледзеўся навокал.
Знаёмае штось заўважыў груган
сваім старэчым вокам.
Ці то гэты дуб,
ці то гэта косць,
ці роў той,—
яму нагадалі
яго, груганову, маладосць,
яго, груганові, балі.
Здаецца, вось тут,—
бо той жа роў,
тыя ж валун і дрэва,—
ляжалі трупы,
стаяла кроў,
еш — колькі табе трэба.
Здаецца, вось тут
і быў той баль,
тая салодкая трызна.
Калі то было?
Яму ж амаль
дзвесце, калі не трыста.
Калі насыпаны
гэты курган?
Хто ведае,
хто знае...
Сядзіць груган.
Глядзіць груган.
Сваю маладосць успамінае.

## ЖАДАННІ

**1**

Знайсці б які пакойчык кутні,
І там, забіўшыся ў куток,
аддацца радасці пакутнай —
пісаць: радок! Яшчэ радок!

**2**

Забрацца б на пустынны востраў,
за трыдзевяць зямель і вёрстаў,
узяўшы толькі стопку кніг.
І — начытацца ўволю іх!

**3**

Разуцца б і пайсці сцяжынай —
то травяністай, лугавой,
то гладка ўбітай, палявой —
нагамі ўбітай, не машынай.

**4**

Вярнуцца б зноў у маладосць,
цябе сустрэць, яшчэ чужую,
і жыць пачаць без гэтых вось...
ты ведаеш, пра што кажу я.

**5**

Вось твой лясок.
Вось твой пясок.
Вось твае сосны.
Твая яма.
Пачуць бы яшчэ раз:
«Сынок».
Паклікаць бы яшчэ раз:
«Мама».

## ***ПЕРАХОПЛЕНАЕ ДЫХАННЕ***

* * *

Як дружна мы
вострaў свой абжывалі!..
Навокал шумелі
халодныя хвалі.
І шквалы гулі,
і вылі шакалы,
і стылі на ветры
маўклівыя скалы,
і нейкія птушкі
крычалі нема,
крычалі
і біліся
ў шэрае неба.
А мы абжывалі
свой востраў пустынны.
Мы грэлі адзін аднаго,
калі стылі.
Мы мужнасць адзін у адным шукалі,
калі падыходзілі блізка шакалы.
Адзін аднаго
засланялі аддана,
калі пагражаў парыў урагана...
Калі ж мы, стаміўшыся, засыналі,
нам снілася:
сцішыліся хвалі,
суняліся шквалы,
не выюць шакалы,
не стынуць на ветры
маўклівыя скалы,
і птушкі пяюць,
не крычаць болей нема,
высока ўзлятаюць
у сіняе неба.
Высока, высока...

* * *

Вось-вось растаюць ледзяшы.
Ідзе вясновы дождж пяшчоты —
патрэбны для травы душы
і для лістоты ўсёй істоты.
Як без яго змаглі б мы!
Што ты!
З ім мы і робімся людзьмі...
Ідзе вясновы дождж пяшчоты,
ідзе маёвы дождж любві.

* * *

Было так радасна і хораша!
Ты, як агонь, ахапляла горача.
Было так дзіўна і цікава!
Ты, як вада, мяне абцякала.
Ты, нібы вецер, мяне абвявала.
Ты, нібы вецце, мяне абвівала.
Ты, нібы лісце, шаптала нешта.
Ты, як зямля, стагнала грэшна.
Потым гучала музыка ціхая:
тайну вялікую спасціг я...

* * *

Гудзела, гуло ў маіх вушах.
Гудзела, гуло ва ўсім маім целе.
А з целам была заадно і душа —
суладна яны звінелі, гудзелі.
Як мора ў бераг,
так біўся той гул
ў мае барабанныя перапонкі.
І мроіўся белы, рамонкавы луг:
ад краю да краю бялелі рамонкі.
Гудзела, гуло ў маіх вушах.
Гуло і звінела ва ўсёй істоце.
Гуло на высокай пранізлівай ноце.
І я зразумеў —
о, шчасце! О, жах! —
што значыць той гул,
што значыць той луг.
Я быў улюбёны.
Я быў, як усе мы.
І я, як звяно,
уключаўся ў ланцуг
любові, яе ўсепланетнай сістэмы...

* * *

Як мы жылі, як мы любілі? —
Што той запаветны сучок губілі,
на якім сядзела любоў
і буркатала, накшталт галубоў.
Якія словы зляталі з вуснаў?
Што той сучок аднойчы хруснуў,
і адляцела наша любоў
стайкаю спуджаных галубоў.
Як мы жылі, як мы любілі?
Як мы пра тое зусім забылі,
мы, халодныя ілбы,
што пачуццё — не галубы?
Што голуб вернецца,
ён — хатні,
а дзікую радасць вазьмі злаві!
Што не пустуюць галубятні,
а душы пустуюць без любві...

## МАЯ БЯДА, МАЯ ВІНА
## ДАЖЫНКІ

### Паэма

*Ой, пайду я ў каморачку*
*Ды прылажу галовачку.*
З народнай песні

Жала Аксіння, жыта жала.
Кальнула ў самае сэрца джала.
Стала цёмна-цёмна ў вачах,—
як не цямнее і па начах.
А быў жа дзень.
А ў небе сінім
сонца свяціла.
Так пякло!
Толькі сцямнела ў вачах Аксінні,
нібы глядзела праз цёмнае шкло.
Не ўтрымалі серп яе рукі,
выпаў ён з аслабелых рук.
Села Аксіння, сагнулася ў крук,
села, скорчылася ад мукі.
Суседка ўбачыла, завойкала:
— Аксіння, Аксінка, што з табой?
Жанкі забегалі навокала,
пыталіся наперабой:
— Аксіння, Аксінка, што з табой?
— Ці ёсць вада дзе недалёка?
— Мабыць, ад сонца...
Такая спёка!
— Ды і не тыя ўжо гады.
— Ну як, Аксіння?
Лепей, Аксіння?..—
Аксіння ціха піць папрасіла,
жанчыны ёй падалі вады.
— Трэба ісці, Аксіння, дахаты.
Аксіння паволі ўзняла галаву.
— Дапамажыце ўстаць, дзяўчаты.
Дзяўчаткі, нядоўга я пажыву.

Такога са мной не было ніколі...
— Нічога, Аксіння, яшчэ пажывём!
— Не думала я, што ў сэрца так коле
— Нічога, Аксіння, яшчэ пажнём!
Ідзі, Аксіння, не стой на сонцы.
Ідзі, халодны ручнік прыкладзі.
Ідзі дахаты, Аксіння, ідзі.
А мы яшчэ выжнем па нейкай сотцы..

*

Ішла Аксіння.
                    Ледзьве цягнула
па іржэўніку ногі свае.
Нічога не чула.
                    Ледзьве пачула,
што нехта яе, Аксінню, заве.
Яна аглянулася.
                    На ўзмежку
стаяў учотчык з сваёй кавялой,
з сваёй п'янаватаю ўсмешкай.
Нешта крычаў і трос галавой.
Аксіння прыслухалася старанна.
«Цётка Аксіння, куды ідзеш?
Чаму сарвалася так рана?
Куды ідзеш?
                    Чаму не жнеш?
Можа, спалохалася спёкі?
Сонца прыгрэла — і ты наўцёкі.
Рашыла: лепей я ўцяку.
Рашыла: лепей мне ў цяньку.
Ці, можа, цётка, табе нядобра?
Ногі, гляджу, цягнеш ледзь-ледзь.
Але ж хварэць —
                    на цябе не падобна,
хіба ты можаш захварэць?
А можа, ты — сімулянтка, часам? —
Пытаўся ўчотчык хрыплым басам.—
Яно і нядблага сімульнуць,
калі другія косяць і жнуць.
Ды што мне, хай і сімулянтка.
Можа, у цёткі знойдзецца шклянка?

Я сёння амаль не браў у рот.
Нешта скупы пайшоў народ.
Калі б знайшлася шклянка ў цёткі,
то хай бы цётка ішла дамоў.
Я прыпісаў бы цётцы соткі,
прыпісаў бы, і з плеч далоў.
Мне з кавялою —
што вам з чапялою.

Паставіш, цётка, шклянку ці не?
Закуска свая, нашу пад палою.
Ды ты не слухаеш, бачу, мяне.
Ты чуеш, цётка? —
За шклянку сотка.
За шклянку сотка, а то і дзве.
Ты чуеш, цётка?..»
Не чуе цётка.
Аксіння ледзьве ідзе-брыдзе.
Нічога яна зразумець не можа.
Ідзе-брыдзе, нібы ў тумане.
«Што ён гаворыць?
Божа мой, божа.
Ці ён жартуе, смяецца з мяне?
Што ён гаворыць?
Сотка... шклянка...
Шклянку прасіць калі знайшоў».
І раптам да цёткі Аксінні дайшоў
сэнс гэтага слова —
сімулянтка.
Адчула, як крыўда сэрца пячэ.
«Не верыць, што хворая. Як ён можа?..
І па Аксіннінай шчацэ
сляза пакацілася.
«Божа мой, божа...»

* * *

Ідзе-брыдзе Аксіння далей.
Нарэшце сцежку адчулі ногі.
Стала лягчэй ісці ім трохі —
на сцежцы гладзей і халадней.
А вось і мосцік.
За мосцікам дзічка.
За дзічкаю крайняя хата відна.
«Куды скіравалася, маладзічка?» —
Пачула нечы голас яна.
Чый гэта голас?..
Брыгадзіра.
Ішоў брыгадзір насустрач ёй.
«Што гэта з лепшай маёй жняёй?
Яшчэ толькі трэцяя гадзіна!
Якая муха цябе ўкусіла?
Сыплецца жыта, а ты — дамоў.
Вярніся хутчэй на ніву, Аксіння!
Вярніся, Аксіння, без лішніх размоў!
Вярніся, Аксіння, а то пашкадуеш!
Я не жартую, Аксіння, не!
Ты ж мяне знаеш! Ты мяне чуеш?..»
Аксіння чуе ўсё, як у сне.
«Што ён гаворыць?
Божа мой, божа.
Няўжо ў яго вачэй няма?»
Яна б адказала, ды не можа.
Ні сіл, ні жадання не мае яна.
«Ты чуеш, Аксіння, я не жартую.
Я аштрафую!
Я падрыхтую
дакладную для старшыні!
Лепей, Аксіння, ідзі і жні!
Ты, можа, скажаш,
што захварэла?
Так і паверу табе я.
Ты здаравей за мяне ўдвая.
Якая цябе возьме халера?
Вы — сімулянткі,

вось хто вы, цёткі.
Сумлення, цёткі,
няма ў вас усё-ткі.
Трэба з вамі —
пакарацей,
трэба з вамі —
пакруцей!..»
«Што ён гаворыць?
Божа мой, божа.
Як гэта ён зразумець не можа...»
І зноў па Аксіннінай шчацэ
сляза гаркотная цячэ.

*

Ідзе-брыдзе Аксіння дадому.
Колькі на свеце пражыла —
не несла дадому такую стому,
такую знямогу...
Вось і прыйшла.
«Вось я і дома».
На ганак прысела.
Яе чалавек запрагае каня.
Рупна ўвіхаецца каля
воза, збіраецца ехаць па сена.
Спытаўся, калі каня запрог,
чаму вярнулася так рана.
Яшчэ ж, здаецца, няма і трох.
Яна як быццам не чула Івана.
«Чаму так рана?
Ці ўжо дажалі?
Чаму так рана?
Што з табой?..»
Яна на яго глядзела з жалем,
яна на яго глядзела з журбой.
Яна сказала,
што захварэла,
што ёй так трудна,
нібы ўгарэла,
што ледзь дайшла да свайго двара,
што паміраць прыйшла пара...
Яго рассмяшылі словы Аксінні.

«Кінь ты, Аксіння.
Ідзі паляжы.
Потым схадзі пашукай на мяжы
якой травы, бо галодныя свінні.
Зможаш —
пакорпайся ў агародзе.
Зараз, Аксіння, не час хварэць...»
Нешта яна прашаптала ледзь-ледзь.
Інакш не магла —
так сушыла ў роце.
Ён не пачуў,
што сказала яна.
Не слухаў.
За віламі хуценька збегаў.
Паклаўшы іх,
нукнуў на каня.
Яшчэ раз нукнуў і паехаў.
Калёсы песню сваю запелі,
калёсы жорстка заскрыпелі.
Скрыпелі жорстка і надрыўна.
Яна глядзела неадрыўна,
яна глядзела доўга ўслед.
І было горка,
было крыўдна,
і быў нямілы белы свет.

*

Ідзе-брыдзе Аксіння ў хату.
Здалося, што ў хаце даўно не была.
Вады халоднай папіла.
Знайшла ў хаце роднай спагаду.
Знайшла ў ёй добрую прахалоду.
Яна зжылася з хатай сваёй,
з кожным куточкам, кожнай сцяной,
і у ёй ці, можа, у сабе самой
знайшла спагадлівую лагоду.
Стала Аксінні неяк лягчэй.
Потым яна прылегла на ложак.
Глядзела ўгору.
Ля вачэй
закружылася мноства мошак.

Доўга кружыўся цёмны рой.
І пачала нясмела, дрыготка
падступаць да яе дрымота
з усіх куткоў хаты старой.
І загучала аднекуль з тумана
песня, якую ў добры час
любіла Аксіння і пела не раз,—
песня «Ой, рана на Івана».
Аксіння драмала, засынала.
«Проці Ивана ночка мала.
Ой, рана на Ивана!»
Аксіння чула словы Івана:
«Чаму так рана?
                    Чаму так рана?»
«Ой, рана на Ивана!»
Так і спытаўся:
                    «Чаму так рана?»
А не спытаўся, як мне пагана.
«Ой, рана на Ивана!»
А мне было трудна, як ніколі.
«Начавала ў чыстым полі.
Ой, рана на Ивана!»
Чаму не верыце, скажыце?
«У чыстым полі, у густым жыце.
Ой, рана на Ивана!»
Ой, рана на Ивана!
Ой, рана на Ивана...

*

Калі прачнулася Аксіння,
калі адкрыла вочы яна,—
убачыла ў праёме акна
неба, чыстае і сіняе.
Рой не кружыўся перад вачамі,
і не гучала песня больш.
Стаяла ціша незвычайная.
І пацішэў, здаецца, боль.
Нават думка прыйшла бадзёрая:
«Ці не прыснілася мне ў сне?
Можа, я не такая і хворая?
Можа, праўду казалі мне?»

Нават падумала жанчына,
ці не пайсці ёй і пажаць,
ці не хопіць ёй ляжаць,—
паляжала ж, адпачыла.
І толькі як устала з пасцелі,
як зрабіла крок ці два,—
адчула, якая слабасць у целе,
адчула, як кружыцца галава.
«Не, сёння мне не да жніва,—
думала, седзячы на пасцелі.—
Чаму паверыць не захацелі?
Чаму? Ці сэрца ў іх няма?
Хіба не бачаць, што ў бядзе я?
Ці, можа, вачэй няма ў іх, ці...»
І тут з'явілася надзея —
трэба да доктара ёй пайсці
Ён ёй паверыць.
                    Ён распытае.
Ён ёй параіць.
                    Паможа ёй.
«Вось адпачну і пайду, бадай, я
гаварыла сама з сабой.—
Дзе гэта новая мая хустка?
У шуфлядзе яна ці не?»
Сонца гуляла на сцяне.
«Паспею. Вечар яшчэ не хутка.
Паспею. Далёка яшчэ да вечара
Куды мне толькі лепей пайсці —
да ўрача альбо да фельчара?
Не хадзіла ж амаль у жыцці.
Да ўрача —
                    далёка занадта.
Пешшу туды я не дайду.
Папрасіць каня?
                    Заняты
коні ўсе, як на тую бяду.

Пайду да фельчара ў Замошша.
Да Замошша — рукой падай.
Хваляць фельчара.
                    Ён паможа.

Вось пасяджу і пайду, бадай...»
Пасядзела, ціха ўстала,
ёй як быццам лепей стала.
Хустку новую знайшла.
Завязала хустку чыстую -
каляровую, квяцістую,
і да доктара пайшла.

*

Ідзе Аксіння загароддзем,
загуменнем ідзе-брыдзе.
Як гэта кажуць у народзе? —
бяду пазнаеш па хадзе.
Выйшла Аксіння на дарогу,
у Замошша што вядзе.
Аддыхнула цётка троху
і далей ідзе-брыдзе.
Да Замошша вярсты дзве.
Ішла лугам,
                    логам,
                              полем,
паўз лазовыя кусты.
З паўвярсты прайшла ці болей,
і вярсту, і дзве вярсты.
Калі падыходзіла да Замошша,
павесялела нават яна.
Думка была ў яе адна:
«Доктар добры.
                    Ён паможа.
Ён распытае, пагаворыць,
скажа ёй, якая хворасць...»
Толькі баялася аднаго,—
што не застане раптам яго.
«Хоць бы не быў ён у ад'ездзе,
хоць бы ён быў ужо на месцы.
Хоць бы ён быў...»
                    А вось іі бальніца.
«Цётка, закончыўся прыём.
Доктара выклікалі ў раён.
Цётка, не трэба было пазніцца.
Заўтра прыйдзеш...

Бывай здарова...»
Аксіння сказала штось і пайшла,
і павяла яе дарога
логам, лугам да сяла.
Вяла дарога ва ўспаміны.
Да сына ў горад вялікі вяла.
«Сыночак, ты ў мяне адзіны...»
Вяла дарога да сяла.

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Назаўтра не лепей было Аксінні.
Так і хацелася паляжаць.
Ды цётцы сказалі:
"Трэба жаць".
І цётка пайшла на жніво з усімі.
З гадзіну якую Аксіння пажала,
і стала ёй горача,
як ад пажара,
і стала ёй млосна,
і села яна.
Суседка трывогу ўзняла.
«Жанчынкі! Аксіння памірае!
Зусім беспрытомная ляжыць!
«Аксіння!
Ты ж яшчэ не старая.
Аксіння!
Табе б яшчэ жыць і жыць!»
«Вясёлыя сёлета ў нас дажынкі...»
«Бяжыце ў вёску хутчэй, жанчынкі!
Няўжо ёй нельга памагчы?
Ёсць і лякарствы, і ўрачы...»
Шукалі хамут.
За канём пабеглі.
Знайшлі хамут.
Каня прывялі.
Сіўку хуценька запрэглі.
«Што гэта трэба яшчэ, калі?..»
Нехта параіў заслаць калёсы.
Нехта па коўдру пабег, па траву.

Нехта сказаў ціха, скрозь слёзы,
што трэба падушка пад галаву.
Нехта параіў паведаміць сыну...
Паехалі ў поле па Аксінню.
Быў брыгадзір якраз на жніве,
сказаў, што нічога,
што яна дыхае,
нічога, сказаў,
яшчэ пажыве.
Была Аксіння бязмоўная, ціхая.
Свядомасць вярталася да яе.
Нават устаць сама спрабавала.
Ды толькі моцы было мала,
ды ногі былі як не свае.
Паклалі Аксінню на павозку.
Вязуць Аксінню да дактароў.
Аксіння, рукі твае — як з воску!
Аксіння, дзе твая сіла і кроў?
Маўчыць Аксіння.
Заплюшчыла вочы.
І толькі тады адкрывае іх,
калі на карэннях воз загрукоча,
падскочыць на ўхабінах якіх.
Тады расплюшчыць вочы Аксіння,
бачыць неба над сабой.
Глядзіць Аксіння ў неба сіняе
з сваёю крыўдай і журбой.
«Хіба не казала ім учора я?
Хіба не казала ім усім,
што занядужала,
што хворая?
Хіба не скардзілася ім?»
Яны не паверылі.
Чаму?
Нібы Аксіння калі хлусіла,
нібы казала няпраўду каму,
ці лёгкай працы шукала Аксіння.
На ўхабах уздрыгвалі калёсы.
Глядзела Аксіння ў неба скрозь слёзы.
Глядзела Аксіння ў сіняе неба,
неба ёй спачувала нема.

Не было на душы яе зла,
не было страху і трывогі.
«Немаладая ж я, пажыла.
Дзетак паставіла на ногі».
Калёсы ўздрыгвалі, скрыпелі...
Была на душы яе крыўда адна,
І не давала спакою яна...
Калёсы песню сваю пелі.
Песню сумнага падарожжа.
Сінь над Аксінняю плыла.
Шаптала Аксіння:
«Божа мой, божа»,
Хаця набожнай і не была.

## ЗААЗЕР'Е

**Паэма**

*Памяці маёй заўчасна паімершай маці*
*Александрыны Рыгораўны*

## ПРАДЧУВАННЕ

Было прадчуванне бяды.

Спачатку амаль няўлоўнае,
няўлоўнае і няроўнае.
Шчыміла тады-сяды,
было прадчуванне бяды.

Быў сам. Быў сын. Была ты.
Было прадчуванне бяды.

Было трыццаць тры гады,
было прадчуванне бяды.

Былі вятры, халады,
было прадчуванне бяды.

Плылі па рэках ільды,
было прадчуванне бяды.

Цвілі, адцвіталі сады,
было прадчуванне бяды.

Зязюля лічыла гады,
было прадчуванне бяды.

Было прадчуванне бяды.
Як ты жывеш, матуля?
Чые ты лічыш гады,
шэрая зязюля?

Быў дома гады ў рады,

было прадчуванне бяды.
Было прадчуванне бяды,
было прадчуванне няшчасця.

Недзе, у прасторы і часе,
яна ўжо ішла сюды.

Было прадчуванне бяды,
яе жалезнай пяты.
Было прадчуванне бяды.
Быў блізкі час катастрофы.
Пісаліся тады

гэтыя вось строфы:

## МЫ ЖЫВЁМ, КАБ ВЯРТАЦЦА...

Мы жывём, каб вяртацца
час ад часу туды,
дзе мінула юнацтва,
дзе маленства сляды.
Мы жывём, каб вяртацца.
І лепшага шляху няма.
Мы жывём, каб вітацца:
«Мама! Дзень добры, ма!»
Ну, а раптам напасце,
бяда ў той хаціне старой!
Ну, а раптам няшчасце —
і маці ў зямлі сырой!
Мы жывём, каб вяртацца.
А куды тады вернешся ты?
З кім так будзеш вітацца,
як тады, да бяды?

## ТЭЛЕГРАМА

Спеў бяды горкі ўраджай.
І — прыйшла тэлеграма:
«Прыязджай

просіць мама».
. . . . . . . . . . . . . . ..

**ЗА ЛЕСАМ — ЗА ЛЕССЕ...**

За лесам — Залессе...
«Скажы мне, мама,
а што за Залессем?»
«Не знаю таксама».
За лесам — Залессе.
Там сумна, нявесела.
За лугам — Залужжа.
Далёка дужа.
За мохам — Замошша.
Прайсці няможна.
А ў Заазер'е —
                дарога верная.
«Там музыка грае,
там — вечарынка.
Хадзем, дарагая
Александрынка...»

За лесам — Залессе.
Адтуль дзьме прадвесне.
За лугам — Залужжа.
Адтуль ідзе сцюжа.
Адтуль ідзе сцюжа,
адтуль дзьме сівер.
А сонца ўзыходзіць
над возерам сінім.
З-пад Заазер'я
ўзыходзіла сонца,
свяціла ў матчына
                аконца.
Гуляла, іскрылася
сонца над возерам.
Маці глядзела
светлым позіркам...
За возерам сінім —
Заазер'е.
Помню вечар адзін,

як цяпер, я.
Маці, пакінуўшы
свае грады,
прысела стомлена
каля хаты.
Рукі паклала
на калені.
Глядзіць за возера
ў задуменні.
Туман над возерам
плавае шэры.
Матчына думка
ў Заазер'і.
Над возерам зорка,
як спелае зерне.
Маці глядзіць
у Заазер'е.
Ці то ўспамінае,
ці то прадчувае,
ці проста стамілася
і спачывае.

**ДРУГАЯ ТЭЛЕГРАМА**

Выспеў бяды горкі ўраджай.
Стукнулі ў дзверы.
Ідзі страчай.
— Вам тэлеграма...
«Памерла мама».

**УСПАМІН**

За лесам — Залессе...
«Скажы мне, мама,
а што за Залессем?»
«Не знаю таксама».
Яна не знала —
                    які ён, свет.
Такі, як у яе аконцы,

або вялікі, або бясконцы...
Яна не знала кніг і газет.
Яна не знала вялікіх дарог.
Хаця і выхадзіла нямала.
Толькі раз у жыцці пакідала
вёску родную, родны парог.
Гэта было, калі яна
аднойчы прыехала ў госці...
...Дзень, другі яна пабыла.
Засумавала, бачу, штосьці.
«Мама, добра ў нас ці не?
Мама, ты, можа, нездарова?»
«Бачыла сёння іх у сне.
Як яны там без мяне —
тата, хата і карова?..»
І заплакала яна.
Пакаціліся слёзы-гарошыны.
«Адпусціце, людзі харошыя,
не будзе мне спакою і сна...»
І суцішалі мы яе,
і смяяліся, і ўгаворвалі.
Яна на нас глядзела дакорліва:
«Ды адпусціце ж вы мяне».

## АД ВЁСКІ ДА МОГІЛАК — ПАЎВЯРСТЫ...

Ад вёскі да могілак —
паўвярсты.
Ад вёскі да могілак —
доўгія вёрсты.
Ад вёскі да могілак —
шлях няпросты.
Гарацъ за спіною тваёю масты.
Не вернецца маці.
Не прыйдзеш ты
да маці. Між вамі
чарнее бяздонне.
Астыне роднае ваша гняздоўе...
Ад вёскі да могілак —
з паўвярсты.

Ад вёскі да могілак —
шлях далёкі,
доўгія вёрсты,
трудныя крокі.
Як ты паспееш да цемнаты?
Цябе падганяе звычай стары.
Трэба паспець да захаду сонца.
А шлях гэты цягнецца бясконца.
І ты ўсё ідзеш.
Ад зары да зары.
І ты ўсё глытаеш той горкі камяк,
і ты ўсё глытаеш камяк той саляны,
і ты ўсё ідзеш за тымі санямі.
Днямі ідзеш.
І не дойдзеш ніяк.
Ідзеш і не знаеш, ці дойдзеш ты.
Чапляюцца ногі,
губляюцца крокі.
Ад вёскі да могілак —
шлях далёкі.
Ад вёскі да могілак —
паўвярсты.

**ПАМІНКІ**

Пахавалі Яе.
Памінаем Яе.
Ўспамінаем Яе.
Той адвечны абрад —
чалавечаму гору апора.
Без абраду таго —
як змаглі б
мы пачуцці сабраць свае?
Без абраду таго —
як змаглі б
сваё выказаць гора.
Без абраду таго —
ці сабраліся б
так вось наўрад
амаль вёскай усёю,

вясковай усёю сябрынай...
Дзякуй,
добры абрад,
мой старэйшы,
мудрэйшы мой брат!
Ты сягоння патрэбны
быў мне асабліва.
Пахавалі Яе.
Памінаем Яе.
За сталамі сядзім.
Кашу, клёцкі ядзім.
Чары горкім віном напаўняем.
Ды чамусьці ў вочы
адзін аднаму не глядзім.
Аддаём Ёй належнае.
Добрым словам Яе памінаем.
Памінаем Яе.
За сталамі ідзе гамана.
Памінаем Яе.
Схамянаемся ўсе ад рыдання:
«А яна ж магла жыць.
Маладая была Яна.
У зямельку сырую пайшла яна маладая.
За якія грахі —
у зямельцы сырой ляжыць?
За якія грахі —
яна смерцю такой пакарана?..»
Памінаем Яе.
Ўспамінаем Яе.
А Яна магла б жыць.
А Яна магла б быць,
не памерці так рана.
Памінаем Яе.
А яна магла б жыць,
старшыня,
каб не ведала крыўд і абраз,
каб жыла болей шчасна.
Во Яна была з тых,
хто ў жыцці не кране птушаня.
Бо Яна была з тых,
каго крыўдзяць, як птушку,

часта.
Памінаем Яе.
А Яна магла б жыць,
наш сусед.
А Яна магла б жыць,
дарагія мае сяльчане,
калі б болей прыязным
быў вясковы ваш свет,
каб часцей вы Яе
чалавечай павагай
страчалі.
Памінаем Яе.
А яна магла б жыць,
сват і брат,
калі б мы, дарагая радня,
даражылі Ёй болей,
каб Яе, дарагая сям'я,
мы любілі на добры лад,
так, як любім сябе,—
не было той любові.
Пахавалі Яе.
Памінаем Яе.
А Яна б жыць магла.
Памінаем Яе.
Чары горкім віном напаўняем.
За сцяною — зімовая ноч.
За сцяною — імгла.
І Яна ў той імгле.
За ўпакой Яе п'ем.
Памінаем.

## НАЗАЎТРА РАНІЦАЙ

Ціха карова ў хлеве мычыць.
Ціха карова ў хлеве рыкае.
Мычанне жаласна гучыць.
Гэта яна Яе чакае.
Знае Яе і чакае Яе.
Ёй была доена,
поена,

кормлена.
Голас Яна не падае.
Чуе бяду душа каровіна.
І гэта мычанне, гэты рык —
душы яе, каровінай, крык.
Карова жаласна мычыць.
Яна мычыць.
А хата маўчыць.
Сцены маўчаць.
Цені маўчаць.
Маўчаць куткі ўсе і закуткі.
Маўчаць Яе звязкі, Яе скруткі.
Коўдры і посцілкі маўчаць.
Столь маўчыць,
стол маўчыць.
Маўчаць Яе клункі і пакункі.
Маўчаць Яе даўнія пакупкі.
Вузельчык на цвіку маўчыць.
Падушкі маўчаць.
Катушкі маўчаць.
Маўчыць клубочак Яе нітак.
На кожнай рэчы —
маўчання пячаць,
асірацеласці адбітак.
Рэч маўчыць.
Печ маўчыць.
Печ без яе астывае — стыне.
Вось-вось заенчыць, закрычыць:
«Дзе яна?! Дзе Гаспадыня?!»
Печ маўчыць.
Хата маўчыць.
Яна без Яе — быццам пустыня.
Вось-вось заенчыць, закрычыць:
«Дзе Яна?! Дзе Гаспадыня?!»
Хата маўчыць.
Рэчы маўчаць.
На сценах і рэчах —
маўчання пячаць.
На сценах і рэчах —
адбітак страху,
асірацеласці і краху...

Сцены маўчаць.
                    Рэчы маўчаць.
Яны не могуць закрычаць.

## ВЯСНОЮ

Мама, ідзе вясна.
Ідзе вясна-ясна,
ідзе вясна-святла.
З выраю птушкі вяртаюцца,
птушкі дамоў злятаюцца,
да нашага жытла.
Ранішняй парой
яны прылятуць віць гнёзды
да нашай хаты старой,
да нашай старой бярозы.
Будуць пець, шчабятаць
на дрэвах, бэзе і тыне.
Будуць цябе пытаць:
«Дзе Яна, Гаспадыня?
На досвітку, на зары
з намі Яна прачыналася,
                    праца Яе пачыналася.
Хадзіла Яна па двары.
Мы гнёзды вілі свае.
Яна ля свайго хадзіла.
Дзе Гаспадыня, хаціна?
Чаму не відаць Яе?..»
Мама, ідзе вясна...
Будуць прыходзіць вёсны,
будуць збаўляць ад сна.
Будуць птушкі віць гнёзды.
Мама, вясна ідзе...
Будуць прыходзіць вёсны.
Градкі твае і барозны
будуць чакаць цябе.
Ды ты не прыйдзеш, не.
Хто іх дагледзіць, засее?
Хто вырве пустазелле?
Травой зарастуць па вясне.

Травой парастуць веснавой
градкі твае, твае лешкі,
сляды твае, твае сцежкі,—
густой маладой травой.
Мама, вясна ідзе...

**НЕКРАЛОГ**

Пасля хваробы,
                    цяжкой і працяглай
(шмат дзён
          аднаго прасіла: «Піць»,
адно паўтаралі вусны засмяглыя.
Ледзь-ледзь трымцела
                    жыцця Яе ніць.
Калі памірала, не быў з Ёй я.
Таму яшчэ больш балюча і крыўдна),
памерла Яна, маці мая.
Для вёскі —
          цётка Александрына.
Пасады розныя займала.
На розных пастах была Яна.
Ля печы стаяла, мыла, лён мяла,
сена сушыла, роды прымала,
сеяла, шыла...
                    Хіба гэта мала?
Працавала
з відна да цямна.
Быў вечны той кругаварот.
Па сумяшчальніцтву даглядала
калгаснае поле
                    і свой агарод.
Словам, займала пасад нямала.
Словам, пасада была адна —
працавала
з відна да цямна.
Яе незвычайныя справы і дзеянні?
Такіх на рахунку Яе не было.
Затое можа пацвердзіць сяло:
быў подзвігам

кожны белы дзень Яе
Не мела ўрадавых узнагарод.
Ды што Ёй граматы ганаровыя!
Былі б толькі дзеці Яе здаровыя,
да быў бы ўраджайны год.
Медалі таксама Ёй не давалі.
Ёй не давалі арданы.
Навошта Ёй былі яны.
Абы не было толькі вайны.
Абы пісалі пісьмы сыны
ды сена хапіла да вясны.
Яна і не думала і пра медалі.
Якія выносілі Ёй падзякі?
Не ведаю, як наконт падзяк,
а вось няўдзячнасці ўсякай
яна пабачыла. Гэта так...
Хай будзе лёгкай Табе зямля,
Працаўніца, Гаспадыня,
Маці! Родная маці мая!
Для вёскі —
цётка Александрына.

## МАЯ ВІНА
## З паэмы «Даруйце!»

*І буду прасіць даравання, як просяць дзеці.*

Л. Талстой

*

Даруйце, даруйце!..
Даруйце, ахвяры!
Па небе маім плывуць,
нібы хмары,
маўклівыя вашы сілуэты.
Плывуць вашы цені ў другія сусветы.
Дзе вашы целы,
дзе вашы твары?
Плывуць вашы цені...
Ахвяры, ахвяры!
Ахвяры вядомыя м невядомыя.
Ахвяры свядомыя і несвядомыя.
Ахвяры нявінныя, незлічоныя.
Плывуць вашы цені задымлена-чорныя...
А можа, агонь, што спаліў вас,—
свяшчэнны?
А можа, і трэба гарэць нам дашчэнту?
А можа, і трэба жыць нам ахвярна?
А. можа, усё гэта і не марна?
А можа, у гэтым гарэнні-мучэнні
наша вышэйшае прызначэнне?
Ахвяры, плывуць вашы цені,
як хмары.
Ніяк не разгледжу вашыя твары.
Даруйце, даруйце!

*

Даруйце, даруйце!..
З віною хаджу,
як з гарою.
Даруйце, героі!
Даруйце, усе змагары і спадзвіжнікі!

Бы ў цяжкі,
быў трудны,
быў горкі
той крыж, які
вы неслі —
сумленныя,
мужныя,
ўпартыя.
Вы кроў пралілі.
Ці варты, ці варты я?!
Ці варты я вашай веры і мары?
Ці варты вялікай вашай ахвяры?
Вы кроў пралілі.
З крыві той
ўзыходзяць гваздзікі.
А побач растуць, як раслі,
быльнёг і дзядоўнік дзікі.
Вы прыклад высокі далі.
Успыхнуў ваш подзвіг.
А колькі яшчэ на зямлі
іх, пошлых і подлых!
Даруйце, даруйце!..

*
Даруйце, даруйце!..
Даруйце, мае дарагія!
Даруй мне,
мой дружа!
Сягоння — другі я.
Сягоння такі я,
якім я хачу сябе бачыць!
Быць можа, змагу
я сябе перайначыць.
І будзе мне боль твой
балесней,
чым боль уласны.
І шчасцем тваім
я больш за цябе буду шчасны.
І будзе ўзаемна ўсё,
і будзе ўсё двухадзіна.
Нібыта ў жыццё

нас маці адна нарадзіла,
дала нам на двух
яна двухадзінае цела,
дала адзін дух.
Такую кашулю надзела,
якая ўжо не бліжэй
да цела майго,
майго духа,
з якою за ўсё даражэй
жыццё майго друга.
Даруй мне!..
даруй мне!..

*

Даруйце, даруйце!..
Я так вінаваты.
Маўчыце вы лепей,
мае адвакаты!
Не трэба тут доказаў вашых разумных.
Сумленне — заўсёды
на лаўцы падсудных.
Само сябе садзіць,
само сябе судзіць.
Тым самым ратуе
яно сваю сутнасць.
Сумленне, што алібі пэўна сцвярджае,
тым самым на гібель сябе асуджае.
Усе мы за ўсіх і за ўсё ў адказе,
і ўсе вінаваты
ва ўсякім разе.
Раскайся, злачынца!
Забойца, раскайся!
Я каюся з вамі —
за вас я ў адказе.
І вы ўсе — суддзя,
пракурор,
адвакаты,—
за ўсё, што здарылася,
вінаваты.
І ты, херувімчык ружаваты,
за усё і ва ўсім вінаваты.

І ты, задаволены абывацель,
за ўсё і ва ўсім вінаваты.
А болей за ўсіх
                    я сам вінаваты.
За ўсе нашы ганьбы,
                              пакуты
                                        і страты.
За ўсё вінаваты!
Даруйце, даруйце!

дай анекдот, хаця б стары.
Не ганарыстасць мяне гняце.
Проста маўчаць ужо няёмка,
калі вакол такая гамонка.
калі такое застолле ідзе.
Урэшце, я знёс бы гэты цяжар,
калі б не манера суседкі,
што справа,
на кожны анекдот ці жарт
пляскаць у ладкі і ўсклікваць: «Брава!»
Божа, ты мне наліў віна,
божа, ты мне насыпаў плова,
дай мне яшчэ і вясёлае слова.
Хаця б таму, што побач яна».
Ага, здаецца, крануўся лёд.
Ага, успомніў!
Вось зараз грымну!
Вось зараз выдам анекдот! —
«Двое пайшлі вудзіць рыбу...»
Як толькі лепей пачаць яго? Як?
Трэба ж выбраць зручны момант.
Ды і язык цяжкі, як молат,
ды і язык нібы намяк.
Язык намяк, і ў горле камяк.
Тут слова не выціснеш ніяк,
не тое, што весяліць кампанію.
Будзе суцэльнае замыканне,
нячленараздзельнае заіканне...
Божа, можа, паможа каньяк!
Не памагае... Маўчу, як статуй.
Божа, ратуй!..

**ГАРА З ГАРОЙ НЕ СХОДЗЯЦЦА...**
**Амаль не жартоўная сучасная песенька**

Спачатку за рукі ўзяліся,
сышліся, абняліся,
дарогай адной пабрылі.
А потым развяліся,
а потым разышліся,
бы ў моры караблі.

Гара з гарой не сходзяцца,
але, калі даводзіцца
стаяць ім побач парой,—
гара з гарой не расходзяцца,
гара з гарой не разводзяцца.
Ды гэта гара з гарой...

Спачатку, калі здружыліся,
кляліся і бажыліся
усё рабіць заадно.
А потым сталі сварыцца,
кім бульба павінна варыцца,
каму выбіваць радно.

Гара з гарой не сходзяцца і г. д.

Спачатку шапталіся міла,
буркаталі мірна,
была пяшчота адна.
А потым грымелі, як трубы,
ці гаварылі скрозь зубы,
груба: «Так... не... на...»

Гара з гарой не сходзяцца і г. д.

Адзін на аднога глядзелі
поглядам, поўным надзеі,
поўным любві і дабра.
А потым глядзелі коса,
а потым глядзелі злосна,

глядзелі з-пад ілба.

Гара з гарой не сходзяцца і г. д.

Былі харошымі, слаўнымі,
былі лепшымі самымі,
найлепшымі былі.
А сталі нехарошымі,
сталі самымі горшымі,—
горш няма на зямлі.

Гара з гарой не сходзяцца і г.д

Што было спачатку?
Было ўсё ў парадку,
пакуль каханне было?
А потым мала-памалу
каханне мінавала,
каханне было ды сплыло?

Гара з гарой не сходзяцца і г

У чым жа тут прычына?
Віноўны ён ці жанчына?
Нялёгка даць адказ.
І гэта — другая тэма,
пра гэта падумаць трэба.
Пра гэта ў наступны раз.

Гара з гарой не сходзяцца,
але, калі даводзіцца
стаяць ім побач парой,—
гара з гарой не расходзяцца,
гара з гарой не разводзяцца.
Ды гэта гара з гарой...

* * *

Давайце ўважліва глянем
адзін аднаму ў твар.
Магчыма, не ўбачымся болей:
выпадак — наш гаспадар.
Калі ж і сустрэнемся, можа,
праз доўгія гады,
такімі мы ўжо не будзем,
іншымі будзем тады.
Давайце ўважліва глянем…

## УСПАМІН БЫЛОГА ВЯСКОЎЦА

У горадзе жыць зручна.
Кран павярнуў — і тут жа
вада ў цябе пад рукой.
А помніцца, як ад студні
нёс ты поўныя суды
вады сцюдзёнай, важкой,
Вада калыхалася ў вёдрах,
і ў Двух тых люстрах водных
успыхвала святло,
плыло ўсё сяло.
Вёдры калыхаліся...
З другога краю сяла
дзяўчына, з якой кахаліся,
насустрач табе ішла.
Ішла па ваду і пела:
«Ой, сохне рута ў саду,
палью я тую руту,
па ваду пайду.
Палью я руту-мяту,
пайду я па ваду.
А як прыйдзе восень,
замуж я пайду...»
Вёдры калыхаліся.
Мы з дзяўчынай усміхаліся.
Можа, таму, што кахаліся,
а можа быць, таму,
што ўсё так адбывалася,
што вада разлівалася,
што ў вёдрах адбівалася
па сонцу аднаму.
Ты смяяўся: «З поўнымі!»
Яна чырванела: «З пустым...»
Чамусьці ўсё тое помнім,
не забываем аб тым.

## ЭЛЕГІЯ ЧАКАННЯ

Яна ўсё не ідзе,
                    яна ўсё спазняецца...
А можа, яна прайшла міма і не заўважыла?
А можа, прыходзіла ў другі час?
А можа, прыходзіла на другое месца?
А можа, мы дрэнна дамовіліся?
А можа?..
Нехта сюды ідзе.
Здаецца, знаёмыя крокі,
здаецца, знаёмая постаць.
Нарэшце яна ўсміхаецца мне
і вось-вось працягне мне рукі,
і я працягну свае...
Не, я зноў памыліўся.
Гэта не яна... не яна... не яна.
Але дзе яна? Што з ёю?
Ці прыйдзе яна наогул
Ці, можа, яе няма зусім?
Можа, я яе выдумаў?
Можа, яна зусім не павінна
прыходзіць сюды,
над гэтае вось дрэва,
пад гэты вось ліхтар,
на гэтае скрыжаванне.
Можа, мне ўсё гэта прыснілася?..
Я гляджу на гадзіннік,
я гляджу на сонца,
я гляджу на зоры,
якія пачалі ўжо высыпаць на небе...
Яна ўсё не ідзе.
Колькі гэта часу?
Колькі хвілін прайшло,
колькі гадзін,
колькі дзён,
колькі год?..
На мае плечы падае снег,
на мае плечы падае пух,
на мае плечы падае пыл,
зямны і касмічны.
Лісце і зоркі падаюць на мае плечы.
Я адчуваю іх цяжар.

Але яшчэ большы цяжар маёй адзіноты.
Дзе ж яна?
Ці яна ўжо тут была?
Ці яна ўжо прыходзіла
і працягвала мне насустрач рукі,
і смяялася,
і гаварыла: «Харошы мой».
І гаварыла: «Кахаю».
Ці, нічога не гаворачы,
проста тулілася да мяне,
клала мне галаву на грудзі.
І я не ведаў, што рабіць —
ад хвалявання, ад нечаканасці, ад шчасця.
Можа, гэта ўжо ўсё было?
Але чаму тады я ўсё чакаю яе?
Чаму я ўсё гляджу на гадзіннік...
Колькі гэта ўжо часу?
Колькі хвілін прайшло,
колькі гадзін,
колькі дзён,
колькі год?..
На мае плечы падае снег,
падае пух,
падае пыл,
падаюць зоры.
На мае скроні. падае сівізна...
Мае згорбленыя, ссутуленыя плечы...
Мая сівізна...
Божа, як я не мог зразумець раней!
Я ж настолькі змяніўся ад свайго чакання
што яна — яна ж усё такая —
прайшла міма мяне
сваёй маладой,
сваёй лёгкай,
сваёй стройнай паходкай
і не пазнала мяне.
Як я не здагадаўся,
як я не зразумеў гэта раней?
Відаць, я так быў заняты
сваім бясконцым чаканнем...

## ВЯСНОВЫ ЗАКОН

Закон адвечны і мудры:
калі сустрэнуць вясну,
жанчыны скінуць футры,
дрэвы накінуць ліству.
Будуць, па тым законе,
жанчыны нас хваляваць,
а дрэвы супакойваць,
думкі навяваць...

## ТОЙ ГОД НЕЗВЫЧАЙНЫ...

Той год незвычайны я не забыў,
той год незвычайны.
Той год ураджайны вельмі быў,
на дзіва ўраджайны.
Шмат снегу было,
шмат сонца было
і ліўняў нямала.
Зімою было — гуло і мяло,
а летам — расло і буяла.
Яблыкі спелі, спеў белы наліў
пад промнямі поўдня.
Той белы наліў я з табою дзяліў.
І плавала поўня...
Той год не забыць мне, той крыгаход,
вясёлы, вясенні.
Той год не забыць мне, той карагод,
святочны, вясельны.
У тым карагодзе кружыліся ўсе,
як дружныя дзеці,—
і зоры, і росы, і сонца ў расе,
і вецер, і квецень...
Ці, можа, той год прысніўся ў сне
мне на дасвецці?

## ПАРАДА ЮНЫМ ЗАКАХАНЫМ

Вы самыя шчодрыя з людзей.
Вашая шчодрасць не знае меры.
Да скарбаў сваіх, як чарадзей,
вы расчыняеце насцеж дзверы.
І безаглядна — куды шчадрэй! —
адзін аднаго асыпаеце скарбамі —•
ласкамі, марамі светлазарнымі,
клятвамі і гэтак далей.
Як шчодрымі вам не быць, калі
няма багаццю вашаму меры,
калі вы багатыя, як каралі
ці, лепей, як мультымільянеры.
Ды што там мільёны ці мільярды,
калі вам, як лепшы самацвет,
ззяе ўвесь свет,
                    увесь сусвет,
калі вам належаць зор мірыяды,
Святлеюць сузор'і ўгары,
палаюць зоркі на небаглядзе,
звісаюць нізка, як яблыкі ў садзе,—
толькі бяры іх і дары!
І я вам кажу:
                    у добры час!
Бярыце, дарыце сваё багацце!
Нічым не хачу азмрочваць вас.
Толькі. параду адну хачу даць я:
пакіньце што-небудзь пра запас,
скарбы свае да канца не трацьце.
Я не кажу: на чорны дзень.
Я не кажу: на час няшчасны.
Хай вас міне няшчасця цень,
гэтак жа, як і разлік мяшчанскі.
Ёсць дні, калі канчаецца штось,
калі канчаецца зорны дождж,
а пачынаецца шэры, не зорны,
не залаты, не ілюзорны.
Вось тут і спатрэбіцца якраз
той вашай шчодрасці запас,

гатоўнасці той варочаць горы,
дарыць адзін аднаму зоры.
А зрэшты, што толку з карысных парад,
якія заўсёды чамусь неўпапад!
Ешце з голаду,
                        кахайце змоладу,
іначай вы —
            ні к сялу ні к гораду.
Кахайце, ляціце да сонца ікарамі,
адзін аднаго асыпайце скарбамі,
асыпайце самацветамі —
ласкамі,
            клятвамі,
                        марамі светлымі!
Пакуль кахаецца — кахай!
А там што будзе — і будзе няхай!

## СВЯТА

Яго абвяшчалі не фанфары —
гучалі прызнання нашага чары.

Святло выпраменьвалі не гірлянды
свяціліся ярка нашы пагляды.

Не медзь выбівала гулкія маршы —
кроў біла ў грудзі і скроні нашы.

Не флагі ўспыхвалі агніста —
было жывое наша адзінства.

Спраўлялі лепшае свята зямное
нас двое...

* * *

Што казалася, што адбывалася?
Былі словы — як шолах травы:
«Я баялася... Я баялася,
што паедзеце раптам вы».
«Я баялася...»
                    Была боязь.
«Я баялася...»
                    Быў страх.
Толькі ўсё ж адыходзіў поезд
і імчаўся на ўсіх парах.
Усё бегла, усё зрывалася —
дрэвы,
          хаты,
                    слупы,
                              ірвы...
«Я баялася... Я баялася,
што паедзеце раптам вы».
Мне насустрач усё бегла,
бег насустрач цэлы свет.
А між намі расла адлегласць,
толькі беглі словы ўслед:
«Я баялася... Я баялася,
што паедзеце раптам вы».
...Мне сягоння доўга не спалася,
аж да ранішняй сінявы.
Пачуццё не знала спачынку.
І ўявілася раптам мне ты
той маленькаю дзяўчынкай,
што баіцца цемнаты.
І мне стала відавочнаю
сувязь між дзіцячаю той
першай бояззю прад цемнатой
і трывогай тваёй дзявочаю.
Плачуць душы нашы, як каня,
з дня ў дзень і з году ў год,
прагнуць душы святла спатканняў
і баяцца імглы адзінот...
Ты мне светла ўяўлялася:
«Я баялася...»

## ПЛАЧ ПА НЕРАСТРАЧАНАЙ ПЯШЧОЦЕ

**Плача жанчына**

Плачу я...
Мне б са сваёй пяшчотай,
мне б са сваёй пяшчотнай істотай
пець і звінець сярэбранай нотай,
гуллівай, шчаслівай быць,
шчаслівым другога рабіць.

Ды я вось не радуюся, я плачу.
Што я са сваім багаццем значу,
калі я нашу яго, а не трачу,
калі я дарэмна нашу
пяшчоту — сваю душу.

Колькі ўва мне яе — гэтай пяшчоты!
Як у вясновым садзе лістоты.
Я ёю поўна, як мёдам соты.
Мінае за годам год,
гарчэе дарэмна мёд.

Плачу я...
Толькі не чую адказу.
Маўчанне тут горай за абразу.
Сказалі б ужо, адказалі б адразу,
можа б, лягчэй было,
можа б, не так гняло.

Можа, на ўсё глядзела б іначай я,
каб я не ведала і не бачыла,
як нам патрэбна пяшчота гарачая,
як тужаць вакол па ёй —
жончынай, сястрыной...
О, мая бедная пяшчота!
Не радасць мая — мая бядота,
не слодыч мая — мая гаркота.
Што мне з табою рабіць,
як мне з табою быць?

* * *

Я жыў высока на гары.
Было высокім неба поўдня.
Была высокай ноччу поўня.
Высокім быў — як свет, стары —
спеў петушыны на зары.
І быў высокім горны вецер...
І снілася мне на дасвецці,
што я ўзлятаю, нібы пух.
Вучыўся зноў лятаць мой дух.
Зноў чуў я покліч вышыні,
прасторы кліч...
                І, як над дахамі,
лятаў над крыўдамі і страхамі,
над дробязямі мітусні.
Было высокім сонца поўдня.
Было ў пакоі ззянне промня.
І бачыў у яго святле
я Вашы пісьмы на стале...
Лятаў мой дух, як птах вясенні,
быў вольны,
                радасны,
                        жывы.
І ў гэтым светлым узнясенні
былі са мною побач Вы.

* * *

Была ўзрушанасць парыва,
была даверлівасць цяпла...
Любві магчымасць апаліла,
магчымасць шчасця апякла.
Гарэў, як пацалунак лесу,
на нашых вуснах той апёк,
калі мы засыналі позна
і гас лясны наш аганёк.
Сны наплывалі, нібы хвалі,
за хваляй хваля —
сон за сном.
Мы ў сне, шчаслівыя, ляталі...
Ды дзень стаіўся за акном.
І потым стукаў асцярожна,
сінеў цвяроза ў акне.
Мы абуджаліся трывожна:
«Наяве ўсё было ці ў сне?»
Глядзелі сумнымі вачыма
у неасветлены куток,
і ўспаміналася нам радок:
«А шчасце так было магчыма».

* * *

Тут адна спагада
толькі б дарэчы была...
Любая, гэта — не здрада,
любая, гэта — бяда.

Здрада інакшай бывае —
тады бывае разлік,
тады душа забывае,
тады хітруе язык.

У здрадзе ёсць злая воля,
злая наўмыснасць ёсць.
А гэта — як лес, як доля,
як няпрошаны госць.

Прыходзіць і бурыць парадак.
І ў сэрцы тваім пустата...
Любая, гэта — не здрада,
любая, гэта — бяда.

* * *

Пакуль не было цябе,
мая думка —
                    дзікая птушка —
кідалася непрыкаяна,
не ведала, куды ляцець,
у які бок свету падацца.
А цяпер яна ведае свой шлях,
ведае сваё месца.
Яна ўсё ляціць і ляціць да цябе,
як ляцяць птушкі ў вырай,
і мірна дзяўбе свае салодкія зярняты
з тваёй мяккай, цёплай далонькі.
Пакуль не было цябе,
маё пачуццё —
                    дурненькае цялё —
хадзіла непрыкаяна па выгане,
не ведаючы свайго месца,
не ведаючы сваёй травы.
А цяпер яно ўсё ходзіць вакол цябе,
як ходзіць на прывязі цяля,
і спакойна шчыпле сваю салодкую травіцу
з твайго шчодрага, сакавітага лугу.
Дзякуй табе!

* * *

Мужчына. Жанчына. Чаканне.
Шуканне. Блуканне. Час.
Жанчына. Мужчына. Спатканне
Вітанне. Пытанне. Адказ.
Мужчына. Жанчына. Дыханне.
Сэрцабіццё. Забыццё.
Жанчына. Мужчына. Каханне.
Мужчына. Жанчына. Жыццё.

* * *

Ты кажаш, хлопчык, што ў цябе
такое адчуванне, бы навокал
адна пустыня, мёртвая пустыня?
Цярпення набярыся, сцісні зубы
і пастарайся позірку вярнуць
ранейшыя зямныя фарбы.
І ты ўбачыш, як праз нейкі час
аазіс вырасце ў тваёй пустыні,
зазелянее сцежка, і на ёй
жанчына раптам з'явіцца другая..
І ты ўбачыш потым, што яна
не горшая зусім за тую,
здавалася якая самай лепшай,
якая, хочучы таго ці не,
ператварыла сад твой у пустыню..

* * *

А ты ідзі, брат, чынна,—
так. раіў мудры грэк,—
а ты ідзі як мужчына,
ідзі як чалавек.
Справа будзе вораг,
злева будуць сябры,—
а ты ідзі, бо дораг
табе твой шлях зямны.
Будуць пагрозы, парады,—
не вельмі напружвай слых.
Будуць знаходкі і страты,—
спыняйся толькі на міг.
Бо ўсё гэта не прычына,
каб дальніх не бачыць вех…
І ты ідзі як мужчына,
ідзі як чалавек.

* * *

Сёння было мне горка.
Сёння бачыў я,
як згарала зорка.
Я падумаў: чыя?

Ззяла на зорным небе
яна шмат лет і зім,
і ўсім было з ёй лепей,
святлей было ўсім.

І сёння было мне горка,
калі ўбачыў я,
што згарэла зорка.
І я не думаў: чыя?

## ПОЕЗД СПРАВЯДЛІВАСЦІ

Поезд справядлівасці
часта спазняецца.
Ці таму, што дзесьці
падоўгу спыняецца?
Ці яго стрымоўваюць
ветры і ліўні?
Ці ён проста ходзіць
па няўдалай лініі?
Ці, можа, чакае
недзе поезд стрэчны?
Ці тут вінаваты
ўсё той жа стрэлачнік?
Спіць сабе, марудзіць,
калі куля мігам
знішчае Лумумбу,
суд вяршыць над Кінгам.
А можа, другія якія прычыны?
Поезд справядлівасці!
Што робіцца ў Чылі?
Поезд, дзе ты, поезд?
Хіба пакараны
забойцы Альендэ,
каты Карвалана?
Ён такі ўжо, поезд.
Паўзе чарапахаю.
Як цягнуўся колісь
поезд Чарапанавых.
І, вядома, спозніцца
пры такім вось ходзе —
то на паўмінуты,
то на паўстагоддзе...
Я стаю на станцыі,
я білет трымаю.
Семафор зялёны насцеж адкрываю.
Я з тых пасажыраў,
хто ў асаблівасці
чакае той поезд,
поезд справядлівасці.

Хто ім проста трызніць,
для каго ён — шчасце.
Хто сябе гатовы
шпалаю пакласці
пад поезд жаданы —
абы толькі йшоў ён,
абы явай быў ён,
не марай дзяшовай...
Шаноўны дзяжурны!
Дарагі дыспетчар!
Зрабіце, каб поезд
рухаўся бяспечна.
Вы агледзьце рэйкі,
вы падсыпце гравійку.
Поезд справядлівасці
хай ідзе па графіку!

## ТРЫ ПРЫТЧЫ

### 1. ДУРМАН

Яго не можаш не заўважыць ты —
разросся пышна ён на ўскрайку вёскі:
шырокія зялёныя лісты
і белыя духмяныя пялёсткі.
Але ніхто яго і не кране.
Не ляжа ў стозе з сенам ён мурожным,
не стане ён букетам на акне —
над восень звяне ў пыле прыдарожным.
Не сок жывы ў яго, а горкі яд.
І гэта не схаваць нічым дурману,
ні лісцем, што прывабіць і пагляд,
ні кветкаю, вялікай і духмянай.

### 2. АРОЛ ГАЛОДНЫ І СЫТЫ

Пакінуўшы гняздо і дол,
узмыў з усёй бязмежнай сілы
арол, і там, у сіняй сіні,
лятаў,
          лунаў,
                    гуляў арол.
І сам ён быў, як тая высь,
як тая даль, як тыя хмары,—
пакуль не выгледзеў сваёй ахвяры
і каменем не кінуўся ўніз.
Ён тут, унізе, голад наталяў.
Ён потым крылы звешваў у дрымоце.
Як быццам і не быў ён у палёце,
як быццам і не ён лунаў, гуляў…
Арол быў сыты, і цяпер быў ён
падобны нечым на варон.

## 3. МЫ, МЁД І ПЧАЛА

А потым гаспадыня да стала,
да чаю мёд нам падала.
І усе, адчуўшы пах мядовы,
хваліць той мёд былі гатовы.
Калі ж адчулі яго смак —
хвалілі мёд і так, і сяк.
Хвалілі гаспадыню чынна,
што наставала нас гасцінна,
а ўслед за ёй — гаспадара.
Хвалілі потым пчаляра.
Хвалілі луг, хвалілі кветкі,
што мёд даюць на дзіва рэдкі.
Усім тут аддалі хвалу.
Забылі толькі пра... пчалу.

## ТАЧЫЛЬШЧЫК НАЖОЎ

Бывала, па вуліцы ён ідзе.
Ідзе ён і песню сваю вядзе,
ідзе ён і крычыць:
 «Каму тачыць, каму тачыць,
 каму нажы тачыць!..»
Госць ён патрэбны, не скажы,
у кожнага ёсць тупыя нажы,
адзін за другога тупей,
трэба вастрыць хутчэй.

Круціць тачыльшчык камень нагой,
мерна прытопвае другой:
 «Камень кручу, кручу, кручу,
 нажы тачу, тачу, тачу!
 Нажы тачу!.. Ты, хлопчык, не стой.
 Ты з якой хаты, з гэтай ці з той?
 Да маці хутчэй бяжы,
 скажы, што тачу нажы...
 Каму тачыць, каму тачыць,
 каму тачыць нажы!»

Бывала... Ды гэта было даўно.
Ды нешта тачыльшчыка не відно.
Пайшоў ён і больш не прыйшоў,
знік ён, тачыльшчык нажоў.

Тады, калі быў ён апошні раз,
нешта ён сумна глядзеў на нас.
І вось ён знік і маўчыць...
 «Каму тачыць, каму тачыць,
 каму нажы тачыць!»
Глядзяць гаспадыні ў акно.
Нешта тачыльшчыка не відно.
Дзе ты, тачыльшчык нажоў?
Чаму ты больш не прыйшоў?

Глядзяць гаспадыні ў акно.
Нешта тачыльшчыка не чутно,
нешта ён не крычыць:
«Каму тачыць, каму тачыць,
каму нажы тачыць!..»

## ШАРАЯ ГАДЗІНА

Шарая гадзіна.
Вечара адзнака.
Шарая гадзіна.
Ні воўк, ні сабака.
Ні сонца, ні месяц.
Ні дзень і ні вечар.
Ні цёмна, ні светла.
Ні ціша, ні вецер.
Ні суша, ні мора.
Ні плывём, ні едзем.
Ні радасць, ні гора.
На якім мы свеце?
Пагасаюць фарбы.
Патанаюць гукі.
Адпачніце, сэрцы!
Адпачніце, рукі!
Сціраюцца грані.
Знікаюць кантрасты.
Гаіцеся, раны!
Заціхайце, страсці!..
Давай ціха, моўчкі
з табой пасядзім мы.
Я люблю чамусьці
шарую гадзіну...

## ДА ГЕРОЯЎ

А зараз не месца іроніі,
а зараз іронію ўбок!
Я гавару з героям!,
і ў горле горкі клубок.
Матросавы і Гастэлы,
скажыце, з сваёй вышыні,
як вы смерць сустрэлі?
Як вы на подзвіг ішлі?

У нас тут розныя версіі.
Гаворыць з іх адна:
ішлі на смерць вы весела,
маўляў, вайна дык вайна.
Ішлі гулліва і слепа,
як на пляц, як на пляж.
Маўляў, быў просты, як рэпа,
быў лёгкі подзвіг ваш.

Я ж уяўляю іначай
вас у тым баі...
Там быў парыў гарачы,
адчай і боль былі.
Прад вашымі вачыма
паўстала ўся айчына,
знявечаная вайной,
залітая крывёй.

Паўстала блізка, блізка.
Успыхнула ў сэрцы любоў...
І тут жа ворагаў — выскал,
узброеных да зубоў.
Любоў і нянавісць зліліся,
і жыць немагчыма было.
І вы на ўвесь рост узняліся —
ішлі на жарало.

Сціснуўшы моўчкі зубы,—
толькі б застацца людзьмі! —

варожыя амбразуры
закрывалі грудзьмі.
І гэта быў як выдых
вашай гарачай любві.
Гэта быў як выбух
разгневанай крыві.
Гэта было гарэнне —
дашчэнту і датла.
Гэта было празарэнне,
была перамога святла.

## *Песні з п'есы-казкі*
## ***«СКАЖЫ СВАЁ ІМЯ, САЛДАТ»***

### БЫЛО ІМЯ Ў САЛДАТА

Радзіўся салдат, як ты і я,
як іншыя ўсе дзеці.
Маці салдату дала імя —
самае лепшае ў свеце.

Калі салдат быў хлапчуком —
было імя ў салдата.
Калі салдат быў юнаком —
было імя ў салдата.

Кахаў салдат дзяўчыну адну —
было імя ў салдата.
Калі салдат ішоў на вайну —
было імя ў салдата.

Аддаў салдат вайне ўсё,
што мелася ў салдата, —
аддаў імя, аддаў жыццё...
Такі ўжо лёс салдата.

Няма ў салдата больш імя
з часіны той ваеннай.
Маем імёны ты і я,
а ён, салдат, безыменны.

Аддаў салдат усё вайне
і не прыйшоў дадому.
Ведаюць нас — цябе, мяне,
а ён, салдат,— Невядомы,

## ДВА ПОЛІ

Было ў салдата два полі,
поле, дзе кветкі ірваў,
бегаў з сябрамі на волі,
і поле, дзе ён ваяваў.

Ціха было і чыста
ў полі яго дзяцінства,
былі агонь і дым
на пол і ратным тым.

Два полі было ў салдата.
Адно зелянела травой,
другое было ўзарата
вайной і паліта крывёй.

Было ў салдата два полі,
поле, дзе кветкі ірваў,
бегаў з сябрамі на волі,
і поле, дзе ён паміраў.

## ДЗЕНЬ ТОЙ НАДЫДЗЕ

Дзень той надыдзе, як свята,
дзень той надыдзе, як свята,
дзень той надыдзе, як свята,
і стане святлей ад яго.

І нехта палюбіць салдата,
і нехта палюбіць салдата,
і нехта палюбіць салдата,
як брата, як бацьку свайго.

Як брата, і нават болей,
як бацьку, і нават болей,
як бацьку, і нават болей.
Любоў запануе тут.

Імем вялікай любові,
імем вялікай любові,
імем вялікай любові
адбудзецца рантам цуд!

І хоць той салдат з метала,
і хоць той салдат з метала,
і хоць той салдат з метала,
халоднага як зіма,
ды сыдзе ён з п'едэстала,
ды сыдзе ён з п'едэстала,
ды сыдзе ён з п'едэстала
і скажа сваё імя.

## БАЛГАРЫІ

Балгарыя!.. Мацнее сэрца ўдар.
Гляджу я ў твае вочы карыя,
гляджу я на засмужаны твой твар...
Любоўю сэрца поўніцца, Балгарыя!

Друг і другар...
                    Калі ёсць друг, які
вялікаю адлегласцю аддзелены,—
вялікаю надзеяй абнадзеены
ты на ўсе годы і на ўсе вякі.

Шыпшына й шыпка...
                    Усё той жа цвет,
калючая, з шыпамі, тая ж ружа,
што на дарогах пацвярджала дружна
агульнасць нашых радасцей і бед.

Зямля і земя...
                    Корань тут адзін.
Карэнні ўсё тыя ж, тыя ж сокі.
Хоць сцелецца тут гладзь раўнін,
а там узносіцца хрыбет высокі.
Балгарыя!.. Мацнее сэрца ўдар.
Друг і другар...

## ДРАЎГІСТЭ

*«Драўгістэ» — назва новай гасцініцы ў Вільнюсе, якая знаходзіцца побач з лесапаркам.*

Дом твой — твае турботы.
Ды ўцякаючы з дому,
уцякаючы ад турбот сваіх,
ты ведаў, што дома памагаюць і сцены.
Ты ведаў, што на ўвагу чужых сцен,
на дружбу і блізкасць з імі
разлічваць асабліва не прыходзіцца.
Ты ведаў з уласнага вопыту,
як раўнадушна пазіраюць яны часам,
як ганарацца моўчкі сваім адчужэннем.
Ты ведаў гэтую розніцу
паміж сваімі г чужымі сценамі...
Але на гэты раз усё было інакш.
На гэты раз я рабіў вельмі важнае,
вельмі радаснае для сябе адкрыццё.
Я нечакана адкрываў для сябе,
што чужыя сцены таксама могуць набліжацца,
страціўшы ўласцівую ім манеру
пазіраць на цябе абыякава і маўкліва,
што чужыя сцены могуць стаць раптам сваімі.
Гэта адбылося так.
Гэта адбылося раніцой.
Гэта адбылося ў той момант,
калі я выглянуў, прачнуўшыся, у акно
і ўбачыў узыходзячае сонца,
і ўбачыў, як яно палае,
як яно гуляе ў вокнах дамоў,
і ўбачыў дамы, новыя і светлыя,
як само ранішняе сонца,
і ўбачыў аблітыя сонцам сосны,
новыя і светлыя, зноў-такі
як само ранішняе сонца.
Убачыў асветлены свет у акне.

І ўбачыў тое ж святло па гэты бок акна.
Тое святло было на сценах майго пакоя.
Тым святлом напаўняўся ўвесь мой пакой.
Тым святлом напаўнялася мая душа.
Тым святлом напаўняўся ўвесь я
і рабіўся такім жа новым і светлым,
як само ранішняе сонца.
І ўжо не было мяжы
між тым светам і тым святлом,
што па той бок акна,
і тым светам і тым святлом,
што па гэты бок акна,
светам і святлом маёй душы.
І ў душы маёй загучала музыка,
загучалі ў душы маёй забытыя вершы.
Загучалі «Вясновыя радасці» Данелайціса.
Загучалі радкі Саламеі Нерыс,
якія яна пісала,
гледзячы на карціны Чурлёніса,
і з'яўленне якіх
так відавочна мне цяпер тлумачылася...
«А ўсё ж скажы мне — што тут свеціць?
Скажы, чаму так светла тут?..
І звоны клічуць зноў і зноў —
любоў і радасць, радасць і любоў.
О брат зямлі, будзь радасны і юны!»
Я як ніколі лёгка адгукнуўся
на той вясновы, той прызыўны звон.
Я, брат зямлі, быў радасны і юны...
Я глядзеў у акно.
Я глядзеў па гэты бок акна,
глядзеў на светлыя сцены,
якія раптам сталі сваімі.
І мне патрэбна было слова,
якое змагло б хоць у нейкай меры
выказаць мой стан,
назваць тое святло,
якое так шчодра напоўніла ўсю прастору,
якое так цудадзейна зблізіла сцены,
свае і чужыя.
І я ўхапіўся за першае слова,

за назву гасцініцы — «Драўгістэ».
І я шаптаў, я паўтараў яго,
як паўтараюць каханае імя.
як паўтараюць магічнае слова,
як паўтараюць запаветнае заклінанне...
Потым ужо я спытаўся,
што гэта слова значыць.
Мне адказалі: «Дружба».
І я ўзрадаваўся, як дзіця,
яшчэ аднаму свайму адкрыццю
і з радасцю падумаў,
што карціна Чурлёніса і верш Саламеі Нерыс
так і называюцца ў арыгінале — «Драўгістэ».
Драўгістэ... Дружба... Светлае адзінства
вясны, надзей і нас, людзей...
«А ўсё ж скажы мне — што тут свеціць?..»
«Любоў і радасць, радасць і любоў».

## ЧАС ПЕРШЫХ ЗОРАК

*Мы развіталіся, пайшлі,*
*Нас на двары сустрэў адвячорак —*
*час самай першай цішыні,*
*час самых першых агнёў і зорак.*

*Узыдуць зоры над лёсам маім*
*чалавечым...*
*З'яўленне зор і сонца ў вышыні.*
З ранейшых вершаў

Вось-вось надыдзе адвячорак...
Не прапусці на гэты раз
час самых першых, самых першых зорак —
час таямнічы, урачысты час.

Вось-вось пачнуць тумаліцца ўзгоркі,
Не прапусці зноў той пары,
калі з апошнім водсветам зары
сальецца водбліск першай зоркі.

Глядзі, яна ўжо тут як тут!
Яна глядзіць ужо нясмела,
яна мігціць ужо няўмела.
Адбыўся ў свеце зорны цуд...

## 1

### ЗАКОН ШЧОДРАСЦІ

Не ведаю, колькі патрэбна вучонасці
для шчасця, для дружбы, для любві.
Ды паспрабуй усё гэта ўяві
без шчодрасці!
Нічога не выйдзе ў цябе, бадай.
Добрыя нашы ўсе парыванні,
як кветкі, хочуць, каб іх палівалі,
як поле, хочуць: расці ўраджай!
Тут, як на сяўбе парой вясновай,
дзе поўнаю мерай сей і рабіі
У шчасця, у дружбы, у любві —
тая ж аснова.

* * *

Любоў адкрывае скарбы,
абсягі новых зямель.
Варожасць кідае на скалы,
нянавісць садзіць на мель.
Любоў і лад узвышаюць,
вядуць за далягляд.
Варожасць і злосць прыніжаюць,
адкідваюць назад...

## ТАЛАКА

*Я меў магчымасць назіраць, як будаваўся новы Дом літаратара. Ты нават не ўяўляеш сабе, колькі людзей — розных прафесій і спецыяльнасцей, рознага ўзросту і грамадскага становішча — займалася будоўляй!..*

З прыватнага пісьма

Дом будавалі талакой…
Дом будаваць — такая праца,
што лепей аднаму не брацца,
адзін не справішся з якой.

Ёсць спраў нямала на зямлі —
і для душы, і для заробку,—
якія робім паасобку.
А тут без грамады ні-ні.

Парой патрэбен нам спакой.
Парой шчыруем саматужна.
А тут узяцца трэба дружна,
узяцца разам, талакой!

Калі дом хочаш будаваць —
забудзь пра гонар, самалюбства
і іншае такое глупства
і талаку пачні ззываць.

І вось, як пальцы ў кулаку,
сыходзімся ў талаку.
Каб сцены сталі навакол —
патрэбна ўзяцца талакой!

І каб страха над галавой —
патрэбна ўзяцца талакой!
І сонца каб па-над страхой —
патрэбна ўзяцца талакой!

І ўсталі — да рукі рука!
І узяліся — да локця локаць!
І камень набывае лёгкасць…
Падмурак… Сцены… Талака!

## АДНА З ПРЫКМЕТ ЗАКАХАНАСЦІ

Гэта прыкмета з прыкмет,
калі ўсё адзіна сведчыць:
табе належыць свет,
табе даравана вечнасць...

## ГЛЕДЗЯЧЫ НА ФОТАЗДЫМАК

Вы бачылі, пэўна, гэтае фота?
На фронт адыходзіць чырвоная рота.
Ідуць, маршыруюць чырвонагвардзейцы...
Хто ў шынялі, хто ў ірванай паддзеўцы,
а іншыя проста паўраздзетыя.
Але ўсе надзеяй вялікай сагрэтыя.
Ідуць у лапцях, у ботах падзёртых,
а колькі размаху ў кроках іх цвёрдых!
Ідуць паўгалодныя, хлеб мерадь асьмушкай,
а вера палае чырвонаю стужкай.
Чырвоная вера, чароўная вера,
што заўтра пачнецца шчаслівая эра!
Ідуць, каб за шчасце голавы скласці...
На фота гляджу я: зайздроснае Шчасце!

## З ПОЛЬСКІХ УРАЖАННЯЎ

О, матка боская — раўніна польская!
Чым едзеш далей, тым сумней і радней!
Плача душа, што не бачыў раней,
што наша спатканне такое позняе.
Варшава... Зялёна Гура... Аполе...
Польшча, у чым тайна лёсу твайго?
Гатовы я плакаць ад таго,
што ўсё гэта, можа, не ўбачу болей.

* * *

Пра месца ў жыцці, як дзеці,
гадаем, думаем, снім.
Месца маё ў свеце —
месца ў сэрцы тваім.

## ПОЗІРК З КОСМАСУ

Шлях да зорак —
шлях скрозь ружы і скрозь церні.
Колькі дзён жывём
сярод касмічнай цемры.
Пачынаеш тут цаніць
усё, што зведана
на зямлі, якая ўтульна так асветлена.
Сонцам, месяцам асветлена зямліца.
І яшчэ адна там ёсць святла крыніца.
Калі лёс табе ўсміхнецца —
табе стрэціцца
тая дзіўная жанчына,
што ўся свеціцца.
Ты ў лятунках
з той жанчынаю вітаешся.
Ты ў думках
да жанчыны той звяртаешся:
«Мала сонца, мала зорак, мала месяца.
Падары святло, якім жанчына свеціцца!
Перад ім любая знікне беспрасветнасць...
Мая яснасць, мая светласць, мая ветласць!»
Тут, у космасе, мы бачым зорак многа.
Не хапае сэрцу тут святла зямнога...

* * *

Ёсць сіла — будзе справа,
ёсць справа — будзе рух
(налева, направа, прама,
уверх, уніз, наўкруг).
Сіла — справа — рух.
Сіла — цела — дух.

* * *

Трагічна-сумная няўвязка:
ёсць ласка, ёсць патрэба ў ёй,
але раздзелены часта сцяной
патрэба гэтая і ласка.

## ВЫКЛЮЧЭННЕ

Самаўдасканальванне —
рэч, вядома, пахвальная.
Вядзі рашучы бой
з натурай сваёй слабой —
з рознымі там заганамі,
са звычкамі паганымі...
са слабасцю любой
вядзі рашучы бой!
Ды ў тым самасталенні
не зблытай з заганай сумленне,
са слабасцю нізкай — боль,
і ведай: з сумленнем змагацца
гэта няўдзячная праца,
гэта разбой, а не бой...

* * *

Не трэба больш старацца.
Гэтай і скончым нотай:
адзін мае рацыю,
другі — адзіноту.

* * *

Ёсць людзі — добрыя сапраўды.
І ёсць, што добрымі прытвараюцца.
І ёсць, што добрымі быць стараюцца
праходзяць школу дабраты.
За ўрокам урок, за крокам крок...
Нялёгка школа гэта даецца.
Але яны далі зарок
і стрымаюць яго, здаецца.
За ўрокам урок, за класам клас...
Падтрымаем іх старанне,
іх упартае парыванне,
пажадаем: «У добры час!»

* * *

Дзвярыма стукнулі напаследак…
Я на гадзіннік глянуў якраз:
не зорны,
    не судны,
        а сумны быў
час паміранне нервовых клетак.

* * *

Калі расстаемся мы з нечым,
нам блізкім і дарагім,
то як бы і не пярэчым,
мірымся з лесам такім.
Ці то гэта ў нас знікае
уменне даражыць?
Ці гэта цана такая
за права па-новаму жыць?

## ТУГА МЕТЭАРЫТА

Адвергла мяне неба.
Зямля не прыняла.
Ляжу на зямлі я нема.
Чужая мне яна.
І я для яе іншародны.
Гляджу ў блакіт мне родны.
Я перад ім у даўгу.
Ды ўжо ўзляцець не магу...

* * *

Любоў нараджае не толькі дзяцей.
Любоў нараджае не толькі надзеі.
Любоў апрача дзяцей і надзей
прыносіць сумненні і падзенні.
Аддаўшы сябе сваёй сяўбе,
свету явіўшы плады залатыя,
самазнішчае яна сябе,
і разам з ёю знішчаюцца тыя,
хто яе носіць...

* * *

Пайшоў паслухаць — пачуў.
Пайшоў паглядзець — убачыў.
Пайшоў спазнаць — спазнаў.
Вяртаўся з верай ва ўдачу...

* * *

Каханне ў дваццаць пяць
моцна абдымаць.

Каханне ў трыццаць пяць
целам усім палаць.

Каханне ў сорак пяць —
кахаць або паміраць!

Якое каханне пазней?
Трэба спытацца ў людзей.

* * *

Не знаходжу сябе ранейшага.
Ківаю спакойна галавой,
кажу разважна: «Усё да лепшага,
усё да лепшага, дружа мой...»
А ты прымаеш як належнае,
а ты падзяляеш мой спакой
і кажаш таксама: «Усё да лепшага,
усё да лепшага, браце мой...»

* * *

Ветразь ёсць — плыві!
Ёсць крылы — ляці да неба!
Шчасце ёсць — жыві!
Дрэнна жыць — ганебна...

## ПЫТАННЕ

А што, маглі б абысціся,
не зважаўшы — разысціся,
ці ўзважыўшы — размінуцца,
і нават не аглянуцца,
і нават жыць прыпяваючы,
жыць, дабро нажываючы?
Маглі б?

## ЖАНОЧАЯ ГОРДАСЦЬ

Ёсць звон ручая, ёсць свежасць рос,
ёсць веліч вяршыні горнай.
І ёсць яшчэ адно з дзівос,
гэта — жаночая гордасць.

Яна — не прыхамаць, не капрыз,
не д'ябальская забава.
Глянуць адчужана зверху ўніз —
святое жаночае права.

Ёсць нешта ў ёй ад гор і зор.
Ды ўсё-ткі зямны яшчэ болей
позірк яе, яе дакор —
аснова зямной любові.

Ёсць ветра бег, ёсць каханне наспех,
смех, грубы ў сваёй прыроднасці...
Самы вялікі мужчынскі наш грэх —
грэх супраць жаночай гордасці.

* * *

Ты кажаш, сяброў усё менш і менш?
Гаворыш аб гэтым, як аб драме?
Ды горшае — гэта сціранне меж
паміж непрыяцелямі і сябрамі.

* * *

Загадка з загадак,
дзіва з дзівос,
ты — не выпадак,
ты — лес.
Загадка з загадак,
дзіва з дзівос...
Пяшчота твая —
як дар нябёс.
І ліцца ёй не ручаём, не словам
святлом вясновым...

* * *

Два шчасці ведае свет.
Адно — ружова-наіўнае,
як першы вясновы цвет.
Другое — сурова-зімняе,
што знаходзіць свой шлях
у муках і баях...

* * *

Хоць на сем пядзей розуму май,
хоць будзь Цыцэронам, Саламонам,
ды, вызначаны прыродным законам,
розум твой знае мяжу і край.
А што датычыць дурноты... На жаль,
дурнота бязмежная амаль.

* * *

Будзе шкада, як шкада бывае,
калі раптам гіне істота жывая.
Будзе шкада, як шкада бывае
птушкі, якую хтось забівае,
дрэва, якое сякера сячэ,
слязы, што сцякае па шчацэ.
Будзе шкада, як шкада бывае
воблака, што ўдалеч сплывае...
Што нарабілі мы з табою!
Шкада да болю...

* * *

Мёртвым паставім абеліскі,
паспачуваем тым, хто ім блізкі, —
мацi, нявесце, удаве,
сірот пагладзім па галаве.
Яны спагадзе нашай рады.
Ды раны ёю не залячыць.
Мы можам страты аблягчыць,
ды застаюцца стратамі страты

## *Вершы-зонгі з лібрэта оперы па матывах аповесці В. БЫКАВА «ВОЎЧАЯ ЗГРАЯ»*

### Я ПЕР АД ВАМІ З ПАМЯЦЦЮ СВАЁЙ...

Я перад вамі з памяццю сваёй.
Аднаму мне бывае цяжка з ёй.
Ідзе яна за мною, след у след,
ідзе за мною многа зім і лет.

Я перад вамі з памяццю сваёй...
Ніколі я ўжо не забуду бой,
дзе ўбачыў блізка смерць упершыню,
дзе сябра я выносіў з-пад агню.

Я перад вамі з памяццю сваёй.
Яна жыве ў лістоце веснавой.
Пачую, як гадзіннік ноччу б'е,—
і мроіцца трывожны кліч яе.

Яна то зоркай ранняй задрыжыць,
то хваляю азёрнай набяжыць.
Убачу, як заход гарыць у агні,
і успомню тыя ночы, тыя дні...

Я вас прашу, не зведаў хто вайны,
прашу вас, мае дочкі і сыны,
узяць хоць долю памяці маёй —
каб потым ёй не зарасці травой.

Мне часам груз яе не па плячы.
Не знаю часам, як ёй памагчы.
Я мушу падзяліцца з вамі ёй.
Я перад вамі з памяццю сваёй...

## ЯШЧЭ НЕВЯДОМА, ХТО БОЛЕЙ ЖЫВЫ..

Яшчэ невядома, хто болей жывы,
а хто яшчэ мёртвы болей,—
хто паў, не схіліўшы галавы,
ці выжыў цаной хто любою,

А зрэшты, вядома, вядома здаўна.
Насмерць хто стаяў за край родны,
хто чашу ахвярную выпіў да дна —
па праву той бессмяротны.

Смерць смерцю адважнай асіліў герой.
Імя яго ззяе пачэсна.
А тым, хто пакінуў па-здрадніцку строй,
няма ў бессмяротнасці месца.

## ДАРОГА ПАРТЫЗАНСКАЯ

Дарога партызанская,
балоцістая, гразкая,
ні ўзлесся, ні прасвета,
ні зоркі ў вышыні.
Глядзім мы на дарогу:
будзь ласкавейшай троху!
Лес родны, весялей нам пашумі!
Дарога або сцежка,
дзе зверу ступаць цяжка,
ці проста бездарожжа,
дзе не ступаў і звер.
Ідзём мы бездарожжам.
Мы не ісці не можам.
Не можам спатыкацца мы цяпер.
Што ў змроку нас чакае?
Ваўкоў галодных зграя?
Варожая засада —
ваўкоў двуногіх раць?
Ды мы ідзём лясамі,
ідзем і знаем самі,
што не сябе — радзіму
нам трэба ратаваць.
Гаі дзе салаўіныя?
Усё куткі савіныя
ды сцежкі ўсё звярыныя,
глухія гушчары.
І вось за ўсё за гэта
мігне нам даль прасвета,
заззяе раптам зорка ўгары...

## ПЛАЧ СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ

У жалобным хоры зліваюцца галасы
жанчын, дзяцей, старых

Людзі добрыя, рады прывеціць бы вас,
ды прыйшлі вы ў нядобры час,
у нядобры час,
у нядобры час,
у нядобры час.
Рады сустрэць бы вас хлебам ды соллю,
ды вось сустракаем смяротным болем,
смяротным болем,
смяротным болем,
смяротным болем.
Рады сустрэць бы крынічнай вадою,
ды вось сустракаем вялікай бядою,
вялікай бядою,
вялікай бядою,
вялікай бядою.
Хто вы, скажыце? Вакол нас змрок.
Спаліў вораг вочы, адняў у нас зрок.
Не бачым мы ні зямлі, ні неба...
Усё слепа,
ўсё слепа,
ўсё слепа.
Адкуль яно бралася, гэтае ліха?
Не чуем мы вас, няма ў нас слыха.
Нас ахапіла глухая скруха...
Ўсё глуха,
ўсё глуха,
ўсё глуха.
Хацелі б сказаць мы вам добрыя словы,
ды вораг люты пазбавіў нас мовы.
Не вымавіць слоўца, бязмоўныя ўсе мы...
Ўсё нема,
ўсё нема,
ўсё нема.
Не можам прывеціць, не можам праводзіць.
Не мы на сяле — цені нашыя ходзяць.

Ні бачыць, ні чуць, ні слова сказаць мы не
ў стане...
Мы попелам сталі,
мы попелам сталі,
мы попелам сталі.

## АГОНЬ

Які ты расклала агонь вайна,—
жывое ўсё губячы скрозь,
Белай-бялюткай бяроза была
і пачарнела ўся вось...
Бярозы гараць,
горка ім паміраць,
а галоўнае — людзі гараць.
Такога агню не знала зямля,
стыхіі лютай такой.
Вёска гарыць сярод белага дня,
горад гарыць за ракой.
Хаціны гараць,
горка ім паміраць,
а галоўнае — людзі гараць.
Даўно адшугаў агонь вайны.
Бялее рад новых хат.
Бялее бярозка сярод вясны...
Не гасне боль нашых страт.
І Вечны агонь
гарыць усё святлей
у памяць згарэлых людзей.

## СЯРОД ВЯЛІЗНАЙ,
## НА ЎВЕСЬ СВЕТ, ВАЙНЫ..

Сярод вялізнай, на ўвесь свет, вайны
і, значыць, на вачах у самай смерці
радзіўся чалавек — камяк жывы,
з'явіўся камячок ружова-светлы.

Не заглушылі першы крык ніяк
ні выбухі, ні стрэлы і ні стогны.
І асвятліў той крык, як добры знак,
мадонны партызанскай воблік строгі.

Пачуты быў той першы звонкі крык —
як выклік смерці, гвалту і знішчэнню.
І з таго крыку адкрываўся лік
жывому веснавому адраджэнню.

Гэй, груганнё, няма чаго кружыць!
Невынішчальныя жыццё і людзі.
Радзіўся чалавек...
                        І, значыць, будзе жыць
і прадаўжацца чалавецтва будзе!

## *З цыкла «ЛЯСНЫЯ ПРЫМАЎКІ»*

* * *

*Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць.*

Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць.
У лес не хадзіць — не мець лясіны.
Лясіны не мець — не мець хаціны.
Хаціны не мець — дзяцей не радзіць.
Словам, баяцца ваўкоў —
не мець дачок і сынкоў.
Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць...
Не бачыць ні грыба, ні арэха,
не чуць ні шуму ляснога, ні рэха,
па сцежцы цяністай не блудзіць,
цудаў не адкрыць,
казак не стварыць,
вершаў не пісаць,
праўды не казаць
і нават саміх ваўкоў
не бачыць павек вякоў...

* * *

*Хто ў лес, а хто па дровы.*

Хто ў лес, а хто па дровы.
Я ж па твой позірк, па твае бровы.

Хто ў лес, хто па будматэрыялы.
Я ж здабытчык не вельмі ўдалы.

Хто ў лес, а хто па выгады.
А я шукаю шляхі ды выхады.

Хто ў лес, а хто па дровы.
Я ж па твой голас, па твае словы.

Хто ў лес — каб далей прабрацца.
А я ўсё думаю пра брацтва.

Хто ў лес, а хто па дровы.
З табой ісці я ў лес гатовы,
каб там, на сонечным узлессі,
слухаць шум сосен, птушыныя песні
і быць шчаслівым…

* * *

*Лес сякуць — трэскі ляцяць.*

Выходзіць, парадак. Ціша ды гладзь.
Лес сякуць — трэскі ляцяць.
Лес сякуць, і, значыць, яшчэ
смала выступае, сок цячэ.
Лес сякуць, і ад стуку сякер
далей уцякаюць птушка і звер.
Лес сякуць, і раптам стоп:
«А можа, без гэтага лепш было б?»

Яшчэ пытаюць: «А дзе ж падлесак?»
Пачынаюць шкадаваць трэсак:
«Як бы без трэсак секчы лес?»
Ды тут жа доказ стары ўразрэз:
«Лес сякуць — трэскі ляцяць,
сякуць — на трэскі не глядзяць…»
На гэты доказ, стары і косны,
з'яўляецца іншы, новы, козыр:
«А што, калі глянуць інакш на прагрэс
не сеч сам лес?»

* * *

*Далей у лес — болей дроў.*

…Болей дроў.
І меней кастроў,
агнёў дзіцячых, юначых,

вечным святлом пазначаных.

...Болей дроў.
І меней сяброў,
меней палян сунічных,
меней песень сінічыных.

...Болей дроў.
І меней дубоў,
гаёў зялёных, святлістых,
крыніц гаючых, празрыстых,

...Болей дроў.
І меней гадоў,
што не пражыў, не зведаў,
меней прасек, прасветаў.

...Болей дроў.
І меней кастроў,
сяброў,
дуброў і г. д.

* * *

*Колькі ваўка ні кармі — усё адно ў лес глядзіць.*

Вызначым першую тэзу:
воўк не можа без лесу.
Для воўка выць ці не выць —
тое, што «быць ці не быць».

Раз воўк не можа без зграі,
глядзіць з тугою ў лес,
тэза ўзнікае другая:
«Карміць яго які сэнс?
Воўка карміць, выходзіць,—
дарэмна корм пераводзіць?»

Улічым наступную тэзу:
сярод сучасных ваўкоў

меней усё дзівакоў,
якім трэба лес да зарэзу.
Камфорт, спажывецкі дух
спрыяюць прыручэнню.
З адвечным сваім прызначэннем
не ладзіць наш шэры друг.
Праўда, у хвіліны стрэсу
ён зноў глядзіць у бок лесу...

## *З цыкла*
## *«СМЕШНЫЯ ВЕРШЫ»*

### ПРЫКМЕТЫ ВЕКУ

Джынсавы джын вылез з бутлі.
І ў рэакцыі іншыя будні:
мяняе рэакцыя стыль і вераванне —
была махровая,стала махеравая.

### ТРЫ ЛЕПШЫХ СПОСАБЫ ЗАВАРВАННЯ ЧАЮ

Першы

Лепшы спосаб заварвання чаю —
калі тым чаем сяброў прывячаю.

Другі

Лепшы спосаб заварвання чаю —
калі любоў яго суправаджае:
усмешка... пяшчотны позірк... лагода.
Словам, заварка, любоў ды згода.
Тады да чайнай самой цырымоніі
яшчэ дадаецца і водар гармоніі,
тады ў дадатак да цвету чайнага
дае знаць і прысмак шчасця звычайнага.

Трэці

Лепшы спосаб заварвання чаю —
той, што без злосці, без адчаю,
без слова нядобрага, аблыжнага,
без абварвання костачак бліжняга,—
той, што радасць жыцця пацвярджае.

## ЧАС ВЫБІВАННЯ ДЫВАНОЎ...

Не любіць сусед мой Іваноў
час выбівання дываноў.
Яму дываны тыя несці на двор —
амаль пераэжыць катастрофу,
сустрэць смяротны прыгавор,
ісці на смерць, на Галгофу.
Ён нават, гледзячы на дыван,
прыходзіць у філасофскі стан
і кажа: «Змаганне з пылам —
гэта змаганне з Пірам.
Як ты дыван ні трасеш, ні б'еш —
пылу таму ні канца, ні меж,
сіл менш, а пылу ўсё многа.
Пірава перамога...»
Я не сказаў, што мой сусед —
спявак, барытон знакаміты.
Слухаў яго амаль увесь свет.
Ён, словам, не лыкам шыты.
Сваім дамачадцам і кажа ён:
«Я ж — знакаміты барытон!
Пяю я, знакаміты,
дык сцялю аксаміты.
А вы мне пра нейкія дываны.
Хай будуць тройчы пракляты яны!
Чым іх цягаць, паверце,
лепш выцягнуць мне ўсяго Вердзі!..»
Ды цешча ўсё гэта чула не раз,
і чула не раз гэта жонка.
Кажуць: «Але, ты — славутасць у нас,
пяеш ты соладка, звонка.
А што запяеш ты, наш салавей,
як скажам выбіць дыванчык?
Бяры, Валерка, шчотку жвавей,
Валя, бяры выбіванчык!
Валёк, не ўпірайся, не будзь гультаём!
Сёння ўжо выбіваў увесь дом.
Выбілі зранку, не трацячы час,
і дырыжор, і памрэжа,

і першая скрыпка, і кантрабас...
Што натуральна — не грэшна.
Мы ж выбіваем за ўсіх пазней,
усё ў нас не так, як у людзей...»
— О, боская матка! — Іваноў
стогне барытанальна.—
Я гэта ўсё чую зноў і зноў,
як гэта ўсё банальна!..
І потым, жадаючы выйграць час,
ён барытон пераводзіць на бас,
зварот да маткі боскай
мяняе на лад філасофскі
і кажа: «Вы ўсе, на адзін капыл,
пра дываны ўсё ды пра пыл,
а змаганне з пылам —
Гэта змаганне з Пірам.
Як ты дыван ні трасеш, ні б'еш —
пылу таму ні канца, ні меж,
сіл менш, а пылу ўсё многа.
Пірава перамога...»
Цешча не знае, хто такі Пір.
Ёй чуецца іншае нешта, вядома.
Кажа: «Ты б, Валя, можа, менш піў?
Для голасу лепш было б і для дома.
Піў бы ты меней, і пеў бы ты менш,
па гаспадарцы глядзеў бы лепш,
і, кажучы, Валя, між намі,
займаўся б больш дыванамі...»
Не любіць барытон Іваноў
час выбівання дываноў.
«Не любіць» — не тое слова,
ёсць іншыя ў Іванова.
«Эх, ухнем!» — бярэ Іваноў дываны.
(«Хаця б не сустрэць яе на двары!»)
Ідзе ўніз па лесвіцы Іваноў,
не стужкамі-лаўрамі ўвешаны,
а ўвешаны скруткамі дываноў
па волі жончынай-цешчынай.
(Дадам, што не толькі па волі іх —
па волі багоў дамавых усіх.)
Нясе Іваноў дываны на двор.

Кінуць бы, рынуць бы гэтыя скруткі!
«О, дайце, дайце..,»
Дзе мой дырыжор?
Дзе мой суфлёр са сваёю будкай?
Сумна нясе барытон дываны —
не верыць у поспех гэтай вайны.
Ды трэба ж несці і трэсці...
(«Яе не сустрэць бы ў пад'ездзе»)
Я не сказаў, хто такая яна.
Што мае яна да дывана?
Прамых не мае адносін...
Бландзінка... Прыгожы носік...
Я ўдакладню, хто такая яна.
Таксама суседка мая адна,
суседка...
Студэнтка...
Светка.
З красунь, што трапляюцца рэдка.
І да таго — скажу ўжо цяпер —
паклонніца оперных прэм'ер.
Сустрэне ў пад'ездзе Іванова —
бляднее, нямее, ні кроку, ні слова.
«Здрасце» яго барытоннае
слухае, як непрытомная...
...Не любіць сусед мой Іваноў
час выбівання дываноў.

## ЦЁМНАЯ СІЛА ЗАЙЗДРАСЦІ

*Ад зайздрасці становіцца касым.*
А. П. Чэхаў. Запісныя кніжкі

Адзін акасеў,
другі аблысеў,
а трэцяга так бяруць зайздрошчы,
што ператварыўся фізічна ў мошчы,
а духоўна зусім сапсеў.

## АДНАМУ ЗНАЁМАМУ

Нічога, што блытаеш гунаў з готамі,
а готаў блытаеш з гугенотамі,
а трыгладзітаў — з паліглотамі...
Тое, што ты — не эрудзіт,
яшчэ не значыць, што ты — трыгладзіт.
Не будзе для свету вялікім ударам,
калі станеш блытаць катарсіс з катарам,
Сезана — з сезамам, а «макра» з «мікра»...
Ну будзе трохі і смешна, і прыкра.
Замест «парытэта» сказаў «піетэт»?
Перажыве і гэта свет.
Не будзе і ў тым вялікага грэху,
калі назавеш Эдзіту П'еху,
скажам, замест Піяф Эдзіт...
Нічога, што ты — не эрудзіт.
Нічога, калі нават кортыеў орган
зблытаеш з гордзіевым вузлом.
Хоць блытаць іх і не варта наогул...
Ды грэшна блытаць дабро са злом,
як кажуць, божы дар з яешняй.
Такое — нясмешна...

## ПРАЦЭС ВЫДАЛЕННЯ АЛКАГОЛЮ

Працэс выдалення алкаголю
ідзе марудна, трудна, паволі,
ідзе ён з болем, са стогнам, са скрыпам,
з клятвенным хрыпам, з нявінным усхліпам,
ідзе ў цяжкім роздуме, у адчаі,
ідзе з дапамогай кавы і чаю,
вады мінеральнай, сыраквашы,
белага мякішу, маннай кашы,
валідолу, касторкі, настойкі...
Добра, што маем хоць сродкаў столькі,
каб спрыяць выхаду алкаголю.
Працэс гэты — сімвал зямной юдолі.
Што за напасць гэта, што за няшчасце,
відаць асабліва па кантрасце
з уваходам таго ж алкаголю...
У тэмпе чокнецца застолле:
«Пайшлі! Паехалі! Памчалі!»
Выпілі дружна, залпам, адчайна!
Тут жа цяпло разлілося па целе.
Атрымалі — што хацелі...

* * *

*Дурняў не сеюць і не жнуць, самі нараджаюцца.*

Народная прыказка

Значыць, не трэба тут ні ўгнаенне,
ні структурны, культурны слой?
Значыць, працягваюць дурні род свой
па спосабу самаапладнення?

## СВЯТА НА БАБРОВЫХ ТОНЯХ

*Як паведамілі работнікі запаведніка, удасканалена пастка для лоўлі бброў. Дзякуючы гэтаму каштоўнаму вынаходніцтву працэс лоўлі стаў больш зручным як для паляўнічага, так і для самога звярка.*

З газетнай заметкі

Сёння не плача ўжо бабёр,
не пралівае слёзы зацята.
На тонях бабровых сёння свята.
Весела ў пастку бабёр папёр...
Што значыць, словам, НТР!
Здаволены і лавец, і звер.

## ПАСЛУХАЕМ І ДРУГІ БОК

Калі прадстаўнік зеленгаса
ацэньвае работу садоўніка
і гаворыць, як добра
пастрыжаны газоны
і як выдатна выглядаюць
абсечаныя кусты,
калі ён разам з садоўнікам
выказвае ў сувязі з гэтым

глыбокае задавальненне,—
то застаецца без увагі
яшчэ адзін голас,
застаецца нявыслуханым
яшчэ адзін бок:
гэта — сама трава,
гэта — самі кусты.
Можа, варта было б пацікавіцца,
як адчуваюць і яны сябе таксама,
ці могуць яны ў сваю чаргу
выказаць такое ж задавальненне.
Калі нам падносяць рыбную страву
і мы пачынаем яе хваліць,
пачынаем гаварыць,
якая яна, рыба, свежая,
якая яна салодкая,
як мала ў ёй касцей
і як многа, відаць, фосфару,—
калі мы, словам,
пачынаем прызнавацца
смая-санай рыбе ў тым,
як яна нам падабаецца,—
то застаецца ўсё ж
не высветленым яшчэ адно пытанне
а ці падабаемся мы рыбе?

## КОЛЬКІ ЛЕТ, КОЛЬКІ ЗІМ!

**Паэма надвор'я**
**з метэаралагічнымі звесткамі,**
**гістарычнымі экскурсамі**
**і лірыка-псіхалагічнымі эцюдамі**

### Уступ
### ШТОДЗЁННАЯ АКЛІМАТЫЗАЦЫЯ

Святлее ў акне палоска зары.
Сінее ранне ў аконнай раме.
Якая зара? Якое ранне?
Якое надвор'е на двары?

(Надвор'е, выходзіць, ад слова «двор»?
Што на тары — тое ўзгор'е,
а што на двары — тое надвор'е,
і там — то ціша, то дождж, то віхор.)

«Якое надвор'е?» —
як жэст абуджэння.
Ледзьве з падушкі ўзніму галаву —
гэтым пытаннем ужо жыву,
з яго пачынаю свой новы дзень я.

Якое надвор'е, сіноптык, скажы?
Як многа адказ твой азначае! —
Прадвырашае лес ураджаю,
прадвызначае настрой душы.

Пытанне з пытанняў. Надзея з надзей.
Якое надвор'е — такі і дзень.
Пытанне старое, сівое, як свет.
Пытанню таму колькі зім і лет?
Старое, як свет,
як дзень, яно новае.

Як новая гэта палоска пунсовая.
Старое, як свет, і вечна новае.
Як новае гэта сонца вясновае.
Старое, як свет, і вечна новае.
Як новае гэта лета ліпнёвае.

Пытанне старое, адказ не стары:
надвор'е новае на двары.
Пытанне старое, як паданне,
і вечна новае пытанне.
Якое надвор'е на двары?
Метэастанцыя, гавары!

Якое надвор'е на двары?
Якое надвор'е на панадворку?
Якое надвор'е па той бок пагорку?
Па той бок Атлантыкі, у Нью-Йорку?
Якія там сёння веюць вятры?

Якое надвор'е на двары?
І там, у бары, і там, на гары,
і там, за барамі, за гарамі,
і там, за даламі, за марамі?
Там сёння ціха ці веюць вятры?
І там, дзе край неба,
там, дзе край света —
там хмарна ці светла?
Якое надвор'е на двары?
Дзень пачынаем гэтым пытаннем.
Метэазвесткі, як дары,
прымаем з душэўным трапятаннем.

«Чакаецца вецер, будзе ветрана...»
Тут жа прымаем да ведама.
«Надвор'е цёплае зменіцца сіверам...»
Збіраемся з сіламі.
«Ападкі чакаюцца...»
Што за ападкі? Душа аж у пяткі.
«Пройдуць дажджы...»
Дождж ціха пастуквае.
Збіраемся з думкамі.

«Днём будзе бязвоблачна, будзе ясна...»
Святлеем з мясцовасцю адначасна.
Якое надвор'е на двары?
Якія вецер, дождж і сонца?
Спытайся, яшчэ раз паўтары
і будзь гатовым акліматызоўвацца.
Акліматызацыя — не эпізод,
не тое, што звязваем з міграцыяй.
Ідзе штодзень, штотыдзень, штогод,
вечна ідзе акліматызацыя.

Як ні чапляйся за статус-кво,
як ні лянуйся знацца, змяняцца,
надвор'е стукне ў акно:
«Працягваецца акліматызацыя!»
Калі разлічваеш сіл запас,
звяраеш іх з планамі, справамі, прадамі,
не забывай улічваць штораз
закон штодзённай акліматызацыі.
Ён свой падатак бярэ ў нас,
ад нас вымагае сілы і час.

Ідзе лінянне, змяненне кары,
ідзе абнаўленне — з вяршка да кораня...
Якое надвор'е на двары?
Сіноптык, скажы, якое надвор'е?
«Якое надвор'е?» —
надзея з надзей.
«Якое надвор'е?» —
падзея з падзей.
«Якое надвор'е?» —
пытанне, з якога
пачынаецца шлях-дарога.
Пытанне, якім пачаліся калісьці
пошукі земляў, законаў, ісцін.

Калумб не адкрыў бы Новага Свету,
калі б не ўлічваў напрамак ветру.
Не ўбачыў бы Ньютан таго прыцягнення зямнога,
не ўнікні аднойчы ў сэнс дажджу праліўнога.

Рэйс першы касмічны
з вясновым надхмар'ем
узгоднілі Каралёў і Гагарын.
Узважыў складаемыя надвор'я
Ленін, раней чым грымне «Аўрора».
(Багіня ранішняй зары,
якое надвор'е на двары?)

Якое надвор'е на двары?
Пытанне старое, адказ не стары.
Бо ў новага дня надвор'е новае.
Няважна, зімовае ці вясновае,
няважна, пагоднае ці суровае,
заўсёды новае, чорт пабяры!

Сплывае воблака зверху ўніз —
даўно вядомае як кучавое,
па форме і колеру дажджавое,
ды ў воблака новы зусім абрыс.
Чуецца ветру шум глухі.
Па дадзеных гідраметэазводкі,
тыя ж парыў і хуткасць, ды ўсё-ткі
у шуме ветру новыя ноткі
і тэмбр у ветру зусім другі...

Гэта абсалютна дакладна, што вецер, які быў пасля паўдня 27 ліпеня 1974 года, адрозніваецца па сваёй танальнасці ад ветру, які ўзняўся позна вечарам 2 студзеня 1976 года, а апошні, як неба ад зямлі, адрозніваецца сваёй тэмбравай афарбоўкай ад свайго сабрата, які шумеў-гудзеў з усіх сіл 3 мая 1978 года. (Сведчу, што ўсе адзначаныя дні сапраўды былі ветраныя.) І справа тут не толькі ў тым, што надвор'е ўспрымаецца намі суб'ектыўна, у залежнасці ад эмацыянальнага стану. І не толькі ў тым, што пералічаныя вятры адносяцца да рознай пары года і сутак. Ёсць яшчэ наступнае тлумачэнне. Як сцвярджаюць метэаролагі, «цяжкасць прагназіравання надвор'я заключаецца ў тым, што атмасферныя працэсы амаль ніколі

поўнасцю не паўтараюцца». Справа, такім чынам, яшчэ ў пастаяннай зменлівасці надвор'я, у непаўторнай навізне яго праяў.

«Якое надвор'е?» — пытаем штораз.
Наш клопат па вартасці ацэнены.
Новымі фарбамі і адценнямі
надвор'е штодня адорвае нас.
«Якое надвор'е на двары?»
Як нетры зямныя, лясы і воды,
вятры ўсе чатыры, чатыры пары —
набытак народа, багацце народа.

Бачу ў акне палоску зары.
Бачу ўзыходжанне першых зор я.
Пытаю, праводзячы дзень стары
і тое надвор'е, што на двары:
«Якое заўтра будзе надвор'е?»

## ПЕРШЫ ГРОМ

Апоўдні дзінькнулі шыбы крыштальна.
Прытаіўся, прыслухаўся дом.
Дом прытаіўся запытальна:
«Што гэта — гром?»
Сціхлі ўсе гукі, крокі і словы...
І зноў са сваіх высокіх стром
прагрукатаў раскаціста гром —
першы, вясновы!
Голас той быў сапраўды грамавы.
Гэта — вясна гартанна-арганна
акорды ўступныя прайграла,
ў свае ўваходзячы правы.

Прайграла акорды цвёрда і горда,
аж рэха пайшло ад таго акорда!
Прытым, заўважым, без струн і труб
яна прайграла свой уступ.

Без партытуры, без клавіятуры

сыграла сваю ўверцюру вясна.
Прытым сыграла чыста яна,
сыграла без фальшу, без халтуры.
Што значыць голас жывой натуры!

Каб так прагрымець — мала ўмець,
і мала мець серабро ды медзь,
і мала ўзлесці на катурны...
Быць трэба верным сапраўднай натуры!

Без нот і без палачак дырыжорскіх,
без іншых атрыбутаў жорсткіх,
а проста таму, што ва ўдары была,
а проста, ці з радасці, ці са зла,
натхнёна вясна зымправізавала,
сыграла: слухай, зямная зала!

Прытым сыграла не дзеля сенсацыі,
не дзеля славы і авацыі,
не на публіку, не на «біс».
А раскацілася зверху ўніз
таму, што — час, таму, што — трэба,
што так захацелі зямля і неба.

Аддаў я належнае грому першаму?
І музыканту паклон адвешваю.
Прашу я тут Янчанку і Мулявіна —
зразумейце, сябры, мяне правільна.
Крыху кульгае, магчыма, мой троп,
кульгае, як кожнае параўнанне.
Ды верша без тропа не было б...
Прашу, маэстра, даравання.
Такі варыянт прапаную, маэстра, вам:
грому — громава, аркестру — аркестрава.
Пасткрыптум. Вечарам, дома,
запісвала стомленая рука:
«Сёння, семнаццатага красавіка,—
дзень першага грома...»

**Э ц ю д  п е р ш ы**

## ЗМЕНА СЕЗОНА

Як доказы адсутнасці тваёй —
праходзяць хмары нізка над зямлёй.

Прырода не выносіць пустаты.
Ратуе вецер нас ад нематы.

Я думаў, доказ — толькі мае «я».
А тут яшчэ і непагадзь мая.

А тут яшчэ мяняецца сезон...
Ды ты ж усё-ткі ява, а не сон?

Як доказ, што ёсць недзе ў свеце ты,
глядзіць з-за хмары месяц залаты...

## ЖАЛОБНЫ ТРЫПЦІХ

*І стаў такі вялікі снег ісці!*

*Два дні дождж ліў... Ну, тут усе выйшлі...*

*Цераз адкрытыя чалеснікі і выбітыя юшкі ў*
*чорныя жэрлы камінор урываўся вецер і граў,*
*як на арганах, бясконцы рэквіем па гаспадарах.*

З кнігі А. Адамовіча, Я. Брыля, Ул.
Калесніса «Я з вогненнай вёскі...»

Стаў снег ісці. Як раней, як даўней.
Ішоў снег.
Стала ў вачах бялей, святлей.
Ішоў снег.
Хоць снегу не хапала стрэх,
ішоў снег.
Глядзелі нелюдзі ўверх.
Ішоў снег.

Снег не маглі яны спыніць.
Ішоў снег.

Снег не маглі забіць ці спаліць.
Ішоў снег.

Цямнелі сляды крывавых спраў.
Ішоў снег.
Снег мёртвым вочы закрываў.
Ішоў снег.

Сталі пажарышчы затухаць.
Ішоў снег.
Сталі стогны заціхаць.
Ішоў снег.

Снегу ўсё больш і больш было.
Ішоў снег.
Як саван белы на ўсё сяло.
Ішоў снег.

Стаў снег ісці. Стаў снег кружыць.
Ішоў снег.
Жывым жывое. Трэба жыць
Ішоў снег.

*

Было суцяшэнне ўсё ж.
Ішоў дождж.
Было ўваскрашэнне ўсё ж.
Ішоў дождж.

Было абмыванне ўсё ж.
Ішоў дождж.
Было спадзяванне ўсё ж.
Ішоў дождж.

Верылі свята ўсё ж...
Ішоў дождж.
...Што прыйдзе расплата ўсё ж.
Ішоў дождж.

...Што вернецца зноў былы,
зноў пойдзе ўсё ж

той хлебны,
той грыбны,
той мірны дож дне.

*

Для ветру вайна была —
як гульня.
Убачыць агонь і дым
І ўжо весяліцца каля агня,
гуляе з дымам тым.
А потым падхопіць дым і агонь,
імчыцца з імі ўгрунnём.
Ах, вецер, вецер, ветрагон,
дрэнныя жарты з агнём!
Ах, вецер, вецер, ён — як дзіця.
Яму ўсё — адна гульня.
Няма яму справы да жыцця,
да смерці справы няма...
...Ды сёння званам ён маўчаць не дае —
звіняць ад відна да відна.
Ды сёння ён рэквіем пяе
па тых, што спаліла вайна.

**Э к с к у р с п е р ш ы**
**ГОЛАС ФРАНЦІШКА БАГУШЭВ1ЧА**
**Паводле яго артыкулаў і пісем**

Не скарджуся — кажу як ёсць.
Не крыўджуся — гляджу як ёсць на рэчы.
Аглядваю пражытыя гады
І бачу, што адны прайшлі без следу
(ці можа быць увогуле такое?),
другія пакідалі ў сэрцы след,
што ные там нясцерпным болем
і прымушае часам узмаліцца:
«Дай божа, вытрымку і надалей!
Ды накіруй зло на лясы сухія!»
А зрэшты, усяму хапала зла.

І сапраўды ў восемдзесят сёмым[2]
ад засухі лясы гарэлі
(як і наогул увесь час было
ў тым годзе неспрыяльнае надвор'е).

Ды хіба быў такі адзіны год?
Яшчэ раней, у восемдзесят пятым,
было спякотнае надзвычай лета,
і скардзіліся людзі на яго.
Для скаргаў іхніх меліся падставы.
Ды горшае яшчэ было наперадзе:
гарачыня змянілася дажджом,
які ішоў чатыры тыдні ўзапар...

Заўважу, што да хору нараканняў
я вонкава не далучаў свой голас,
але ў душы спакойным быць не мог.
З трывогаю, парой з зацятай злосцю
я паглядаў таксама ў неба
і думаў: «Можна верыць у парадак,
а ў непарадак як паверыш ты?»

А восемдзесят восьмы год
запомніўся вясной дажджлівай, ранняй,
калі павыйшлі рэкі з берагоў,
пазносілі масты, млыны і хаты,
калі ўздоўж узбярэжжа бедны люд
лямантаваў, ламаў з адчаем рукі.
Запомніўся яшчэ той год
страшэннай бурай, што ў лістападзе
прайшла па нашым краі нечакана.
Зрывала бура дзіка стрэхі з хат,
сарвала нават крыж з царквы бліжэйшай,
павыварочвала з карэннем дрэвы...

Цяжкое лета дзевяноста сёмага
прынесла мне сардэчныя прыпадкі
(боль сэр да ў літаральным сэнсе).
З'явілася трывога за жыццё,

[2] Маецца на ўвазе 1887 год.

за лёс дзяцей, не сталі што на ногі.
«Так, паважаны і ласкавы пане,
надвор'е тут у нас, як моль грызе —
стаіць тут тыднямі гадзіна шарая...»

І немагчыма жыць было б зусім,
калі б я не адносіўся да тых,
хто лічыць, што ад нас усіх таксама
залежыць гэтае праклятае надвор'е,
і калі б сам не верыў я цярпліва,
што на надвор'е можна ўплываць,
мяняць да лепшага агульным намаганнем.

Так, мудра сказана ўсё-ткі, што
цярпенне нам дае надзею,
а мець надзею — не ганебна, не.
Яшчэ давала сілы для жыцця
мне цвёрдае адно перакананне:
«Так быць не можа, быць інакш павінна,
і быць інакш не можа — толькі лепш!»

**КАРОЎКА-БАГОЎКА**
**Паводле дзіцячай заклічкі**

Кароўка-багоўка, ты прыляцела?
Ты нешта паведаміць мне хацела?
Ідуць і ідуць дажджы.
Што заўтра будзе, скажы?
Дождж ці пагода?
Пень ці калода?
Будзе пагода — ляці,
не будзе — сядзі.
Кароўка-багоўка, неба пасланніца,
кароўка-багоўка, прадсказальніца,
які твой сёння прагноз?
Які нас чакае лёс?
Цень ці спякота?
Ціш ці грымота?
Будзе добра — ляці,
не будзе — сядзі.

Кароўка-багоўка, ты мне спрыяеш?
Ты мне сваю тайну давяраеш?
Хочаш мяне перасцерагчы...
Скончацца гэтыя дажджы?
Сонейка б болей
ды болей любові!
Будзе любоў — ляці,
не будзе — сядзі.
Кароўка-багоўка,
ты знаеш,
з гадамі
менш усё верыш у гаданні,
а болей у тое, што ёсць ужо тут...
Ты ўсё ж абяцаеш мне цуд?
Зарніцу ці зорку?
Блакіт ці вясёлку?
Збудзецца цуд — ляці,
не збудзецца — сядзі.
Пасядзела, сэрца ўстрывожыла,
паляцела кароўка божая,
паляцела кудысьці ўдаль.
Сум і жаль...

**Эцюд д р у г і**
**ДАДОМУ, ХУТЧЭЙ ДАДОМУ!**

Сівер дзьме проста ў твар,
не дзьме, а наносіць удар,
гне ўсё жывое дадолу...
Дадому, хутчэй дадому!
Сівер не дзьме, а б'е,
дыханне спыніць стараецца.
А за спіной у цябе
зара на мароз разгараецца.
Яна ўсё злавесней, ярчэй,
жывое ўсё замарожвае.
Дадому, дадому хутчэй!..
І раптам думка трывожная:
«Крэпасць твая — твой дом,
дом сховішча дасць, вядома.

Але як там, дома, з цяплом?
Ці хопіць цяпла там, дома?»

## КАЛІ НЕ ЧАКАЕЦЦА АПАДКАЎ...

*У бліжэйшыя суткі ў Мінску і вобласці*
*ападкаў не чакаецца.*
З паведамлення Гідраметэацэнтра

Ападкаў не будзе, не чакаецца...
Гэта — калі хто надвор'ем цікавіцца.
Ды гэта зусім не азначае,
што нечага вам чакаць, мінчане.
Замест ападкаў чакайце іншых
сюрпрызаў — ад сіл зямных і усявышніх.
Вы, скажам, паверылі ў сінь-сіняву,
а госці — як снег на галаву.
Чым меней чакаеш гасцей ты з раніцы,
тым больш верагодна, што яны з'явяцца.
Потым яшчэ ўлічваць трэба,
што гром можа грымнуць і з яснага неба.
Суцішаны ты наконт ападкаў,
ды раптам боль — табе над лапатку.
Барометр будзе паказваць «ясна»,
ды вось тэлеграма персонай уласнай.
Калі ападкаў не чакаецца —
не значыць, што нешта не адшукаецца.
Калі ападкаў не чакаецца —
не значыць, што нехта не напаткаецца.
Калі ападкаў не чакаецца —
не значыць, што нехта не раскаецца.
Калі не чакаецца ападкаў —
не значыць, што лес не задасць загадку.
Ты на паверх, а чорт у пад'ездзе.
Чакай не ападкаў, чакай падзэсці!
Ва ўсякім выпадку, ва ўсякім выпадку,
да заўтра не будзе хаця б ападкаў...

**Э к с к у р с   д р у г і**
**УРОК МІНУЛАГА**

> Ці зімой я ехаў, ці летам, для вас, думаю,
> усё роўна. Можа быць і зімою і летам.
>
> *А. М. Радзішчаў. Падарожжа з Пецярбурга ў Маскву*

Не помнім, не ведаем сапраўды,
і нам сапраўды ўсё роўна,
якое надвор'е было тады —
пагодна было ці сурова?

Затое скрозь час нам добра відно,
праз зімы і леты нам памятна,
як чалавечае сэрца адно
адкрылася шчыра і праведна.
І здрыганулася ўсё як ёсць,
пакутай людской працятае,
спагадай прасякнутае наскрозь —
да чалавека як брата.
Няважна, ці летам было ці зімой,
пагодна было ці хмарна,
ды ўспыхнула сэрца над зямлёй
ярка і самаахвярна.
І урок той мы помнім,
нам не ўсё адно,
якія былі запаветы.
Нам ведаць дае аб сабе іх святло —
як зоры, як зімы, як леты.

**ВЕТРАНА, ВЕТРАНА...**

Ветрана, ветрана...
Ветрана з самага рання.
Вецер яшчэ на дасвецці
крануў ціха струны свае,
эолаву арфу сваю...

Пяе сам і сам іграе,
струну за струной кранае,
іграе і сам пяе.

Ветрана, ветрана…
Ранак змяніўся поўднем.
А вецер не сціх, не суняўся,
заняўся на ўвесь абсяг.
А вецер пад небам паўднёвым
імкне ходам поўным,
а вецер з абсягу ў абсяг
імчыцца на ўсіх парусах.

Ветрана, ветрана…
Ветрана з ранку да вечара.
Вячэрняя зорка ўзышла,
а вецер гудзе і гудзе.
Усё абвявае —
ад дробнай расінкі да зорнага рэчыва.
Усё абдымае —
ідзе па зары, па зямлі, па вадзе.

Ветрана, ветрана…
Стаміліся дрэвы і птушкі,
стомлены дзень на зыходзе,
а ў ветру ўсё той жа імпэт…
Ірвуцца фіранкі ўслед,
галосяць услед яму юшкі,
ляцяць услед стужкі,
і коміны трубяць услед.

Ветрана, ветрана…
Колькі вятроў намі зведана!
Тых, што сустракалі лагодна,
і тых, што піхалі ў спіну,
што білі ў грудзі шалёна…
Ветрана, ветрана!
Тых, што на ніву вялі,
і тых, што вялі на вайну.

Ветрана, ветрана…
«Вецер на ўсім свеце белым».
Вецер шукае ахвяр,

вецер прыносіць дары.
Ветрана, ветрана...
Робіцца мне зразумелым,
чаму караблі ўсё-ткі топіць
не мора, але вятры.

«О, вецер, вецер!» —
было і трывожна, і ветрана.
«О, вецер, вятрыска!» —
лямант ірваўся з грудзей.
Ружа вятроў
праходзіць праз сэрца паэтава.
Ружа вятроў
праходзіць праз лёсы людзей.
Ветрана, ветрана...
Ветрана з самага ранку.
Ветрана з ранішняй
і да вячэрняй зары.
Вецер кранае струну,
вецер ірве фіранку,
вецер шукае ахвяр,
вецер прыносіць дары.
Ветрана, ветрана...

**Эцюд трэці**
**БАЧУ Ў АКНЕ Я...**

Бачу ў акне я снег і смерч,
бачу ў акне я непагадзь зімнюю.
Стала трывожна за ўвесь свет,
а перш за ўсё — за сваю любімую.

Як яна, што яна ў гэты час,
калі на свеце лютуе стыхія,
калі нехта стыне, калі нехта гіне,
калі падзяляе адлегласць нас!

Бачу я ў цемрадзі прасвет,
бачу чародку галубіную.
Стала мне радасна за ўвесь свет,
а больш за ўсё — за сваю любімую.

## ЛЕТА 1965 ГОДА

*Няхай будзе пагодачка,*
*хай спорыцца работачка.*
З народнай песні

Маці яшчэ была жывая.
Маці яшчэ збіралася жыць...
Шчыруе, запашвае, зажынае,
ледзь-ледзь адпачне і зноў бяжыць.
І ўсё глядзіць з-пад рукі ўгору,
І ўсё чакае, чакае дажджу.
Гляджу таксама ўгору з дакорам,
таксама на неба з надзеяй гляджу.
Схіляюся з маці над ссохлым цветам,
які на бульбяным полі знайшоў.
І тут я хачу быць не паэтам,
не нейкім іншым аўтарытэтам,
а заклінальнікам дажджоў.
І я шапчу, заклінаю хмару:
«Не будзь за гарой,
не хадзі старанай,
ідзі да маці маёй старой!
Быць сляпой табе не да твару...»

Маці пра лёс ураджаю дбала.
Ды хмара недзе міма плыла...
Апроч дажджу, яшчэ не хапала
тым летам летняга цяпла.
Маці казала: «Што гэта за лета,
калі не сагрэешся як след?
Бачыла шмат я зім і лет,
ды нешта няўцям мне надвор'е гэта...»
Маці на лета спадзявалася.
А лета зрывалася,
не ўдавалася.
Ішло яно неяк наўскасяк.
Вецер круціў і так, і сяк.
Быў ён засушлівы і халодны,
быў недародны, быў бясплодны,

быў той з вятроў, які не нёс
ні ліўняў, ні цяпла, ні рос.
Маці за лета турбавалася.
Маці хацела, каб лета было.
Ды лета ўсё не адбывалася —
як быццам некаму назло.
А скора на лад асенні шумела
рана пажоўклае лісцё.
І доўга шчымела, доўга шчымела
лета няздзейсненага пачуццё...

**Экскурс трэці**
**МАНАЛОГ НАПАЛЕОНА**

*Я здаровы, але надвор'е жахлівае; я пераапранаюся два разы ў дзень, так многа дажджоў. 12 кастрычніка 1805 года.*

*Першыя пытанні Напалеона, калі ўваходзіў камердзінер, нязменна адносіліся да часу і надвор'я.*

А. Леві. Інтымнае жыццё Напалеона

Выходзіць, мае рацыю гісторык.
Хоць з неба я хапаў нямала зорак,
авантурыстам я не быў усё ж —
бо чуў я вецер, заўважаў я дождж.
Мне выпаў лес героя і месіі.
Ды бачыў, як салдаты гразь мясілі,
і знаў: сушы зарад і меч тачы
ды май яшчэ на ўвазе і дажджы.
Я ваяваў удала і няўдала.
Дажджоў нямала мне перападала.
Хапала іх, аблажных, праліўных,
на ўсіх нас — і вялікіх, і малых.
Яшчэ ў час італьянскага паходу
я зведаў усялякую пагоду,
а з ёй — і чалавечую пароду.
І падагуліў так каштоўны ўрок:
«Ад лёту да падзення — адзін крок».
А ў час свайго вялікага паходу

спазнаў я мудрасць рускага народа:
«Не сунься ў воду — раз не знаеш броду«
Пасунуўся — і вось пайшоў да дна,
і вось Барадзіно, Беразіна...
Тады, пасля той барадзінскай справы,
пасля той беразін'скай пераправы,
я даў сабе ў апошні раз зарок:
«Ад велічы да ганьбы — адзін крок».
Затым, пасля заснежанай Смаргоні,
ратуючыся ад пагоні,
лад шум завей, пад сумнае дзін-дзін
я ўбачыў ясна парадокс адзін...
Ад чына ніжняга да генерала
патрэбна ўсё-такі прайсці нямала.
Не будзем спасылацца на эталон,
ён — выключенне, а не эталон.
Пратупаць усё-такі было няпроста
ад Сены і да нёманскага плёса.
А колькі крокаў зроблена было
ад Аўстэрліца да Ватэрлоо?
То калі мерац тэрытарыяльна.
А як жа вымяраюцца маральна
адлегласці? Тут лес такі ігрок,
што «ад» і «да» усяго адзіны крок:
ад любага абранніка —
да пасынка,
ад важнага пранонсіка —
да насмарка,
ад «віва, імператар!» —
да «хі-хі»,
ад ноткі ўладарнай —
да «апчхі»...

**МАНАЛОГ НАВАЛЬНІЦЫ, ШТО АДБЫЛОСЯ Ў МІНСКУ 26 ЧЭРВЕНЯ 1972 ГОДА**

*Чалавечы розум не спыніць атак да таго часу, пакуль не падначаліць сабе ўвесь свет прыроды.*

З навуковага артыкула

Прырода задумалася: «Так, так...»
Значыць, не спыніце атак?
На гэты раз я вам не падтакну —
вазьму ды найду ў контратаку!
Вы любіце сінія небасхілы?
А вось мае хмары, мае сілы!
Ану, пачынайце бараніцца!
Зіг-заг... Пайшлі бліскавіцы!
Пайшлі мае вогненныя бізуны!
Трах-тарарах... Пайшлі перуны!
Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах!
Ёсць яшчэ нораў у навальніцах!

Зіг-заг, трах-тарарах...
Ёсць сіла ў маіх перунах-грамах!

Зіг-заг, трах-тарарах...
Ёсць размах у маіх вятрах!

Зіг-заг, трах-тарарах —
па вашых антэнах і правадах!

Зіг-заг, трах-тарарах. —
па вашых сценах і ліхтарах!

Зіг-заг, трах-тарарах —
Мне на радасць, вам на страх!

Дрэва з коранем —
у раёне Кнорына!
Хто сказаў, што я ўжо скорана?

Плошча Харужай —
суцэльная лужына.
Адкуль вы ўзялі, што я знядужыла?
У раёне Кальварыі —
пажар і аварыя...
«Гоп» не кажы, я бываю каварная.

Метэастанцыя зноў у прастрацыі —
прагноз яе зноў не мае рацыі...

Зіг-заг — па вашых прагнозах!
Трах-тарарах — па вашых пагрозах!
Па вашых амбіцыях і апетытах,
мала, падобна, мною бітых!
Трах-тарарах —
                    я шмат яшчэ здолею! —
па самахвальству, па самаздаволенню!..
З выглядам годным,
                    з выклікам гордым
прайшла яна, навальніца, над горадам,
прайшла, нарабіўшы грому-груку
сабе на ўцеху, нам на навуку...

## Эцюд чацвёрты
## АДНО ПАПАЛАМ З ДРУГІМ

*Ідзе снег папалам з дажджом..*
Запіс у Дзённіку ад 7 студзеня 1975 года

Снег папалам з даждлсом.
Зіма папалам з летам.
Кажух папалам з плашчом.
Бот папалам з кедам.

Віно папалам з вадой.
Дождж папалам са снегам.
Смех папалам з нудой.
Грэх папалам са смехам.

Вясна папалам з зімой.
Дождж папалам з градам.
Даль папалам з імглой.
Любоў папалам са здрадай.

Дождж папалам з віном.
Габой папалам з трубою.
Змрок папалам са святлом.

А я… папалам з табою?

Што яшчэ з чым папалам?
Зіма папалам з вясною,
з цішынёй — тарарам…
А ты… папалам са мною?

## АДНОЙЧЫ РАНІЦАЙ

Як шчасцю, як удачы,
паверылі вясне.
Наіўна па-дзіцячы
прыснілі яе ў сне.
Ды вось прыходзіць ранне —
завея зноў гудзе.
Ды вось расчараванне —
суровы сівер дзьме.
Пачулі мы, убачылі
такую навіну,
і крыўдна па-дзіцячы
нам стала за вясну…

## Экскурс чацвёрты
## АПОШНІ ДОЖДЖ КАМУНАРА МІЛЬЕРА

*По ўспаміну ўдзельніка і гісторыка Парыжскай камуны Э. Лісагарэ, у пятніцу 26 мая 1871 года ў Парыжы пачаўся праліўны дождж — непазбежны спадарожнік вялікіх бітваў. У гэты дзень, апоўдні, быў схоплены і без суда расстраляны версальцамі Мільер.*

Пад праліўным дагджом
вялі на расстрэл Мільера,
Салдат пагражаў ружжом,
агент махаў рэвальверам.
Стаялі канвойныя ўздоўж,
натоўп буржуяў роў дзіка…
Толькі вясновы дождж

ліўся празрыста і ціха,
Мільер расшпільваў сурдут,
горда трымаў паставу:
«Грудзі мае... яны тут...
Ды на калені не стану!»
Буржуі раз'ятраным зверам
крычалі: «Смерць Мільеру!»
А дождж на свой манер
шаптаў: «Жыві, Мільер...»
Цэліўся пільна ўзвод.
Ды дождж, накшталт бар'ера,
засланяў Мільера...
«Няхай жыве народ!»
Дождж адгароджваў стрэл,
Пакуль не ўдарыў свінец той,
паспеў яшчэ крыкнуць Мільер:
«Няхай жыве чалавецтва!»
«Няхай жыве народ!
Няхай жыве чалавецтва!..»
Не сцяла б куля рот,
сказаў бы: «Хай дождж ільецца!
Дождж ліўся, цёплы, густы,
на трупы, на ступені,
на карнікаў, што ў а ту пени і.
глядзелі, раскрыўніы ірты.
Ён абмываў, як траву,
пяшчотна, без лішняга шораху,
счарнелую ад пораху
Мільераву галаву...

## ЗАПАВЕТНАЯ СТРУНА

Што чутна ў вашых краях?
Туман Дзвіну абдымае,
збіраюцца гусі ў шлях?..
«Струна звініць у тумане»?
— Струна...
Якая струна?
Адкуль метафара гэта?
— З вядомага твора яна,

бы ў той раманіст паэтам.
— Не тое чытаў я, дурны.
— Ды я ж не пра чытанне.
Пытанне наконт струны:
звініць струна ў тумане?

Няма без «курлы-курлы»
асенняга расставання.
Так нельга і без струны,
што звініць у тумане.

Вясной не была б вясна,
калі б між зямлёй і небам
жаўранкава струна
не пела спевам срэбным.

Спявае, звініць тая ніць
на самай высокай ноце...
А ў нашай пагодзе-слоце
звініць яна ці не звініць?

Паведамляе сцяна:
«Ваня плюс Маня каханне».
Нічога, звінела б струна
у тым ружовым тумане.

Ты любіш аркестраў медзь,
шмат струн у табе, меламане.
А як з той адной, што ледзь-ледзь,
ледзь чутна гучыць у тумане?

З пасадаю новай вас,
з новым высокім званнем!
І хай яшчэ вам падчас
тая струна пазваньвае.

Ты глушыш вершамі друк,
шмат звону ў табе, графамане.
Ды ты, як цецярук,
глухі да струны, што ў тумане,

Грошы, раскошы любіце.
Тут справа мая — старана.
І усё ж: а звініць струна
у вашым заможным быце?

Марш гучыць жалобны,
плыве ўгары труна...
Наш лес на смерць падобны,
Калі ў ім змаўкае струна.

Звінела б тая струна
ды брала нас за жывое!
Астатняе ўсё — нажыўное,
астатняе ўсё — трын-трава!

...Дзякуй за ваша пасланне,
узнёслае, як старына[3]
Дзякуй за ваша пытанне:
«А ці звініць струна?»

## Эцюд пяты
## САКАВІЦКІ ВЕЦЕР

Вецер вые і скуголіць,
вецер нізка хмары гоніць,
скрабе снегам па акне —
аб'явіў вайну вясне.
Аб'явіў і нам вайну —
майму сэрцу і твайму.
Мы губляемся абое:
небяспека для любові?
Выпрабоўваюць яе —
яна выстаіць ці не?
Вецер вые, голле гне.
Голле выстаіць ці не?
Вецер вые і скуголіць.
Вецер сэрцы гне, як голле.
Што залежыць тут ад нас?

---

[3] Быліна, народна-гістарычная песня.

Ёсць цяпла і сіл запас?
Сэрца, сэрцу сілы дай!
Ну, а там і светлы май...

## АБМЕН НАДВОР'ЕМ — ЖАРТАМ І УСУР'ЁЗ

спачатку быў наш снежань,
быў наш снег беларускі...
Нам спадабаўся наш госць,
балгарскі паэт Андрэй Германаў
(па бацьку — свет Дзімітроў;
па дзеду — выхадзец з Шыпкі,
з вёсачкі той, што прылегла,
прыпала да падножжа
горнага перавалу
з аднайменнай назвай,
вядомай як сімвал вялікі).
Нам спадабаўся наш госць,
другар наш Андрэй Германаў,
равеснік і аднадумца,
паэт, перакладчык, мастак
(аўтар сяброўскіх шаржаў).
І мы з ім шчодра дзяліліся
усім, чым маглі падзяліцца,—
і хлебам-соллю, і песнямі,
і ўсмешкамі, і ўспамінамі...
Яшчэ — краявідам зімовым,
снегам нашым яшчэ.
Мы госця павезлі ў лес.
І ў лесе тым, казачна-белым,
смяяліся, жартавалі,
гулялі, як дзеці, у снежкі.
А потым, зачараваныя
лясной зімовай казкай,
змоўклі, глядзелі сцішана,
як лес яшчэ больш святлее,
як лётаюць, кружаць сняжынкі,
як лёгка падае снег...
Вярнуўшыся на радзіму,

поўны ўражанняў новых,
Андрэй напісаў тут жа верш,
які быў прызнаны ў Сафіі
лепшым вершам года,
які быў так і названы:
«Беларускіснег».
Калі хто не ведае твора,
паслухайце, як ён гучыць
у перакладзе Гілевіча,
як пачынаецца ён:
«Над прасторам анямелым,
над гуртамі срэбных стрэх —
кружыць дзіўны, кружыць белы,
беларускі кружыць снег...»
(І тут ж а за ў кажу: нядаўна
ў сваім старым блакноце
знайшоў я таксама радкі,
што звязаны з той падзеяй.
Верш так і не быў скончаны,
ды раз такая нагода,
то прывяду радкі:
«Глядзеў наш балгарскі брат,
як падаў снег — светла і чыста.
Нібы адбываўся абрад
нашага пабрацімства...»)
Спачатку быў наш снежань,
быў наш беларускі снег.
А потым Андрэй Германаў
паклікаў мяне ў госці:
«Давай прыязджай хутчэй!
Лепшы для гэтага час,
калі ўжо май на зыходзе,
а лета на самым пачатку,
калі паспявае чарэшня,
але няма яшчэ спёкі
і ажыятажу турысцкага
на нашых крутых дарогах.
Чакаем цябе — і я,
і нашы сябры агульныя,
і мой Фіат Жыгулевіч
(або — Жыгуліна Фіатаўна;

двайным, як бачыш, імем,
ахрысціў я сваю машыну,
што выпусціў ваш завод).
Паездзім, пабадзяжнічаем
па роднай маёй, камяністай,
па горнай маёй зямельцы...»
Так яно і было.
Андрэй паказаў мне Сафію
і гордасць Сафіі — Віташу,
якая дні два была
ў тумане (ці, можа, у аблоках),
ды раптам паўстала ва ўсёй
сваёй прыгажосці горнай...
Яшчэ, перад падарожжам,
сустрэўся з другімі сябрамі,
сустрэўся з Найданам Вылчавым,
з Давыдкавым і Паптоневым,
пагаварылі цёпла,
пакаштавалі ракіі,
віна густога балгарскага.
І вось, знайшоўшы момант,
Андрэй сказаў: «Пара!»
Агледзелі ўсебакова
наш Фіат Жыгулевіч
(яна ж Жыгуліна Фіятаўна).
Сабралі карты, блакноты...
Што яшчэ было трэба,
што трэба было яшчэ ўзяць
у такую дарогу?
Помню, у нейкай сувязі
я нагадаў Андрэю,
што маці не раз мне казала,
калі збірала ў дарогу:
«Запас не чыніць бяды».
Андрэй паўтарыў тыя словы
і дадаў у адказ,
што амаль такое ж
чуў ён ад сваёй маці,
якая казала яму:
«Зімою без тарбічкі,
а летам без аблічкі

(без торбы і вопраткі, значыць)
з дому не выходзь...»
Так прыгадаўшы матак,
балгарскую і беларускую,
нібы благаслаўленне ўзяўшы,
крануліся ўрэшце мы.
Мы рушылі на ўсход,
да Чорнага мора, да Варны
(пад Варнаю вёсачка Яварава,
дзе нарадзіўся Андрэй).
Мы ехалі. па зямлі,
якая была для друга
роднай, а для мяне
яшчэ была тэра інкогніта,
ды ўжо адкрывалася мне.
Андрэй дзяліўся са мной
усім, што меў на радзіме.
Дзяліўся сінім небам,
зялёнымі горнымі схіламі.
водарам руж у даліне,
мясцінамі гістарычнымі,
лавандавымі плантацыямі,
помнікамі і крыніцамі
(яны ў Балгарыі разам),
дзіцячымі ўспамінамі,
садамі і вінаграднікамі,
песнямі гайдуцкімі,
вёскамі і гарадамі,
пяскамі залатымі,
зорамі балканскімі,
мілагучнымі трэлямі
варненскіх салаўёў...
Дзяліўся ўсім, што меў
ён на сваёй радзіме.
(«Ты будзь як магнітафон,
ты толькі слухай, запісвай,
а я расказваць буду,
паказваць буду табе...»)
Дзяліўся ўсім, што меў.
І абяцанай чарэшняй,
што якраз падаспела

да нашага падарожжа.
Калі прытамляў крыху рух,
зганялі наўзбоч машыну,
а самі лезлі на дрэвы
(Андрэй тут паказваў прыклад),
і такім натуральным,
такім першабытным чынам
мы здабывалі чарэшню,
свежую, сакавітую,
елі ўдосталь, усмак.
(Нямала ёсць пераваг
у тым птушыным спосабе
здабывання ежы.)
Добра падмацаваўшыся,
заадно — наталіўшы смагу,
заадно — крыху адпачыўшы
(вось што такое чарэшня,
калі есці проста з дрэва!),
ехалі мы далей...
Андрэй дзяліўся ўсім,
што толькі меў на радзіме.
А меў нямала ён.
Калі праязджалі праз вёску
з назвай такой славянскай —
Жытарава (ад «жыта»),
ён мне з усмешкай сказаў:
«Толькі ў гэтай вёсцы
Ў мяне не менш як паўсотні
стрыечных дзядзькоў і цётак,
стрыечных братоў і сясцёр...»
Ехалі мы далей.
Андрэй з усмешкай той жа
і крыху больш шматзначнай
сказаў: «У наступнай вёсцы
зробім маленькі прыпынак,
і я цябе пазнаёмлю
з дзядзькам сваім адным.
З усёй сваёй раднёю,
як ты ўжо здагадаўся,
я не змагу пазнаёміць
пры ўсім маім жаданні.

Ды з гэтым сваім дзядзькам,
з кавалём і вінаградарам,
з цёзкам сваім Андрэем,
з Германавым Андрэем,
хачу пазнаёміць цябе...»
Германаў, той, што дзядзька,
сустрэў нас каля хаты,
новай, дагледжанай, чыстай
(не хата, а заглядзенне!),
павёў у хату нас,
гасцінна паставіў чарэшань
(так, гэта былі зноў яны!):
«Частуйцеся на здароўе».
І тут жа спытаўся ў мяне,
з пляменнікам любым сваім
па-змоўніцку пераглянуўшыся:
— Ну, як Балгарыя наша?
Відаць, спадабалася вам?
— Ці спадабалася? Дзіва што!
Яшчэ б ды не спадабацца! —
пачаў я з захапленнем.—
Такі цудоўны край!
Такі разнастайны, багаты!
Чаго ў вас толькі няма!
У вас і горы, і долы,
і вінаград, і чарэшня...
— І ёсць усе поры года! —
узяў падхапіў нечакана
Германаў, той, што старэйшы,
і, глянуўшы зноў на пляменніка,
у тым жа тоне дадаў:
— Ёсць усе поры года,
усе чатыры сезоны:
зіма, вясна, лета, восень...
Я тут крыху апешыў
ад такой павароткі тэмы.
Збянтэжана глянуў на сябра:
«Давай выручай, калега!»
На дзядзьку глядзеў запытальна:
«Жартуе ён ці ўсур'ёз?»
А той з усмешкай гуллівай

глядзеў на нас з Андрэем:
якое, маўляў, уражанне
робіць яго «дасведчанасць»,
робяць словы яго?
Трэба было мне змірыцца
з тым, што ў сваім захапленні
узяў я занадта высока,
што трэба збавіць пафас
хаця б на паўтона ніжэй.
— Ну так,— працягваў я,
падладжваючыся пад жартоўны,
пад гуллівы тон балгарына,
з якім, як я зразумеў,
трымаць трэба вуха востра.—
Ну так, усё ў вас ёсць,
ёсць усе поры года.
Узяць вось, напрыклад, лета.
Слаўнае лета ў вас...
— І слаўная будзе восень,—
працягваў гульню сваю дзядзька,
мы маем у наяўнасці
чатыры выдатных пары.
— Усе чатыры сезоны,—
не вытрымаў і пляменнік,—
у нас як мае быць!
— І усе чатыры вятры
дзьмуць у вас паўнацэнна? —
працягваў я далей.
— Ну так, ну так, вядома...
Вятры ў нас проста на славу.
— Вятры, і сонца, і дождж...
— І, значыць, круглы год
вам ёсць чым ганарыцца?
Ёсць радавацца чаму?
— Так, так, і мы гатовы
па-братняму з вамі дзяліцца
багаццем усім сваім,
як гэтаю чарэшняй...
Так жартавалі мы
ў вясковай балгарскай хаце,
чыстай такой, такой светлай,

гасціннай і мудрай такой.
Так я гасцяваў на зямлі
сябра свайго Андрэя,
так я адкрываў яе
людзей, прыроду, надвор'е...
Прыгадваў я потым не раз
той жарт старэйшага Германава
і думаў аб тым, што ён
наўрад ці хацеў пакепліваць
з майго адкрыцця Балгарыі,
з турысцкага ззяння майго.
Не меў ён і намеру
рабіць мне, госцю, праверку
на здольнасць валодаць гумарам,
які назіраў я там скрозь.
Калі я не памыляюся,
тлумачыцца ўсё прасцей.
Вуснамі дзядзькі паэта,
каваля і вінаградара,
смяяліся, гаварылі
сялянская прастадушнасць,
душэўнае тое здароўе,
адна з умоў якога —
чуццё прыроды роднай,
глыбокая злітнасць з ёй.
Ну, і, вядома, быў гумар,
што так уласцівы балгарам
(стагоддзі турэцкага рабства
не дасягнулі свайго!).
Ну і, вядома, была
любоў да роднай краіны,
і да яе прыроды,
і да пагоды яе.
І я з сваёй Беларусі,
то снежнай, то зялёнай,
то сонечнай, то дажджлівай,
багатай таксама на ўсё,—
сардэчнае шлю прывітанне
маім сябрам балгарскім,
двум Германавым Андрэям,
пляменніку і дзядзьку,

пісьменніку і кавалю.
Жадаю ім, каб спорна,
каб добра, каб паўнацэнна
змяняліся поры года,
каб ім у жыцці спрыялі
усе чатыры сезоны,
усе чатыры вятры!

**Эскурс пяты**
**ПЕРШЫЯ МАЁЎКІ**

*У сувязі з І Мая ўспамінаецца некалькі маёвак, у якіх прымаў удзел Уладзімір Ільіч.*

Н. К. Крупская. Ленін на маёўках

Першыя нашы маёўкі.
Вяртанне птушак з вандровак.
Ластавак першых шчэбет.
Жаўранка спеў у палях.
А мы спрабавалі крылы
пад сінім небам маёвак,
а мы збіралі сілы,
а мы выбіралі шлях.
Блакіт быў колеру неба,
колеру летуцення.
Святло было колеру сонца,
колеру нашых надзей.
А зелень — колеру лісця,
колеру шалясцення,
голасу жывога —
і дрэў, і траў, і людзей.
Прырода была разам з намі
у нечым самым істотным,
у нечым глыбінным, адвечным
з намі была заадно.
Яна нас вучыла цярпліва,
як быць у змаганні нястомным,
спрыяла нам верыць і марыць,
натхняла рабіць дабро.

Мы вясне адкрывалі
сэрцы і ідэалы,
вясна адкрывала насустрач
нам светлыя далі свае.
Зліваліся, супадалі ідэалы і далі,
і будучыня ўяўлялася нам
у тым дзіўным святле.
Блакіт быў колеру неба,
колеру летуцення,
Святло было колеру сонца,
колеру нашых надзей.
А зелень — колеру лісця,
колеру шалясцення,
голасу жывога —
дрэў, і траў, і людзей.
А чырвань — колеру вогнішч,
што раскладалі на ўзгорку,
колеру нашага гневу,
колеру нашай крыві...
Маліцца мы не ўмелі,
ды бачылі ў небе зорку.
Ішлі пакланіцца прыродзе,
напіцца з яе крыніц.
У першых нашых маёвак
быў першай любові прысмак.
У першых нашых спевак
гарачы, як прысак, быў шэпт.
З вясновых агеньчыкаў тых
запальваў агонь свой
Кастрычнік.
З пунсовых праменьчыкаў тых
рабіў сабе сцяг Новы свет.

## ЛІВЕНЬ СТАГОДДЗЯ У МІНСКУ

*Самая рэкордная сутачная колькасць асадкаў у Мінску за сто гадоў была зарэгістравана 9 ліпеня 1973 года. Тады іх выпала семдзесят чатыры міліметры.*

З паведамлення Гідраметэацэнтра

Як сведка падзеі
удакладняю дату я:
было гэта ў ноч
з восьмага на дзевятае.
Зблытаць ніяк не магу,
бо сведчыць тут смела
памяць тым ліўнем
да костак прамытага цела.
Зрэшты, таму і кажу,
таму гэты верш і пішу я,
што знаць дае памяць
да ніткі прамоклай кашулі...
Было гэта так.
Вяртаўся з гасцей я дадому.
Стаў раптам накрапваць дождж.
З ветрам, але без грому.
Аўтобус ужо не хадзіў,
таксі ніяк не траплялася.
Затое нябесная прорва
ўсё больш і больш раскрывалася,
І вось ён пайшоў,
і вось гэты лівень пачаўся!
Якое «пайшоў» там!
Як з бочкі паліўся, памчаўся!..
«Пасля хоць патоп!»
Не думаў кароль пра патомка.
Сюды б яго ў гэты паток,
яго, самадура, падонка!
Так першую злосць
сарваў я на гора-манарху,
калі ўжо лівень наскрозь
пранізваў маю апранаху.
А потым, калі я,
мокры ўжо зверху данізу,
хаваўся пад нейкім
дзіравым, як сіта, карнізам;
а потым, калі ўжо
ачуньваў ад стадыі шокавай,
апёршыся локцем
на згіб трубы вадасцёкавай;

а потым, калі ўжо
пад плёскат і гул вывяржэння
вярталася здольнасць
думаць, прымаць рашэнне,—
другую ўжо злосць
зрываў на ўласнай асобе я:
«Яно так і лепш,
што трапіць пад лівень собіла!
Так, значыць, і трэба табе!
Так, значыць, табе і трэба!
Так, так, прымі гэты душ,
прымі гэты ліўневы цэбар!
Ты маеш дах і ачаг,
вось і сядзі там у непагадзь
і не хадзі па начах,
не лезь пад адкрытае неба хоць!
Тым больш — у пару навальніц,
калі можа лівень ліць
тым больш — пры такой пагодзе,
такі, што адзін на стагоддзе.
Разважней назаўтра ў акне
ці ў лоджыі дыхаць азонам…
Наогул не лезь на ражон,
а лепш трымайся рэзону!
Правілы больш паважай
і меней рабі памылак!
Болей табе б такіх,
як гэта,
галавамыек!..»
Мерка жыцця ўсё ж:
«Ёсць ці няма што ўспомніць?»
Помняцца лівень той
і тая мая самаспаведзь.
Успамінаю з усмешкаю
сёння аб той прыгодзе:
«Не затрымайся ў гасцях —
праспаў бы лівень стагоддзя».

**Эцюд шосты**
**СОНЦА ПАКЛІКАЛА!**

*За акном — вясновае сіняе неба. І ў нейкі момант узнікла такое адчуванне, што не проста хацеў пайсці, а што паклікала сонца.*
Запіс у дзённіку
ад 6 красавіка 1976 года

З раніцы дома не сядзелася,
з раніцы ўсё ў акно глядзелася,
туды, дзе займалася святло.
А са святлом чаканне расло.

Такое было адчуванне, як быццам
нешта павінна вось-вось адбыцца,
як быццам вось-вось збудзецца цуд,—
толькі па той бок акна, а не тут.

Яшчэ адчуванне было такое,
што нечы кліч не дае спакою,
што нехта кліча раз-параз
і трэба адклікнуцца ў адказ.

Вызваліў я акно ад шторы —
і ўбачыў я сонечныя прасторы,
і ўбачыў я сонца само ў акне...
Клікала, значыць, сонца мяне!

Планета з планет, са свяціл свяціла,
сонца з'яўленне сваё абвясціла!
Сонца мяняла зямны наш настрой!
Выходзіў я ў сонечны прастор...

Думкі адкідваў я паніклыя —
сонца паклікала!
Білася ў сэрцы радасць вялікая —
сонца паклікала!
Дзень свой лічыў па новаму ліку я —
сонца паклікала!
Сонца паклікала, запрасіла,
дзялілася светлай сваёй сілай!
Сонца паклікала, знак падало...
Свята святла! Свята святло!

## СОН ПАД ШУМ ЗІМОВАГА ДАЖДЖУ

*Ідзе дождж (у студзені!). Б'е, барабаніць па вокнах. Усё змясцілася, змяшалася ў прыродзе.*
Запіс у дзённіку ад 6 студзеня 1975 года

*Што за акном? Неба шэрае, густа абкладзенае хмарамі. Цяпла ўсё няма і няма — як быццам яго дасць потым зіма.*
Запіс у дзённіку ад 16 чэрвеня 1976 года

Не край залатога руна,
не востраў скарбаў і дзіваў,—
снілася мне старана,
падобная на радзіму.

Там рэк малочных няма,
няма берагоў кісельных.
Ды там зіма як зіма,
там лета — без хмар асенніх.

Зімой там — гул завей
ды ценьканне сініцы,
а летам там — жуpавель,
ды сонца, ды суніцы.

Што лепей — сініца ў руцэ
ці жураўель у небе? —
я не рашаў у сне.
Усё, што ў пару сваю,— лепей.

Луналі таму нада мной
іншыя шчасця прыкметы:
бялее снег зімой,
квітнее квецень летам...

## Экскурс шосты
## СТУДЗЕНЬ 1924 ГОДА СМЕРЦЬ ЛЕНІНА

*— Марозіць усё больш і больш...*
*— Цяжка капаць яму магілу...*
*— Ільіч не хоча ісці ў зямлю.*

В. Д. Бонч-Бруевіч. Пахаванне
Уладзіміра Ільіча

Магчыма, што так яно і было.
Як пры жыцці не прымаў ён зло,
так не прымаў ён, мёртвы,
холад зямлі мёрзлай,
зімовай зямлі немату, слепату...
Птушкі мёрзнуць на ляту.
Кастры на плошчы паляць...
Вечная памяць!

Магчыма, што так яно і было.
Як Праметэй, ён нёс цяпло,
ён узнімаў, як светач,
над зямлёй чалавечнасць.
Хацеў ён ад цемры, ад слепаты,
ад той спрадвечнай мерзлаты
зямлю адагрэць, адтаяць...
Вечная памяць!

Лютуюць сцюжа і замець...
Вечная памяць!

Магчыма, што так яно і было.
У ГОЭЛРО, як у дабро,
як у новае сонца,
ён верыў шчыра і моцна.
Кінулі выклік прырода і лес.
Але ўжо ні смерць і ні мароз
той веры зямлю не пазбавяць...
Вечная памяць!
Кастры на плошчы паляць... Вечная памяць!

## ПЕРАД СВЯТАМ ПАЭЗІІ Ў ВЯЗЫНЦЫ

У нейкі жыццёвы міг,
на нейкай вярсце жыццёвай
прыслухаўся я, прыціх,
і ўлавіў мой слых
ціхі шэпт раніцовы.
Шапталіся вецер з дажджом,
шапталіся хмара з зямлёю,
шапталіся дождж з лісцём...
І нехта шаптаўся са мною.
І ўжо не слыхам — душой
адчуў я, што пошум той дзіўны —
не проста вецер з імжой,
а голас самой Радзімы.
Прыйшла і шаптала: «Мой сын!
Была я, я ёсць і буду!
Буду да вечных часін
явай тваёй, тваім цудам.
Нішто не падзеліць нас.
У нас шлях і лёс адзіны...»
У гэты ранішні час
усё было — ад Радзімы.
І след дажджу на акне,
і першая чырвань рабіны —
усё было — ад Яе,
усё было — ад Радзімы.
І вецер, што ціха пяе,
і жыта разліў неабдымны —
усё было — ад Яе,
усё было — ад Радзімы.
Наяве было, як у сне,
усё ў гэта ранне летняе...
Усё было — запаветнае,
усё было — ад Яе.
Я ёй падбіраў імя,
шаптаў я ў душэўным уздыме:
«Госпадзі, Гаспадыня,
Святыня, Маці мая...»
Калі выбіраўся я ў шлях,

было святочна і ясна.
Радзімы ўвесь абсяг
бачыўся мне выразна...

## Эцюд сёмы
## ТРЫ ДНІ ЗБІРАЎСЯ ДОЖДЖ...

Тры дні збіраўся дождж...
Дзе парасон і плашч!
Тры дні збіраўся дождж.
Згушчаліся аблокі.
Тры дні збіраўся дождж...
Тры дні збіраўся плач.
І вось, нібы сігнал,
гром прагрымеў далёкі.
Тры дні збіраўся гром
там, недзе ў вышыні.
Тры дні збіраўся боль
тут, у глыбіннай нетры.
І вось раздаўся гул
ў трывожнай цішыні.
І развітальны звон
разліўся ў паветры.
Час надышоў,
калі гаворым мы «бывай»,
калі гаворым штось,
а словы мала значаць,
калі замала рук —
як ты ні абдымай,
калі як ні глядзі —
а вочы мала бачаць.
Кашчунна гаварыць,
калі той гук — пусты.
Кашчунна абдымаць,
калі ўтрымаць не ў стане.
Кашчунна бачыць,
як бяссільны бачыць ты,
як на тваіх вачах
збываецца расстанне.
Кашчунна жыць,

калі
мы не жывём, а снім,
ўслед позіркам глядзім
такім бездапаможным,
калі з уласным сэрцам,
са шчасцем са сваім
мы крута гэтак абысціся можам...

Тры дні збіраўся плач.
Тры дні ці тры гады?
Згушчаўся камячок,
падкотваўся да горла.
Ішоў дождж з году ў год,
быў плач гады ў рады.
Ты горкі той камяк
насіў маўкліва, горда...
Тры дні збіраўся дождж.
Збіраўся плач тры дні.
І вось світальны гул,
і звон той развітальны,
і дождж, што з вышыні,
і плач, што з глыбіні,
зліліся ўраз ў празрыстасці крыштальнай.
Зліліся гром і боль,
зліліся дождж і плач...
Акно не зачыняй,
хай дождж ідзе, як хоча,
хай дождж ідзе ў пакой...
Што парасон і плашч!
Ды дзверы зачыні,
ключ павярні ў іх двойчы.
Ключ двойчы павярні.
Застанься толькі сам.
Не той выпадак,
дзе патрэбны сведкі.
І волю плачу дай,
дай выліцца слязам.
Не часта плач да нас прыходзіць гэткі.
Ён — дар, як дар любві,
дар радасных удач...
Хай барабаніць дождж,

па шыбах хай сцякае.
А ты паплач, паплач,
а ты паплач, паплач,
а ты паплач, паплач,
нагода раз такая...
А ты паплач, паплач,
а ты паплач, паплач,
раз хочацца плакаць —
паплач...

## КАЗАЧНЫ МАТЫЎ

*Дзяўчынка:* Што?.. Хто?.. Хто ты такі?

*Вецер:* Я вечны вецер — Гуляй па свеце..
Ты плачаш? Табе вельмі шкада
Невядомага салдата?

*Дзяўчынка:* Шкада, вельмі шкада... Ён зусім невядомы.

З п'есы «Скажы свае імя, салдат»

Ветрана, ветрана... Чуеце, дзеці?
То Вечны вецер — Гуляй па свеце.
Ён недзе тут, ён недзе побач.
Ён прылятае заўсёды пад поўнач.
Ветрана, ветрана... Слухайце ўважна.
То Вечны вецер спявае працяжна...
«Я Вечны вецер — Гуляй па свеце.
Не тут і не там я, заўсёды я недзе.
Нідзе я не днюю і не начую,
заўсёды лячу я.
Заўсёды лячу я і чую ўсё я.
Чую ўсё добрае і злое.
Чую заўсёды ваш плач дзіцячы,
ваш шэпт гарачы.
Не проста лятаю-гуляю я ў полі.
Збіраю ўсё крыўды я і болі.
Тых, хто загінуў, не забываю,
я іх адпяваю.
Што чую я — помню, што помню — нашу я.

Выходзіць, дзеці, што маю душу я.
Бывайце, дзеці, пара вам спаць, дзеці,
а мне — ляцеці...»

## Экскурс сёмы
## ЛІПЕНЬСКАЯ СПЯКОТА
## І ПАДЗЕННЕ КАБІНЕТА МАКМІЛАНА

### І . Спрэчка гісторыка з сіноптыкам

Не мы надвор'е робім? Што ж,
вы маеце, пэўна, рацыю.
Не мы рабілі гэты дождж
і гэтую ясную раніцу.
Ад нас не залежыць зыход зімы
ці летніх цыклонаў узровень...
Словам, не робім надвор'е мы?
Ды нас надвор'е робіць?
Гэта другое пытанне зусім.
Мы нават не падазраваем,
як мы залежым ад лет і зім,
ад хмар, што ходзяць над краем.
Ты думаеш вецер кружыць, і ўсё.
А гэта— фартуны калясо,
ласо яе менавіта.
А гэта — твая планіда.
Надвор'е выкіне часам курбет,
мяняе што ход гісторыі.
Возьме і... звергне кабінет.
Скажам, Макмілана — торы.
Не разумееце, пры чым
Макмілан з яго кабінетам?
Бо ў лёсе яго, між іншых прычын,
замешана лета пры гэтым.

### 2. Ну, і пагода была!

Ну, і пагода была — ну, і пагода! —
восьмага ліпеня шэсцьдзесят першага года!
(Маю на ўвазе апошні век нашай эры,

не маю намеру кранаць герадотавы сферы.)
Ну, і пагода была,— ну, і спякота! —
восьмага ліпеня шэсцьдзесят першага года!
Дыхнуць не было чым
у душным, спякотным Лондане.
Імчалі да Кліўдзена
«ролс-ройсы» з ледзі і лордамі.
Асобы важныя з сваімі
задышкамі, астмамі
імчаліся ў Кліўдзен,
дзе царавалі Астары.
Імчаліся ў Кліўдзен,
дзе ім рабілі ласку —
мікрапагоду стваралі
па-боску, па-царску.
Ну, і спякота была!
Ну, і спякота!
Ратунак адзін быў —
гэта мікрапагода.
Імчаліся ў Кліўдзен,
дзе ў райскіх цяністых шатах
астыць было можна
ад спраў, у сталіцы пачатых.
Імчаліся ў Кліўдзен,
дзе можна было астудзіцца,
прахаладзіцца, а заадно — разрадзіцца.
Ехалі ў Кліўдзен
госці ў асноўным званыя.
велікасвецкія,
тытулаваныя,
знаныя.
Напрыклад, імчаўся,
уцякаў ад спякоты і шума
ваенны міністр — запомнім імя —
Джон Праф'юма.
Імчаліся тыя,
хто знаў смак у мікраклімаце.
Збіраліся тыя,
хто быў за свайго тут у Кліўдзене.
(За рэдкім, быць можа,
ўсяго за адным, выключэннем.

Аб ім мы ніжэй
дазнаемся з засмучэннем.)
Ну, і пагода была!
Ну, і спякота!
Ну, і уік-энд быў!
Ну, і субота!
Ну, і гулі, і пілі,
ну, і хлябталі бяздонна,
як п'юць у спякотныя дні
ў лепшых дамах Ландона.
(Не думаў Праф'юма,
што прагі вялікай няўтольнасць
зніжае брытанскую абараназдольнасць.)
Здаецца, пілі ўжо ўсё,
што п'юць джэнтльмены ў ліпені.
Ды смагу ўталіць не маглі,
хоць шмат чаго выпілі.
Тады нехта ўстаў і сказаў:
«Ледзі і джэнтльмены!
Кактэйль незаменны быў,
кактэйль быў проста адменны.
Ды мушу вам нагадаць
закон Архімеда мудры:
каб смагу ўталіць як след,
мала ліць вільгаць унутр.
Патрэбна яшчэ, сябры,
каб вільгаць была і звонку.
Я маю на ўвазе басейн...
Канчайце, панове, гамонку!»
І тут папярхнуўся
ваенны міністр Праф'юма.
На дно свайго келіха
чамусьці ўгледзеўся хмурна.
Калі ж зноў паклікалі:
«Панове у парк, калі ласка!» —
міністр адчуў:
кальнула, як ток,
апаска.
Ва ўсякім выпадку,
калі ішлі паркам цяністым,
міністр Праф'юма

яшчэ не быў аферыстам.
Не быў аферыстам,
ды быў на шляху да скандала.
«Будзем купацца?» —
красуня ў міністра спытала.
Пайшла, на хаду
стала спаднічку расшпільваць.
Праф'юма адчуў:
слабее ваенная пільнасць.
Калі ж ён убачыў:
далей распранаецца Крысцін,—
ён зразумеў:
вось дзе ён — д'ябал, нячысцік.
Заўважыў Праф'юма,
які ў той Крысцін купальнік,
адчуў: гіне ў ім
буйны военачальнік.
Ну, і пагодка была!
Ну, і спякотка!
Крысцін не йшла, а плыла…
Ну, і паходка!
Калі ж пачала
Крысцін скідаць і бікіні,
Праф'юма адчуў,
што лёс яго хутка пакіне.
Крысцін, ты хто?
Багіня? Шоу-гёрл? Какотка?
Ну, і пагодка была!
Ну, і спякотка!
Ну, і спякотка была!
Ну, і знаходка!
Зайграла ў Праф'юма
кроў італьянскага продка.
У нейкі міг ён спасціг,
што хоць гэта ўсё і занадта,
ды ўжо не памогуць яму
ні бог, ні саюзнік па НАТО.
Калі ж пайшло тое
воднае пола, як кола,
не столькі міністрам ён быў,
колькі носьбітам пэўнага пола.

Не, ён да таго не дайшоў,
здымаць каб публічна плаўкі.
Ды Крысцін, шоу-галышом,
проста вяла да адстаўкі...
Ну, і пагода была!
Ну, і прыгода! —
Восьмага ліпеня шэсцьдзесят першага года.
Ну, і спякота была!
Ну, і пякла, зараза!
Шкодзіла ўраду больш,
чым уся апазіцыя разам.
Ну, і пагода была!
Гарэла міністра кар'ера.
Ну, і спякота была!
Гарэла кар'ера прэм'ера...

### 3. Дакументальны эпілог

Каб пацвердзіць, што аўтар нічога не выдумаў і ішоў ад рэальных падзей, спашлюся на сведчанне аднаго з замежных публіцыстаў (скандал з Праф'юма быў імі пасмакаваны больш чым дастаткова). Ён, у прыватнасці, піша: «Прычынная сувязь наступных падзей і таго ліпеньскага дня зусім відавочная: калі б Крысцін Кілер не зняла купальнік і не ўзнікла перад усімі ў нясціплым выглядзе, яе, магчыма, і не заўважыў бы адзін з гасцей, а менавіта міністр Джон Праф'юма. А калі б не заўважыў, то і не завязаў бы з ёй раман. А калі б не гэты раман, то справа не дайшла б да хлуслівых тлумачэнняў міністра ў палаце абшчын. Такім чынам, калі б Праф'юма не хлусіў, прэм'ер Макмілан, відаць, не падаў бы ў адстаўку».
І ў заключэнне яшчэ адна дэталь. Па сведчанню таго ж публіцыста, калі на з'езде кансерватараў вырашаўся лёс урада Макмілана, то дэлегаты адна душна пагадзіліся на тым, што вінавата ва ўсім... яна. Праўда, нічыё імя не называлася. І таму заставалася загадкава-няпэўным, хто ж

менавіта яна? Жанчына? Нячыстая сіла? Ці летняя спякота?..

## СЕЗОН ДАЖДЖАВЫХ ЧАРВЯКОЎ

Ці браў хто спакон вякоў,
да гэтага адвячорка,
тэму чарвякоў?
Ну, там... зара ці зорка,
світанак ці раса,
ці светлы воблік каханай,
ці іншых матэрый краса...
А тут чарвяк паганы!

І тым не менш такая тэма дала раптам знаць пра сябе. Здарылася гэта пад вечар 14 красавіка 1978 года. Я вяртаўся дадому, заняты сваімі думкамі і дзённымі ўражаннямі, вяртаўся пад ціхі пошум аднаго з першых дажджоў новай вясны. Дожджык прыемна асвяжаў, хаця ішоў яшчэ неяк нясмела, неяк няўпэўнена, як быццам яшчэ не разышоўся належным чынам, не адчуў дастаткова сваёй пары і сваёй сілы. І тут я ўбачыў, ледзь не пад нагой, аднаго чарвяка, потым — другога, трэцяга... Ішоў далей і бачыў усё той жа малюнак і пераконваўся, што маю справу з не зусім звычайнай з'явай прыроды. Сялянскі сын, я ведаў дажджавых чарвякоў з дзяцінства. І колькі разоў бачыў іх потым і ў вёсцы, і ў горадзе, і на якой-небудзь далёкай дарозе, бачыў іх, гэтых не самых імпазантных стварэнняў прыроды, але затое самых нязменных спадарожнікаў цёплых дажджоў. І заўсёды стараўся абысці іх стараной — або не звяртаючы асаблівай увагі, або з унутранай агідай, у залежнасці ад стану... Але на гэты раз абысці іх без увагі было немагчыма. Справа ў тым, што ў гэты, насычаны цёплай
дажджавой вільгаццю, адвячорак чарвякоў з'явілася надзвычай многа. Яны, як я ўжо казаў,

трапляліся на кожным кроку. Прытым як бы свядома стараліся быць у самым цэнтры руху, на самых вачах. Кідалася ў вочы і тое, што чарвякі прыстройваліся чамусьці менавіта на тратуары, на яго асфальце і бетоне, на найбольш, так сказаць, цывілізаванай частцы вуліцы (падумалася з усмешкай: «Урбаністычна настроеныя чарвякі...»). І паколькі гэта было так, і паколькі іх з'яўленне мела масавы характар, то ўзнікала недаўменнае пытанне: «Адкуль яны раптам узяліся? Не з асфальту ж, не з пліт жа гэтых бетонных выйшлі? З дажджом разам выпалі, ці што?» Апошняе меркаванне было, вядома, далёка не навуковым, хаця і магло мець цікавасць як меркаванне навукова-фантастычнае ці як метафарычнае перабольшванне. Як бы там ні было, але калі я вярнуўся дадому і рука сама сабой пацягнулася да блакнота, я зразумеў, што прыйшоў час аддаць даніну дажджавым чарвякам. І стаў накідваць наступныя радкі...

І тут я ўбачыў іх
на тратуарных плітах,
цёплым дажджом залітых,—
іх, чарвякоў дажджавых.
З'явіліся разам з вясной
яны, ружаватыя жгуцікі.
Убачыў, здзівіўся:
«Жывуць-такі!»

Чакалі пары сваёй.
Чакалі дажджу вясновага,
як сезона новага.
І вось адкрылі сезон,
зімовы скінуўшы сон.

Сезон дажджоў веснавых —
сезон чарвякоў дажджавых.

Выходзіць, і ў іх, сляпых,

бяскосных і, можа, бязмозглых,
маюцца нюх і слых
наконт законаў розных.
Ёсць час узыходжання зор,
ёсць час прылёту птушынага...
І ў племя чарвячынага
ёсць свае выхад і збор.
Ёсць час зелянення лоз,
ёсць час з'яўлення оды...
І ў чарвяковай пароды —
свой час, свой чын, свой лес.
Які б ён ні быў мізэрны,
нікчэмны, той лес чарвякоў,
ды, як і спакон вякоў,
чарвяк дажджу свайму верны.
Магчыма, той цёплы дождж,
тая вясновая слата
яму — і жыццё,
                                        і свята,
і раскоша з раскош.
І, значыць, не раз на вяку
трапляецца ўсё ж чарвяку
такая нагода, як гэта.
Ажыў ён у красавіку.
А ўперадзе яшчэ — лета.
Там чэрвень жа як-ніяк!
Будзе дажджоў багата.
І ўжо адсвяткуе чарвяк
на сваёй вуліцы свята!..

Сезон дажджоў праліўных —
сезон чарвякоў дажджавых.

**Эцюд восьмы**
**ЗІМА У НЬЮ-ЙОРКУ**

Рознае тут пабачылі мы.
Бачылі мы і тое, і гэта.
Бачылі барвы «індзейскага лета».
Яшчэ не хапала нью-йоркскай зімы.

Ды вось нечакана, пасля імжы,
марозным цыклонам дыхнуў Атлантычны.
Ударыў холад, не свой, а чужы,
а ім-пе-ры-я-ліс-тыч-ны.
Я не цягну сябе за язык,
каб подых цыклону прыпісваць буржую
ці каб наклейваць палітярлык
на халаднечу тую чужую.
Я ўсёй істотай адчуў сапраўды,
слухаючы завыванне зімовае,
што свае халады — паўбяды,
а сцюжа чужая — ўдвайне суровая.
Сказаў суайчыннiку свайму:
— Пры добрай пагодзе лягчэй на чужыне,
ды сустракаць на чужыне зіму...
Прызнаюся, кроў у жылах стыне.
Сказаў дыпламат: — Вузавэ рэзон
(штудзіраваў ён французскую мову).
І ў тым жа самым прызнаўся ён,
ён гэтак жа зносіў тут сцюжу зімовую...
Белыя мухі снавалі ў вачах.
Слалася шлейфам белая замець.
Вялі мяне сэрца, воля і памяць
туды, дзе свяціўся родны ачаг...

**Экскурс восьмы**
**НЕБА І ЗЯМЛЯ**

*...і Джордж увайшоў у пакой.*
*— На вуліцы дождж,— прамармытаў ён.*
*— Гэта дрэнна,— сказаў Кенэдзі спрасонку. Ён мінуту падумаў, а потым цяжка ўздыхнуў.*
*І ў гэты дзень — забойства Лінкальна — таксама ішоў дождж.*
*Як сказаў спікер палаты прадстаўнікоў Джон Макормак, «яны былі звалены громам з яснага неба».*

Ул. Манчэсцер. Забойства прэзідэнта Кенэдзі

Знаку нябеснага не было.

Нічога воблака не прадвяшчала,
апроч таго, што яно плыло
і дажджавыя кроплі змяшчала.

Знаку нябеснага не было.
Не мела злога намеру хмара.
Зямное дзейнічала зло,
і злу патрэбна была ахвяра.

Знаку нябеснага не было.
Не спела ў хмары боская кара.
Зямное дзейнічала зло,
выбірала мішэнь для ўдара.

І вось была выбрана мішэнь.
Удаўся ён розумам і ростам —
куды прыкметней і вышэй?
Мішэнь была ідэальная проста.

Неба далёка было ад зямлі.
І ўдарыў не гром з яснага неба.
Грымнула стрэлам цёмная глеба.
Глухая падкорка Освальда Лі
раўкнула: «Плі!»

## ПАЎДНЁВАЕ НАЗІРАННЕ

Гэта было ўчора
ці пазаўчора было:
пагода пайшла за мора,
за горы сонца пайшло.
Як быццам былі яны ў змове,
мора з горнайградой,
як быццам стала ўзмор'е
ахвяраю змовы той.
Ці быццам бы нас пакаралі,
нас з марнасцю нашай людской...
Сонца было за гарамі,
пагода — за даллю марской.
Занылі песімісты,

як у вялікай бядзе:
«Дзе ты, дзень прамяністы?
Яснае сонца, ты дзе?»
а ў аптыміста бадзёра
свяцілася чало:
«Пагода пайшла за мора,
сонца за горы пайшло».
Плач ахапіў узмор'е:
«Адкуль пагоду чакаць?
З мора чакаць надвор'я,
што ветру ў полі шукаць».—
«Зусім не чакаць яшчэ горай,—
гучаў аптымістаў хор.—
Прыйдзе пагода з-за мора,
узыдзе сонца з-за гор!»
Я моўчкі выходзіў на бераг.
І ясна было адно мне,
што можна ў пагоду верыць,
а ў непагоду — не.
Яшчэ сам сабе адзначыў:
«Не бачу сур'ёзных нагод
для вельмі вялікага плачу,
для вельмі бадзёрых нот.
Тым болей не нагода —
непагодны час.
Тым болей што пагода
залежыць часам ад нас.
Яшчэ што ад нас залежыць,
дык гэта — быць сабой,
дык гэта — захоўваць свежасць
надзеі сваёй людской...»

І тут я ўступіў у палеміку з адным нашым вялікім сучаснікам, вядомым вучоным, які сказаў:«Калі гутарка ідзе пра пагоду або гульню ў латарэю, то тут надзея не паможа... А калі мець на ўвазе палітыку, узаемаадносіны людзей, то тут мы павінны спадзявацца. Калі ў чалавека ёсць надзея, то ён паводзіць сябе так, каб гэтую надзею ажыццявіць». Я адказваў: «Нават калі гутарка ідзе пра пагоду, надзея мае сэнс. І ў

такім выпадку чалавек, які не траціць надзеі, застаецца ўсё адно ў выйгрышы — з ім была і ў яго ёсць надзея, ён багацейшы за таго, у каго яе няма, і яму ёсць чым падзяліцца з іншымі...»

**Экскурс дзевяты**
**ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ**

Дзевятае мая. Сонца гуляе.
Сонца гуляе. Даль веснавая.
Даль веснавая. Радасць жывая.
Радасць і сонца. Сонца і ціша.
Бачна: галінку ветрык калыша.

Чутна: вярнулася птушка з выраю,
песню спявае сваю ціхамірную.
Звісаюць з нябёс да ўлоння зямнога
плады залатыя жыцця... Перамога!

Перамаглі: гармонія — тлум,
добрая воля — гвалт і глум,
святло — карычневую чуму,
вясна — зіму.

**Заключны эцюд**
**ЗАКЛЮЧНЫ ТОСТ**

За ваша здароўе,
за росквіт парываў і сіл!
За ваша надвор'е —
каб светлы быў ваш небасхіл!
За ваша здароўе —
здаровыя цела і дух!
За ваша надвор'е —
каб ваш не спыняла рух!
За ваша здароўе —
за стойкасць і жывасць душы!
За ваша надвор'е —
за цёплыя вашы дажджы!

За ваша здароўе,
за вашу любоў і красу!
За ваша надвор'е,
за новую вашу вясну!
За ваша здароўе,
што робіць надвор'е падчас!
За ваша надвор'е,
што робіць здаровымі вас!
За ваша здароўе,
за ваша надвор'е, сябры!
За лес двухадзіны,
за лес наш адзіны, зямны!

## 3

### СТУК МАЛАТКА.
### ПАЧАТАК ПАСЯДЖЭННЯ
### Рэпартаж з Генеральнай Асамблеі ААН

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Глядзіць на залу са свайго ўзвышэння,
ацэньваючы момант, старшыня.
Нагадвае парадак дня.
Стук малатка гучыць накшталт сігнала —
сказаць, што не сказала яшчэ зала.
Раз маеш слова, зала,— гавары!
Свет словам ўдасканальвай і твары!

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Тут штось ад рытуалу пасвячэння:
«Мы, Аб'яднаных Нацый люд,
выносім злу і войнам свой прысуд...»[4]

Не слова, можа быць, было ў пачатку.
Ды ў слова веру я ў любым выпадку.
І гавару я: «Слова, ты гучы!
І хай маўчаць гарматы і мячы!»

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Прыўзнята-урачыстае ўзрушэнне
чуваць у першых словах старшыні,
у стоенасці цішыні.
Вось на трыбуну ўжо ідзе прамоўца.
Не дзеля краснага, здаецца, слоўца.
Ёсць словы — пустазелле, пустацвет.
Не імі славіцца зямны наш свет.

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Пайшла па зале сакратарка Джэні,
панесла дэлегатам прэс-рэліз,

[4] Перафразіроўка слоў са Статута ААН.

шматзначна вочы апусціўшы ўніз.
Як у стыхій, прыродных і жыццёвых,
ёсць сіла ачышчальная і ў словах.
Жывое слова часам робіць цуд,
з сумлення і душы змывае бруд.

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Якое ў сэнсе ліку і значэння —
няважна,— важна, каб у добры час
прамоўлены быў першы сказ.
За шыльдачкай прызнанай «Беларашн»
мы ў зале на чале з міністрам нашым.
Вайну ён зведаў, партызан былы,
з трыбуны тут вядзе за мір баі.

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
Гляджу, якое ў нас тут акружэнне.
Не дзеляцца кітайскаю сцяной...
Бахрэйн — насупраць, Кіпр — за спіной,
Бурундзі — злева, а Канада — справа.
Алфавітнае дзейнічае права.
Агульныя алфавіт, зала, час...
А як наконт агульнай мовы ў нас?

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.
І мроіцца: знікае адчужэнне.
І верыцца: скрозь церніі і змрок
наперад робіць чалавецтва крок.
У слоў, як і ў гадоў, сваё злічэнне,
у слоў, як і ў планет, сваё вярчэнне,
свае арбіты, свой кругазварот...
Хай кажа слова чалавечы род!

Стук малатка. Пачатак пасяджэння.

## ПЛАТНЫ МОСТ

Мы выбіраем шлях наўпрост.
Нас вабіць зелень, гладзь рачная.
Ды бачым знак, ён азначае,
што перад намі — платны мост.
Ужо даўно адкрыта ты,
даўно абжыта ты, Амерыка.
Ды, як Калумб, крычу я: «Эўрыка!
Я бачу платныя масты!»
Той знак мільгае ўсё ў вачах.
Ён мае бізнес на прыкмеце:
раней, чым выбраць мост і шлях,
правер, ці ёсць што ў партманеце.
Мне робіцца не па сабе.
Хадзіў і ездзіў ты нямала.
Масты страчаліся, бывала.
Ты чуў, як дзеўчына спявала
у маладой сваёй гульбе:

> «Цераз рэчку быструю
> я масточак выстраю.
> Хадзі, хадзі, мілы мой,
> хадзі летам і зімой».

Ты ведаў: іншаю цаной
знаходзім бераг, веру, мэту:
А тут табе: «Гані манету —
і супрацьлеглы бераг твой...»
Няцяжка уявіць мой стан,
як вырас бераг у рэальнасці.
Ілюзія недасягальнасці
развейвалася, як туман...

## МОГІЛЬНІК МАШЫН

Самотны выгляд кінутых машын,
машын без чалавека і без шын,
машын без вокан, без руля, без фар,
машын-ахвяр...

(«Знімаюць нумар і кідаюць. Хто на абочыне, за горадам, а хто і проста на гарадской вуліцы... Чаму, у якім выпадку гэта робяць? Тады, калі машына выходзіць са строю і яе трэба рамантаваць. А рабіць рамонт нявыгадна, бо гэта дорага каштуе. Для таго каб адвезці машыну на звалку, трэба таксама заплаціць не менш чым 30 долараў. Вось і стараюцца пакінуць яе тайком, нелегальна. Папярэдне зняўшы нумар... Потым машыну разбіраюць негры — на запасныя часткі для сваіх майстэрняў».)

Ахвяр — чаго? Абставін? Волі злой,
што абыходзіцца без літасці?
Ахвяр нявернасці людской,
людской празмернасці і сытасці?
Дзе тыя добрыя вякі,
дзе тыя мудрыя часіны,
калі з ашчаднасцю шчаслівай
мы падбіралі гайкі і цвікі?..
— Чакайце, гляньце, ну, а гэта што?
Направа, ля падножжа схіла...
— А гэта, гэта могільнік аўто,
сказаць інакш: іх брацкая магіла.
Шафера я прашу: «Прытармазі.
Такога і ў жыцці не ўбачым мы
на нашай Белай і на ўсёй Русі,
хоць свет стары нанова перайначылі...»
Спыніліся, стаім, глядзім.
Металалому груды — тыя могілкі.
Так, мала тут здаровай логікі.
Так, сапраўды тут крах ды прах адзін.
Калі ж мы зноў крануліся у шлях,

памроіўся, застыў ў маіх вушах
кліч з могілак, гартанна-металічны:
«Гэта ты, «Б'юік»!
Гэй ты, «Лінкольн» сталічны!
Чаго імчышся ты на ўсіх парах?
Хіба табе, шаноўны, невядома,
што ты ў гасцях яшчэ, а мы ўжо дома?
Спыніся і ўшануй наш прах!»

«І ты, шыкоўны «Лінкольн», і ты, «Форд» навейшай мадэлі, і вы, бліскучыя «Кадзілак» і «Крайслер», што так безуважна імчыцеся міма, і вы, нашы замежныя сабраты «Фольксваген», «Вольво», «Дансун»[1], што так безаглядна радуецеся сваёй канкурэнтаздольнасці і таксама не звяртаеце на нас ніякай увагі,— усе вы не станеце, спадзяемся, адмаўляць, што і мы ў свой час гэтак жа, як і вы, імкліва імчаліся па шляхах-дарогах... Вы не станеце, спадзяемся, адмаўляць, што і мы ў свой час, гэтак жа, як і вы, верна служылі чалавеку, цешылі яго вока, эканомілі яго сілы і час, стваралі яму камфорт. Мы верна служылі яму, а ён...

А ён вось так аддзячыў у адказ.
Ён нас — на злом,
на лом,
на сметнік.
Так, вы яшчэ ў гасцях,
ды прыйдзе час...
Ды помніце:
з вас кожны ўжо — смертнік.
І колькі б вы ні выціскалі міль,
наш лёс чакае вас усіх... Амінь!»

[1] Апошнія тры назвы ў адрозненне ад папярэдніх, амерыканскіх,— маркі машын, якія пастаўляюць на амерыканскі рынак, адпаведна, заходнегерманская, шведская і японская фірмы.

## БЕДНЫЯ, БЕДНЫЯ БЕДНЯКІ

Цярпець не магу бедных,— раптам падумаў ён,— ненавіджу іх за тое, што яны бедныя.
*Ф. С. Фіцджэральд. Вялікі Тэтсбі*

Глэдзіс цягнула яго ў дарагі рэстаран, каб палюбавацца на багатую, элегантную кампанію, пагля́дзець, як ядуць высакародныя людзі. Яна горача любіла багатых і гэтак жа палымяна ненавідзела беднякоў.
*Э. Сінклер. 100%*

Канэлі ненавідзеў нястачу саму па сабе. Па словах Джонсана, якія былі сказаны ў прыватнай размове, Канэлі адчуваў сябе добра толькі ў касдюме за трыста долараў, у чаравіках, зробленых на заказ, і ў кампаніі людзей, апранутых гэтак жа, як ён.
*У. Манчэсцер. Забойства прэзідэнта Кенэдзі*

Мудрасці даўняй урок
я атрымоўваў рана:
«бедность — не порок»,
«беднасць — не загана».
Так гаварыў народ.
Так сцвярджала ява.
А тут другі падыход,
тут другая справа.
Дзе ўжо тут да любві,
да памяркоўнай спагады!
Гані яго, беднага, бі,
кляймі апошняй пагардай!
Не давярай бедняку!
Будзь цвёрды, як ойча Кальвін.
Працягне нябога руку —
дай замест хлеба камень.
Бравая ледзі адна,
сваячка духоўная Спенсера,
клікнула весела-песенна:
«Беднякам — вайна!

Ім не аб'явіш вайны,
будзе нам разам цесна.
Тут жа стануць яны
тормазам для прагрэса...»
Хай вам імя — легіён.
Ды жыць не ўмееш багата,
не ўмееш нажыць мільён,—
ты — персона нон грата.
Калі ж ты сам бядняк,
як быць тады з беднякамі?
Ад іх адбівайся ўсяк —
нагамі і рукамі.
Паколькі ўсё зло і дрэнь
у іх, немаёмных Джонах,
ад іх уцякай далей,
як ад пракажоных.
Сам не будзь беднатой!
Адкінуўшы страх і пакору,
па лесвіцы той залатой
карабкайся, лезь угору.
За ногі трымаць будзе хтось,
хтось будзе чапляцца за крыссе,
бі ў зубы, зганяючы злосць,
і да свайго імкніся.
Ірві з беднатой, з дабратой,
душу выганяй дубінай,
і будзеш ты на крутой
ступеньцы жаданай драбіны.
Здабудзеш ты мільён,
і зменіцца ўсё адразу:
знімуць з цябе праклён,
змыюць з цябе праказу.
Усчэпіш ты хоць адзін
брыльянт на сабачы ашыйнік,—
і ты ўжо грамадзянін,
і ты ўжо суайчыннік...
Што ж меў на ўвазе народ,
які вучыў старанна:
«бедность — не порок»,
«беднасць — не загана»?

**ВЯСЕЛЬНЫ ГУСЬ**
**Сучасная амерыканская песенька**
**ў вольным перакладзе**

Паслухай, Том, паслухай, Том,
ты любіш сваю Лолу?
Ты дорыш ёй сто тысяч тон
трынітраталуолу?
Сто тысяч тон,
сто тысяч тон
трынітраталуолу!
Не нейкі там грашовы чэк
або камплект пасцельны...
Запомню, любы Том, навек
падарак твой вясельны.
Мае падушкі — без вагі,
гасцінец мой — пуховы.
А твой, а твой зусім другі:
шматтонны, выбуховы.
Не знаю толькі, як мне быць
з дабром, што прываліла?
А можа, фарш з яго зрабіць?
Вось гэта будзе сіла!
Начынім фаршам тым гуся,
яшчэ належным чынам
нафаршыруем парася,
яшчэ пірог начынім.
Хай ад закусак гнецца стол,
згінаецца да долу!..
Сто тысяч тон,
сто тысяч тон
трынітраталуолу!
Я ўяўляю, мілы Том,
як гэта усё будзе.
Гасцей збярэцца цэлы дом,
збярэцца мнагалюддзе.
Я беласнежная уся,
а ты ўвесь чорна-белы...
Садзімся ўсе вакол гуся,

сядзім, пакуль ён цэлы.
Ды хтось бярэцца ўжо за нож,
прымерыўся… Не, Томі!
Занадта страшна гэта ўсё ж! —

Ні нас, ні сцен, ні столі!
Тваю фантазію цаню,
размах твой незвычайны.
Ды пашкадуй любоў маю,
пярсцёнак свой вянчальны.
Паслухай, Том, паслухай, Том!
Прыходзіць думка ў голаў,
чым замяніць сто тысяч тон
трынітраталуолу…
Сто тысяч тон,
сто тысяч тон
трынітраталуолу!
Тол больш не ў модзе, не ў цане.
Замест той мегатоннай,
лепш, Томі, адары мяне
ты бомбачкай нейтроннай.
Яе гатовы ўсе хваліць.
З ёй, Том, не будзе страшна.
Яна нас ціха спапяліць,
нас і вяселле наша.
Вось будзе здорава — ха-ха!
Спаліў агонь пякельны
гасцей, нявесту, жаніха,
ды цэлы гусь вясельны.
Смерць тая — як вада з гуся.
Мы мёртвыя, ён цэлы.
Я беласнежная уся,
а ты ўвесь чорна-белы…
Яшчэ больш страшна, любы Том!
Ты чуеш сваю Лолу?
Вазьму я лепш сто тысяч тон
трынітраталуолу.
Сто тысяч тон,
сто тысяч тон
трынітраталуолу!

## «ХАЧУ ЖЫЦЬ МАРУДНА..»

Старога фільма кадры...
Зялёны воз паўзе.
Абняўшы свой воз пакаты,
фермер песню пяе.

Воз то робіць крэн,
то зноў плыве,
                        як судна.
Фермерскай песні рэфрэн:
«Хачу жыць марудна».

Паціху скрыпіце, колы,
пакрыху тупай,
                        мой конь,
травінка,
            пяткі паколвай,
былінка,
                        лашчы скронь.

Хачу, каб міг самы дробны
пражыць і заўважыць, каб
жыцця залатыя кроплі —
кап-кап-кап...

Сусед на аўтамабіле
памчаўся кудысьці ў свет,
памчаўся ў дыме і пыле...
Куды так спяшыш, сусед?

Ты ж ведаеш,
                        сказана мудра:
там добра,
            няма дзе нас.
Сусед,
            пабудзь марудам,
сусед,
            збаў крыху газ.

Калышацца конская грыва...

Мне з маёй цёплай травы,
мне з воза відаць асабліва.
Куды леціцё так вы?
Як з гары, як з абрыва!
Як на злом галавы!

Амерыка, што з тваім людам?
Куды так бяжыць, спяшыць?
Хачу быць марудам,
марудна хачу жыць!

## УЗОРЫ ГАНДЛЁВАЙ ТЭЛЕРЭКЛАМЫ

Ты — мой лёс,
ты — мая зорка,
ю а май ста...
Дзеля цябе скокну з маста
на віду ўсяго Нью-Йорка.
Цешуся тварыкам тваім мілым.
Ды быў бы мілей ён і цікавей,
калі б ты мылася іншым мылам —
фірмы «Камэй».

*

— Вам не шанцуе, міс, у каханні?
— Вы хочаце быць шчаслівай, мэм?
Тут сродак адзін: ужывайце крэм
«Рэўлон кампані».

*

Джон, я ўчора была з другім...
Не, я сустрэла не супермэна,
не, ён зусім не шэрыф Макена.
Ды ён быў апрануты адменна,
быў незвычайны гальштук на ім.
Джок, я гатова цябе любіць,
быць вернай табе да дамавіны.
Але для гэтага ты павінны
гальштук якраз такі купіць.
Хочаш, сама ў магазін пазваню.
Купім — зноў вернем згоду і мір мы.
(А на экране — назва фірмы,
адрас на Лексінгтон-авеню,
паштучная, парная цана,
гальштук той фірмы, ён і яна.)

## СВАБОДУ ДЖОНУ ХАРЫСУ!

*Каты заняты сваёй справай.*
Джэймс Волдуін

Мне падабаецца пільнасць газет,
іх здольнасць вось так,
без фразы, без фарсу,
крыкнуць трывожна на ўвесь свет:
«Свабоду Джону Харысу!»

Чорным па белым —
нядрэмным пяром.
Значыць, іначай нельга.
Значыць, дзесь зло
бярэ верх над дабром...
Людзі, ратуйце негра!

У болю людскога і вясны
ёсць рыса адна агульная —
раптам заліць абсяг зямны,
запоўніць сэрца чуйнае.

Вясна за акном маім плыве
пад воблакам, як пад парусам.
Гляджу на вясну, а ў галаве:
«Свабоду Джону Харысу!»

Бачыў я чорны, як вугаль, Гарлем.
Здавалася: ў тым, як выжара, Гарлеме
лёсы ў пакутах вякамі гарэлі,
перагарэлі — на боль і гнеў.

Бачыў Гарлем — чорны, як ноч.
Бачыў труп негра на яркім Брадвеі:
побач ляжаў акрываўлены нож,
навокала плямы барвавелі.

Якога колеру ў негра кроў? —
дазнацца ў расіста я стараюся,

пытаюся ў спраў заплечных майстроў...
«Свабоду Джону Харысу!»

Я слухаў у зале ААН удаву
Марціна Лютэра Кінга.
Словы, як росы на траву,
падалі ціха-ціха.

Яна гаварыла аб сіле пакут,
аб тым, каб цярпець ахвяры ўсе...
Місіс Кінг, а як быць тут?
«Свабоду Джону Харысу!»

Хваліцца алабамскі кат:
«Электракрэсла ў рабочым стане».
Маўляў, як толькі будзе загад,
то справа за ім, за катам, не стане.

Чуеш, калега? А ты копіш злосць
на сябра па цэху, на брата па класу.
Для злосці другія аддушыны ёсць.
«Свабоду Джону Харысу!»

«Вязні, дзейнічаць будзем ці не?» —
рашуча пытаўся Джон Харыс.
Што думае ён аб новай вясне?
Што бачыць у камеры зараз?

Так, я падзяляю пільнасць газет,
Злачынна прыпадабняцца страусу.
Няхай увесь свет грымне як след:
«Свабоду Джону Харысу!»

## ВЕЧНЫ СОН, ВЕЧНЫ ЗВОН
**Хатынскі трыпціх**

**1**

Вы чулі, як у Хатыні
звоняць каміны?
Кроў у жылах стыне,
як слухаеш тыя званы.
Ероў у жылах стыне...
Слухаеш і маўчыш.
А наўкола — пустыня,
а наўкола — ціш.
Толькі адны каміны,
толькі адны званы,
толькі адны яны...

**2**

Дзінь-дзінь,
дзінь-дзінь-дзінь...
Што гэта звініць, Хатынь?
Тут звінелі сініцы і палазы,
і звінелі жаўранкі ў паднябессі.
Тут звінелі дзіцячыя галасы,
тут звінелі дзявочыя песні.
Тут звінела пчала,
і звінела піла,
і звінела каса,
і звінела даёнка,
і звінелі, на радасць усяго сяла,
тут вясельныя бомы звонка.
Дзінь-дзінь,
дзінь-дзінь-дзінь...
Што гэты звініць, Хатынь?
Што значаць яны, твае званы?
Ці гэта гучаць адгалоскі
той вёскі, што была да вайны,
той колішняй мірнай вёскі?
Дзінь-дзінь...
Паслухайце, ці не едзе
гэта вяселле недзе?

Ды хто ж нявеста і жаніх,
калі нікога няма ў жывых?
Дзінь-дзінь...
А гэта не коні ў жытным?
Ды коні патрэбны толькі жывым,
а мёртвым ніколі
не патрэбны коні.
Дзінь-дзінь...
А гэта не сырадой
цурчыць у даёнку з пенай густой?
Не, мёртвым сном у Хатыні
спяць усе гаспадыні.
Дзінь-дзінь...
А гэта не юны смех,
не голас дзіцячых забаў і ўцех?
Не, спалены усе дзеткі,
спалены ўсе малалеткі.
Дзінь-дзінь,
дзінь-дзінь-дзінь...
Што гэта звініць, Хатынь?
Што значыць тваіх каміноў перазвон?
Ці гэта звініць твой вечны сон?
Ці, можа, у гэтым звоне —
вечнае бяссонне?
Дзінь-дзінь,
дзінь-дзінь-дзінь...

**3**

Звіняць, як калісь, на ўсю сваю сінь
сініцы і жаўрукі.
Але не чуе ніхто іх «дзінь-дзінь»,
ніхто не глядзіць з-пад рукі.
Узялі ў Хатыні слых,
зрабілі глухімі ўсіх.
Узялі ў Хатыні зрок,
далі Хатыні змрок...
Стаяць, як калісь, усцяж каміны
там, дзе былі двары.
Але не дымяць, а звіняць яны,
звіняць ад зары да зары.

Дзіўныя гэтыя каміны!
Дыміць бы весела ім,
грэць бы неба духам жывым,
цяплом жывым, а яны…
Ды ў гэтым няма іх віны.
Гэта віна вайны,
гэта віна вайны,
гэта яна,
          вайна,
                    дала камінам званы.

*1969*

* * *

Пасля летняга поўдня,
пад вечар,
калі ўціхлі дрэвы і вецер,
перад тым, як ляцець на спачын,
птушка песню сваю запела,
птушка пела лёгка і смела,
птушка пела вось аб чым...
Як яна вярталася ўвесну
да свайго саду,
свайго лесу,
як яна гняздо віла,
як яна на яйках сядзела,
як яна птушанят глядзела,
выпускала ў свет з-пад крыла,
як яны, увабраўшыся ў пер'е,
з вышыні махаюць цяпер ёй,
як займае яе іх гульня,—
як яна сваю справу любіла,
як усё, што трэба, зрабіла,
як зрабіла усё, што магла.
Пела птушка складна і ладна,
пела птушка безаглядна.
Пра сябе, пра сваё птушаня.
Пела птушка пра ўсё пра гэта,
пела птушка ў канцы лета,
ў канцы ціхага летняга дня.

*1969*

## «ГАВАРЫ СА МНОЙ ЛАСКАВА...»

Я не помню ўжо,
што сказалі мы ёй,
нашай Лесі-гарэзе,
дачцэ і сястрычцы сваёй.
Можа, крыўднае нешта
пачула ад брата,
можа, ён і прыкрыкнуў грубавата,
калі брала яна замест цукару соль.
Можа быць, я сказаў:
«Не даруй, не сваволь!»
Помню толькі:
на тварыку ўспыхнула краска.
Помню толькі:
яна паглядзела на нас.
І сказала мне ціха:
«Гавары са мной ласкава...
Гавары са мной ласкава...»
І заплакала ўраз.
І заплакала горка.
Салёныя слёзы глытала.
Кулачком расцірала
па мурзатай шчацэ.
Стаў я голас зніжаць,
суцішаць яе стаў,
ды няўдала.
«Гавары са мной ласкава»,—
паўтарала яшчэ і яшчэ.
«Ну, не плач, наш Лісёнак,
мы ж гаворым з табою ласкава.
Ну, не плач, ну, прабач!
Хочаш, я адшукаю твой мяч?
Хочаш, дом намалюю,
раскажу табе казку я?
Гавару з табой ласкава...
Ну, не плач, ну, прабач!»
«Не, не так ты гаворыш,—
яна паўтара настойліва.—
Ты гаворыш не ласкава...»
Так расчуліла крыўда яе,
так расстроіла, так настроіла,
што яна пачала выліваць

усе крыўды свае.
Прыгадала яна,
як сварылася няня,
прыгадала яна,
як зняважыла Таня,
прыгадала,
як Вова з ясельнай групы
быў з ёй грубы.
Прыгадала,
як некалі ў лесе, на дачы,
куды летам вывозілі садзік дзіцячы,
хтось сказаў: «Адыдзі ад акна».
(Што тут мела на ўвазе яна?)
Прыгадала скрозь слёзы ў адчаі,
як нейкія цёткі накрычалі
на яе у суседнім двары...
«Ты са мной ласкава гавары...
Гавары са мной ласкава».
Я запэўніваў Лесю,
што ніколі не буду
ні крычаць, ні грубіць,
гаварыць буду ласкава,
ветліва,
весела,
буду з Лесяй гуляць,
буду Лесю любіць.
Праясніўся нарэшце у Лесі тварык,
усміхнулася Леся нарэшце мне.
Зноўку сонейка выглянула з-за хмарак.
Зноўку зайчык забегаў па сцяне...
Доўга я не забуду той споведзі Лесінай.
Колькі ў ёй было горкага пачуцця!
Вось і ёй ужо, думаю, крыўды нанесены,
і яна гэта знае на пятым годзе жыцця.
І яна за правы свае паўстае.
Пачуццё справядлівасці,
годнасці ўласнай,
мабыць, разам з жыццём
нам прырода дае...
«Гавары са мной ласкава,
гавары са мной ласкава».

*1969*

## ПАЎДНЁВАЕ ЎРАЖАННЕ

Самота гары. Гара самоты.
Аднойчы, калі настане пара,
прыйду да цябе, як прыходзяць сіроты,
як да раўніны прыходзіць гара.
Буду я рады нашай сустрэчы.
І вострыя, згорбленыя ад бед
я нахілю над табою плечы,
так, як гара нахіляе хрыбет.
Буду любіць я цябе раўніва,
як ценем, пяшчотай цябе агарну.
А ты мяне будзеш любіць,
як раўніна
любіць адзіную гару?

*1969*

## МОРА, СОНЦА, Я І НАША КАХАНАЯ

Наіўны, я думаў:
ты толькі мая.
Уласнік, я думаў,
што ты мая ўласнасць.
Ды мора і сонца ўнеслі тут яснасць,
з морам і сонцам дзялю цябе я.
Ты ў мора пайшла,
і насустрач табе
яно закіпае пяшчотай любоўнай.
Яно цябе любіць і мераю поўнай
усю сваю страсць табе аддае.
Я не магу адвесці вачэй.
Жанчына і мора!
Дзве вольных стыхіі!
Хвалі марскія і грудзі тугія,
белая пена ля белых плячэй!
Бога марскога я малю,
прасіць яго ў адчаі мушу:
«Вярні мне любую маю,
вярні каханую на сушу».
Нарэшце дайшла малітва мая.
Ты з мора выходзіш —
уся салёная,
ты з мора выходзіш —
як мора, зялёная,
«у мора ўлюбёная»,—
думаю я.
Насустрач іду я
і выгляд раблю,
нібы не знаю ніякага мора,
нібы не знаю ніякага гора,
нібы спакойна,
разумна люблю.
Выгляд раблю,
што я не Атэла,
спакойна кажу я табе:
адпачні.
Твая галава на маім плячы.

Ды бачу:
ты сонцу даверыла цела,
працягваеш рукі насустрач яму,
сонцу любімаму свайму!
Жанчына і сонца!
Хіба вас падзеліш?
Хай свеціцца дзень ваш!
А быў бы, як сонца, я малады,
і быў бы, як сонца, я пяшчотны,
лашчыў бы так твае плечы і шчокі,
што ў сонца адбіў бы цябе назаўжды...
Наіўны, я веру, што можна адбіць,
што можна набыць, прысвоіць стыхію,
зрабіць рабыняю багіню.
Стыхію можна толькі любіць,
багіню можна толькі любіць!
Нельга адбіць,
набыць,
купіць,
толькі любіць,
толькі любіць!
Гора мне, ўласніку, гора,
о мора!..
*1969*

* * *

Твая воля — як воля лесу.
Ты сустрэла мяне вясной,
павяла мяне за сабой,
павяла,
            узвяла да нябёсаў.
Была лёгкасць такая ў кроках,
мае рухі такімі былі,
што не знаў я: іду па аблоках
ці імкліва лячу па зямлі.
Мне шчаслівая зорка міргала,
хітравата падміргвала мне...
А затым ты мяне звяргала,
павяла на зямлю па вясне.
Пазбаўляла крылаў шырокіх:
«Хопіць, мілы, лунаць у аблоках,
пахадзі па зямных шляхах,
пахадзі на ўласных нагах».
І пайшоў я з надзеяй і страхам
тым зямным, тым цярністым шляхам,
мне нялёгка ісці было,
я ў адчаі хмурыў чало.
Сустракаліся лужыны, смецце,
былі ўхабіны і карчы.
Мне хацелася уцячы,
мне хацелася часам смерці.
Ды хацеў я, відаць, замнога.
Ты казала мне строга: «Жыві!
Была воля тваёй любві —
нібы воля лесу зямнога.
І я не мог пярэчыць...

*1970*

## АД'ЕЗД

Што я яшчэ магу,
сказаць у гэты час?
Жывіце без мяне,
я буду жыць без вас.

Я ўдзячны вам за ўсё,
ды я сягоння пас...
Жывіце без мяне,
я буду жыць без вас.

Хапіла усяго —
і ўвагі, і абраз...
Жывіце без мяне,
я буду жыць без вас.

Былы парыў заціх,
былы запал пагас...
Жывіце без мяне,
я буду жыць без вас.

*1973*

## ПРАЦЯГ ПЕСНІ

*Мы смело в бой пойдем*
*За власть Советов,*
*И как один умрем*
*В борьбе за это.*
З рэвалюцыйнай песні

І будзе так.
І будзе цяжкі бой.
І кроў пральецца.
І ахвяруем мы сабой
за лад савецкі.
А перад тым, як стрэць смяротны час
за нашу ўладу,
мы хочам вам пакінуць свой наказ,
сваю параду.
Не, не, мы не аб лаўрах... не аб тым.
Ніхто не просіць
пісаць імёны нашы залатым,
на шчыт узносіць.
Не дзеля славы мы на бой ідзём,
на подзвіг гэты,
а за ідэю плоці мы жыццём,
а за Саветы.
Ва ўладу нашу свята верым мы.
Як іншы ў бога.
Яна і ёсць наш бог зямны.
Няма другога.
І вы, хто прыме перамогу ў нас,
як эстафету,
аберагайце — вось вам наш наказ —
уладу гэту!
Аберагайце ад нячыстых рук.
Ад вока злога.
Ад душ двурушных, хіжых, як павук.
Ад дэмагога.
Ад тых, хто будзе дбаць, як і калісь,—
што ім Саветы,—
пра сваю скуру ды сваю карысць,

пра свае мэты.
Мы знішчым класы і варожасць рас.
Старое зрынем.
Вы памятайце: хопіць і на вас
усякіх злыдняў.
Аберагайце гэты светлы сцяг —
ад казнакрадаў,
ад інтрыганаў, хлусаў і суцяг,
ад бюракратаў.
Аберагайце! — Вось вам наш наказ
і наша воля.
Нічога больш не хочам мы ад вас.
Нічога болей.

**1969—1979**

## У ЮРМАЛЕ[1] ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ГОД

Тут новы, вышынны дом.
Жыву я на восьмым паверсе.
Бачу я: снег на беразе,
а мора само — пад ільдом.
Выходжу я ў парк стары.
Пагляд асвятляе здагадка:
«Вунь домік той, тая хатка!
Стаіць да гэтай пары!
Ці помніць яна мяне?
Ні следу далей, ні дарожкі.
Іду па цаліне...
На вокнах, крыж-накрыж, дошкі.
Домік, што ў дзюну ўрос,
што мною не забыты,—
ці то да лета забіты,
ці то ўжо ідзе на знос.
Да сэрца падкочвае жаль.
Сумна гляджу на ўсё гэта.
І бачу: пагоднае лета...
Чайкі... кіпенне хваль...
Мы з сынам бяжым да вады —
проста з доміка, з дзюны.
Сын — яшчэ зусім юны.
І я — яшчэ малады.
Навыперадкі імчым.
Разам плывём, ныраем,
плёскаемся, загараем.
Не думаем ні аб чым.
Цешымся летнім раем.
Паўдзённая гарачыня
прыемна абпальвае плечы.
Сын — яшчэ хлапчаня.
І мне — толькі трыццаць з нечым.
Нешта каля дваццаці
наш з ім узрост сярэдні.
Думаецца аб жыцці,

[1] У Юрмале (Рыжскае ўзмор'е) знаходзіцца Дом адпачынку Літфонда СССР.

не думаецца аб старэнні.
Марская празрыстая сінь
зліваецца з сінню нябеснай.
Сын — у разгары маленства.
Я — у росквіце сіл...
Здаволіўшыся спаўна,
бяжым мы ў свой домік дашчаны.
І там, з рытуальнай пашанай,
п'ём мінералку...
                                        Яна
іскрыцца на шкле і губах,
астуджвае свежасцю вострай.
Аднекуль кухонны пах
даходзіць і дражніць ноздры.
Яшчэ мы чытаем удвух.
Яшчэ нам скрозь сон, начамі,
мроіцца мора гучанне,
шум сосен старых, што наўкруг.
Сын — яшчэ дзіця.
Я — з думкаю сталай на ўзлёце:
«Напоўненасць жыцця —
лепшае бессмяроцце».
Мінула дзесяць год,
пражытых неяк спехам.
...Бераг занесены снегам
і на моры — лёд.
Падае снег з дажджом.
Такі тут клімат зімовы.
Я вяртаюся ў дом —
новы, шматпавярховы.
Таго, што было, няма.
Ды ёсць у душы прастора,
дзе сходзяцца «сёння» і «ўчора»,
і лета і зіма.
*1979*

# ЗМЕСТ

Ала Сямёнава. Мера чалавечнасці

**ПЕСНЯ ПРА ХЛЕБ (1962)**
Адыход лета
Ноч непакоіцца
Дзявочая песня
Дожджык
Аграном
Веснавое
Стракоча сарока, стракоча...
*** Імчыць машына хуткай дапамогі...
*** Пад стукі вагонных калёс...
*** Многа ёсць на зямлі калек...
Шчаслівае рэха
Вяснушкі
Спатканне
Зарніцы
Вялікі старт
Стронцый
Сасна
Песня пра хлеб. Паэма

**ТРЫ ЦІШЫНІ (1961)**
Бар'еры
Тры цішыні
Ленінскі смех
Бурбоны вяртаюцца ў Парыя
Да пытання аб склерозе
Фасады
Здарэнне ля шлагбаума
Ода квітанцыі
Пра воўка памоўка...
Акіян і лужына
Абыякавасць
*** Хто вынайшаў веласіпед?..
Пра веліч
*** Гора — не бяда, бяда — не гора...
Маршальскі жэзл
Бяссрэбранікі
Комплекс непаўнацэннасці
Гнёзды
Балада пра спаленую вёску і жывога пеўня

Рэквіем па кожным чацвёртым
*** Яны да вайны гулялі «ў вайну»…
Ратунак
Дынаміка
Перад братняй магілай
Вой
Чалавецтва
*** Мне ўяўляецца гэта так…
*** Мы напачатку зазналі страху…
Веру!
*** Косім траву — яна не крычыць…
Спачуванне
Медсястры
*** Гэтым паспагадаем…
*** Вы зразумейце правільна…
Статак вяртаецца з поля
Прадмесце
*** Людзі простыя гадаюць…
Пахавальнае шэсце
Ноччу заплакала дзіця…
Рэчы
Дзякуй, тэрмас!
Нервы
Згубленае слова, ці Здарэнне ў аўтобусе
Дрэва жыцця
Тромбы
*** Куды вядзе месячны след…
Аз, букі і ведзі
*** Я любіў у дзяцінстве…
*** Ідуць, за рукі ўзяўшыся дзеці…
*** Ты ў такім шчаслівым узросце…
Сустрэчы
Развітанне
*** Калісьці, днямі асеннімі…
Пісьмо, каханне і дажджавая кропля
*** Мною забыта нямала…
*** Сведчылі месяц, ноч і я…
*** Пайшло яно — незваротнае…
*** Гэта не так ужо і сумна…
Эдзіт Піяф хоча любві
*** Самы светлы сон…
*** Мы жывём, каб вяртацца…
*** «Дзень добры, мама!» — кажу крыжу…
Мама мыла раму…
Замест эпітафіі

*** Сціраюць з карты белыя плямы…
*** Не ўсе і не заўсёды…
Жылі-былі…
Вяртанне

**ЧАЛАВЕЧЫ ЗНАК (1968)**
**ВЫСОКАЕ НЕБА ІДЭАЛА**

Высокае неба ідэала
Навагодні тост
*** Домік маленькі, бачу я, знеслі…
Дзве паралельныя прамыя
Бунт анёла
*** Што значым мы самі па сабе?..
*** Я фільм глядзеў…
Дзівак чалавек
Хунвэйбіны
Некалькі слоў пра лес
Рана ці позна
*** Вялікія, светлыя будынкі!..
*** Зноў шлак халодны…
Скажы мне, мама…
Маяк
*** Паміраюць ад кулі шалёнай…
*** Трэба вучыцца жыць у дзяцей…
*** Люблю зямлю, дзе ёсць дзіцячая казка…

**ЗЯМНАЯ СПРАВА**

*** Бачу: мне свята падрыхтавалі…
*** Абрастаем. Паперамі, рэчамі…
*** Прыходзіць вясна, разліваюцца рэкі…
*** Для меней разумных…
Размова
*** З жалем гляджу на дзіця…
*** Я прачынаўся з такім пачуццём…
*** Маўчанне бывае markznae…
*** Чалавек маленькага роста…
Зямная справа
*** Добра, што сінь за акном згушчаецца…
*** Вось і ты, як другія…
*** Ляцеў груган. Сеў на курган…
Жаданні

**ПЕРАХОПЛЕНАЕ ДЫХАННЕ**

*** Як дружна мы востраў свой абжывалі!..
*** Вось-вось растаюць ледзяшы…

*** Было так радасна і хораша!..
*** Гудзела, гуло ў маіх вушах...
*** Як мы жылі, як мы любілі?..

**МАЯ БЯДА, МАЯ ВІНА**
Дажынкі. Паэма
Заазер'е. Паэма
Мая віна. З паэмы «Даруйце!»
Вершы мае — пісьмы...

**З'ЯЎЛЕННЕ (1975)**
*** Што значыць сапраўдным другам быць?..
З'яўленне

1
Начны бераг. Паэма
Паэма мора

2
Аптымістычны верш
Пра дзярзанне
*** Бачу я: нехта некага любіць...
Там дома, у вёсцы
*** Цётка плакала па ўсім свеце...
Расказ напярэдадні лета
Іх апошняя воля
Параўнанне

3
Адлучэнне Талстога ад царквы
Размова з Ду Фу
Каментарый да карана
Варыяцыі на тэму «Гефест — друг Праметэя»
1. Даведка
2. Песня каваля Гефеста
3. Прызнанне Праметэя

4
Малочны кактэйль
Выхад з тупіка
Няма дурных
Непраметэі
Тры браты
Камары
Што сніцца курам

Анекдоты, ці малітва ў гасцях
Гара з гарой не сходзяцца…
*** Давайце ўважліва глянем…
Успамін былога вяскоўца
Элегія чакання
Вясновы закон
Той год незвычайны…
Парада юным закаханым
Свята
*** Што казалася, што адбывалася?..
Плач па нерастрачанай пяшчоце
*** Я жыў высока на гары…
*** Была узрушанасць парыва…
*** Тут адна спагада…
*** Пакуль не было цябе…
*** Мужчына. Жанчына. Чаканне…

**ЧАС ПЕРШЫХ ЗОРАК (1976)**
*** Ты кажаш, хлопчык, што ў цябе…
*** А ты ідзі, брат, чынна…
*** Сёння было мне горка…
Поезд справядлівасці
Тры прытчы
1. Дурман
2. Арол галодны і сыты
3. Мы, мёд і пчала
Тачыльшчык нажоў
Шарая гадзіна
Да герояў

**Песні п'есы - казкі**
**«СКАЖЫ СВАЕ ІМЯ, САЛДАТ»**
Было імя ў салдата
Два полі
Дзень той надыдзе
Балгарыі
Драўгістэ
Час першых зорак

**ВЕТРАНА (1979)**

1
Закон шчодрасці
*** Любоў адкрывае скарбы…
Талака

Адна з прыкмет закаханасці
Гледзячы на фотаздымак
З польскіх уражанняў
*** Пра месца ў жыцці, як дзеці...
Позірк з космасу
*** Ёсць сіла — будзе справа...
*** Трагічна-сумная няўвязка...
Выключэнне
*** Не трэба больш старацца...
*** Ёсць людзі — добрыя сапраўды...
*** Дзвярыма стукнулі напаследак...
*** Калі расстаёмся мы з нечым...
Туга метэарыта
*** Любоў нараджае не толькі дзяцей...
*** Пайшоў паслухаць — пачуў...
*** Каханне ў дваццаць пяць...
*** Не знаходжу сябе ранейшага...
*** Ветразь ёсць — плыві!..
Пытанне
Жаночая гордасць
*** Ты кажаш, сяброў усё менш і менш?..
*** Загадка з загадак...
*** Два шчасці ведае свет...
*** Хоць на сем пядзей розуму май...
*** Будзе шкада, як шкада бывае...
*** Мёртвым паставім абеліскі...

**Вершы - зонгі з лібрэта оперы**
**па матывах аповесці В. Быкава**
**«ВОУЧАЯ ЗГРАЯ»**

Я перад вамі з памяццю сваёй
Яшчэ невядома, хто болей жывы...
Дарога партызанская
Плач спаленай вёскі
Агонь
Сярод вялізнай, на ўвесь свет, вайны...

**З цыкла**
**«ЛЯСНЫЯ ПРЫМАЎКІ»**

*** Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць...
*** Хто ў лес, а хто па дровы...
*** Выходзіць, парадак. Ціша ды гладзь...
*** Болей дроў. І меней кастроў...
*** Вызначым першую тэзу...

**З цыкла**
**«СМЕШНЫЯ ВЕРШЫ»**

Прыкметы веку
Тры лепшых спосабы заварвання чаю
Час выбівання дываноў...
Цёмная сіла зайздрасці
Аднаму знаёмаму
Працэс выдалення алкаголю
*** Значыць, не трэба ім ні ўгнаенне...
Свята на бабровых тонях
Паслухаем і другі бок

2

Колькі лет, колькі зім! Паэма надвор'я

3

Стук малатка. Пачатак пасяджэння
Платны мост
Могільнік машын
Бедныя, бедныя бednякі
Вясельны гусь
«Хачу жыць марудна...»
Узоры гандлёвай тэлерэкламы
Свабоду Джону Харысу!

**ВЕРШЫ РОЗНЫХ ГАДОЎ**

Вечны сон, вечны звон. Хатынскі трыпціх
*** Пасля летняга поўдня, пад вечар...
«Гавары са мной ласкава...»
Паўднёвае ўражанне
Мора, сонца, я і наша каханая
*** Твая воля — як воля лесу...
Ад'езд
Працяг песні
У Юрмале праз некалькі год

Анатоль Ильич Вертинский
СВЕТ ЗЕМНОЙ

Избранные стихи и поэмы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура*

На белорусском языке

Рэдактары П. М. Макаль, ф. Д. Жычка
Мастак Ю. К. Зайцаў
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо
Карэктар К. У. Дзмітрыенка

ІБ № 1198

Здадзена ў набор 15.07.80. Падп. да друку 03.12.80. АТ 05292. Фармат 84x100 1/32 Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 21,06 + 0,09 укл. Ул.-выд. арк. 17,41. Тыраж 6000 экз. Зак. 831. Цана 2 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Вярцінскі А.**
Святло зямное: Выбр. вершы, паэмы.— Мн.: Маст, літ., 1981.— 430 с., 1 л. партр.

Паэзіі Анатоля Вярцінскага характэрна паглыбленая ўвага да духоўнага свету сучасніка, імкненне па-філасофску асэнсаваць складаныя з'явы жыцця.

У зборнік увайшлі лепшыя творы паэта з кніг «Песня пра хлеб», «Чалавечы знак», «З'яуленне», «Ветрана».